


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

11 ВЕРАСНЯ 1998 Г. № 37/3965 КОШТ 4 000 РУБ.










# Напачатку — слова

Пяты год на Беларусі адзначаецца Дзень беларускага пісьменства і друку. Месца правядзення кожнага з такіх свят выбіраецца вельмі ўважліва. Меркавалася, што сёлета ім будзе старажытны Пінск. Але яго чарга прыйдзе наступным годам — цяпер свята прымала старажытная Орша, горад, дзе ў XVII стагоддзі ў славутым Куцеінскім манастыры дзейнічала друкарня Спірыдона Собаля, быў выдадзены адзін з першых на Беларусі буквароў. Горад, чыё імя звязана са знакамітай Аршанскай бітвай, якая вывучалася ва ўсім свеце як прыклад вайсковага майстэрства. Орша — гэта і радзіма апостала беларускага адраджэння апошніх часоў Уладзіміра Караткевіча.

Святкаванне гэтае задумана як сімвал паяднання ў змаганні за духоўныя святыні прадстаўнікоў духавенства і навукова-творчай інтэлігенцыі. І ўжо пяты год у гэты час землі Беларусі абыходзіць непагасная лампада духоўнасці. Пяты год лампады і свечкі ў прыходах Беларусі — вялікіх і малых, абласных цэнтраў і вёсачак, у старажытных храмах і новазбудаваных — запальваюцца ад Жыватворнага агню, які штогод напярэдадні Вялікадня па малітве патрыярха Іерусалімскага сыходзіць на Гроб Гасподзень.

У навукова-творчай экспедыцыі "Шлях да святыняў" бралі ўдзел святары і мастакі, навукоўцы і пісьменнікі, журналісты і выкладчыкі. Мэта экспедыцыі — перагарнуць старонкі гісторыі і культуры нашай дзяржавы, народа, пісьменства; ад Еўфрасінні Полацкай — да нашых дзён, паспрыяць духоўнаму ўмацаванню народа і адраджэнню яго духоўных святыняў. Узначальвала экспедыцыю пісьменніца Ніна Загорская. Духоўную частку ачольваў айцец Сергій Кузьмянкоў, настаяцель прыхода ў вёсцы Тарасава, што пад Мінскам. Айцу Сергію даверана місія захавання Жыватворнага агню. Навуковай часткай экспедыцыі кіруе намеснік дырэктара Інстытута літаратуры Акадэміі навук Беларусі прафесар Сцяпан Лаўшук. Сярод удзельнікаў сёлетняй экспедыцыі — археолаг, прафесар Пётр Лысенка, рэжысёр Магілёўскага народнага тэатра Валянцін Ермаловіч, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка, прафесар, загадчык кафедры славістыкі БДУ Іван Чарота, рэжысёр народнага дзіцячага тэатра ў Любанскім раёне Ала Каткавец ды іншыя асобы.

На Беларусі Жыватворным агнём ужо было асвечана 55 прыходаў. У гэтым годзе шлях экспедыцыі праходзіў па трох абласцях нашай краіны — Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай.

*(Працяг на стар. 2—3)*

трэўся з міністрам культуры Аляксандрам Сасноўскім. Менавіта дзякуючы дапамозе ЮНЕСКА буйнейшае кнігасховішча краіны было аснашчана камп'ютэрным абсталяваннем. Ф. Маёр, пазнаёміўшыся з Нацыянальнай бібліятэкай, высока ацаніў план развіцця галоўнай бібліятэкі нашай краіны і ўвогуле ўзровень эстэтычнага выхавання на Беларусі. У ходзе гутаркі з А. Сасноўскім генеральны дырэктар ЮНЕСКА падкрэсліў, што рынычныя адносіны ў культуры — катастрофа для яе і што дзяржава заўсёды павінна захоўваць свае пазіцыі ў гэтай сферы. ЮНЕСКА прыняло рашэнне перадаць некалькі дзесяткаў тысяч долараў на праграму па беларускай геральдыцы.

Прыемным сюрпрызам для высокага госця стаў падарунак, які быў яму ўручаны ў час знаходжання ў бібліятэцы. Ф. Маёр атрымаў кнігу сваіх вершаў "Быць чалавекам", выпушчаную выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў перакладзе на беларускую мову.

Праблемы беларускай культуры, мастацтва і, у прыватнасці, тэатра абмяркоўваліся Ф. Маёрам у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, дзе прайшла сустрэча госця з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі нашай краіны. З прывітальным словам выступіў міністр культуры А. Сасноўскі, які запэўніў, што Беларусь заўсёды гатова выконваць свае абавязацельствы перад ЮНЕСКА. У гэтую буйнейшую міжнародную арганізацыю, якая займаецца пытаннямі культуры і навукі, Беларусь уступіла 44 гады назад. Асаблівага поспеху супрацоўніцтва Беларусі і ЮНЕСКА дасягнула ў галіне аховы гісторыка-культурнай спадчыны і традыцыйнай нацыянальнай культуры. У прыватнасці, пад аховай ЮНЕСКА знаходзіцца Белавежская пушча. ЮНЕСКА дапамагае і ў рэстаўрацыі Мірскага замка.

Падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве паміж ЮНЕСКА і Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі. Адбылося гэта падчас наведвання Ф. Маёрам НАН. Ф. Маёра пазнаёмілі з рашэннем апошняга пасяджэння прэзідыума акадэміі, паводле якога ён стаў ганаровым прафесарам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

**Н. К.**

сваёй зямлі — усё, зробленае экспедыцыяй, недарэмна.

**Па дарозе з Горак на Магілёў** у небе было дзіўнае знаменне — вясёлкавае кола вакол сонца, роўна напалам перакрэсленае следам ад самалёта — бела-чорнай лініяй... Гадалі — на ўдачу ці няўдачу знак?

Аказалася — на няўдачу. У **Магілёве** Непагасную лампаду духоўнасці чамусьці ніхто не чакаў. Не адбылася запланаваная сустрэча са студэнтамі Магілёўскага універсітэта, не адбыўся малебен у Трохсвяціцельскім кафедральным саборы. Склалася ўражанне, што мясцовыя ўлады былі няправільна інфармаваны пра сутнасць і склад экспедыцыі "Дарога да святыняў" — настолькі дзіўным выглядала імкненне аберагчы магілёўцаў ад кантактаў з паломнікамі. Хаця сярод іх былі не толькі пісьменнікі і навукоўцы, але і прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта, Камітэта па друку, дзяржаўных радыё і тэлебачання. Прытулак паломнікам дала Барысаглебская царква. Там адбыўся малебен, пасля — сціплая трапеза. Праўда, пасля некаторай паўзы прыезджых усё-ткі пасялілі ў гатэль. Але калі на наступны дзень аўтобус, за вокнамі якога стаялі абразы, перасек мяжу Аршанскага раёна, кантраст адчуўся адразу. Там чакала паломнікаў урачыстая сустрэча, кошыкі яблыкаў, караваі, Арэхаўскі народны хор і экскурсавод Юрка Копцік. А таксама машыны ДАІ, якія па ўсім раёне суправаджалі аўтобус.

**Дача Янкі Купалы "Ляўкі"**. Няма тут цяпер такога наплыву турыстаў, як раней. Рэдка прысаджваюцца на бронзавую лаўку да народнага песняра заезджыя смельчакі. Але ўсё гэтак жа кідае на пажоўклую траву жалуды Купалаўскі дуб, і коціць унізе, пад адхонам, хвалі бацька Дняпро. Незвычайна балюча і актуальна прагучалі там, ля помніка, з вуснаў рэжысёра Магілёўскага народнага тэатра Валянціна Ермаловіча словы Янкі Купалы да беларускага народа, адчайны заклік да свядомасці сваіх суайчыннікаў.

**Копысь**. Герб — чорны заяц на зялёным фоне. Кубкі з гэтым гербам вырабу мясцовых майстроў можна было набыць на ўчыненым з нагоды прыезду экспедыцыі свяце. Некалі копыская кераміка славілася па ўсёй Беларусі. Цяпер і гэтае рамяство сутыкаецца з матэрыяльнымі цяжкасцямі, многае забыта, але майстры яшчэ ёсць.

Хросны ход да Спаса-Праабражэнскай царквы. Малебен. Мясцовы настаяцель айцец Пётр захаваў у душы апантанасць сапраўднай веры. Адчуваецца, што ў тутэйшых жыхароў ёсць строгі і справядлівы духоўны пастыр.

Трохі ўзбоч галоўнай вуліцы Копысі — адхон да Дняпра. Праз магутную раку ездзіць паром. На тым беразе — родная вёска першага Прэзідэнта Беларусі, відаць школа, дзе ён вучыўся. Тут такія цудоўныя краявіды, што, здаецца, іх немагчыма не палюбіць усім сэрцам...

**Віцебск**. Свята-Пакроўскі сабор. Экспедыцыю сустракае епіскап Віцебскі і Аршанскі Дзімітрый. Пасля ўрачыстай літургіі — хросны ход на Святую Горку, туды, дзе на самым высокім месцы горада пастаўлены крыж. Хросны ход ідзе па праспекце, транспарт спынены. Людзі таксама спыняюцца, некаторыя перапытваюць адзін аднаго, што сёння за свята, вадзіцелі прыветна сігналяць. Бо сапраўды — свята адчуваецца.

Малебен на Святой Горцы. Некалі тут стаяў храм, кляштар, самая высокая званіца, з якой была відаць Полацкая Сафія. Званіцу і кляштар савецкія спецыялісты ўзарвалі, у храме да апошняга часу быў заапарк. Дасюль на сценах ганебныя надпісы — "ослы", "осторожно, собака кусается" і нешта падобнае. Але храм ажывае — і ўжо дзейнічае. А на месцы ўзарванага будынка пачынаюцца работы па яго аднаўленні. Віцебск — прыгожы, светлы горад, горад мастакоў. Ён адновіць свае святыні.




**Смальяны Аршанскага раёна.** Малебен у Спаса-Праабражэнскай царкве. Яна мае рысы стылю барока — прынамсі, так сцвярджаюць навукоўцы, і, як сімвал нашага лёсу, складаецца з дзвюх частак — ніжняй мураванай і верхняй драўлянай. На купале — жывапіс 18-га стагоддзя: велічныя фігуры апосталаў. Гэта сапраўдная беларуская храмавая архітэктура. Сустракалі паломнікаў вельмі ўрачыста, толькі адно было незразумела: чаму ў час хроснага ходу харугвы і напрастольны крыж неслі жанчыны, калі хапала маладых хлапцоў — яны прысутнічалі пасля на сустрэчы ў Сельгастэхнікуме. Думаецца, што прамова айца Сергія, які вельмі добра адчувае аўдыторыю, прымусіла некаторых з іх задумацца над тым, што ёсць вышэйшая незямная ўлада над чалавекам, перад якой рана ці позна кожны мусіць трымаць адказ за свае ўчынкі, і нічога ад яе не схаваеш, і нічым не адкупішся...

Непадалёк — руіны Смальянскага замка. Думаецца, што тут бывала каралева Бона, і мясцовы храм напэўна ж наведвала...

**Орша**. На ўрачыстую сустрэчу экспедыцыі каля Замчышча прыехаў епіскап Віцебскі і Аршанскі Дзімітрый. Хросны ход да Свята-Міхайлаўскага сабора і малебен, падчас якога адбылося мірапамазанне паломнікаў. Храм драўляны, вельмі ўтульны, пабудаваны на месцы знішчанага Савецкай уладай. Пасля — служба ў Свята-Ільінскай царкве, пры якой — жаночы манастыр з настаяцельніцай матухнай Антоніяй.

Вось і завяршэнне экспедыцыі — Дзень беларускага пісьменства. У Оршу пачынаюць з'язджацца дэлегацыі і проста цікаўныя. Уступае ў свае правы сцэнарый свята, тэатралізаванае прадстаўленне, асобы ў старажытных строях, прыезджыя высокія асобы. На першы план выходзіць свецкае. На свяце задуманы пляц "Аўтографаў" — месца, дзе можна купіць кніжку нашага пісьменніка і тут жа атрымаць ад яго подпіс. Вось толькі галоўны пісьменнік гэтага свята не дае аўтографаў, хаця атрымаў магчымасць прыняць першых гасцей — адкрываецца першая чарга музея Уладзіміра Караткевіча.



*Выступае Янка СІПАКОЎ*

**Куцейна**. Знакаміты манастыр. На жаль, і ён адчувае на сабе вынікі заняпаду духоўных святыняў. Рэстаўрацыя была, напэўна, не вельмі ўдалая. Рэшткі роспісаў, арак узмацняюць уражанне запусцення. У манастыры жыве цяпер усяго некалькі манахаў. Некалі Куцеінскі манастыр знаходзіўся за межамі горада, зараз гэта — цэнтр Оршы. За дзень перад нашым наведваннем на будынку манастыра была адкрыта мемарыяльная дошка ў памяць Спірыдона Собаля. У нас не часта ўспамінаюць гэтага беларускага першадрукара. Але ці выпадкова і ён, і, як нядаўна высветлена, Іван Фёдараў і Пятро Мсціславец былі родам з Магілёўшчыны?

У праграме свята — адкрыццё Рагвалодавага каменя, дакладней, ягонай копіі, бо сам помнік каменнай эпітафікі быў знішчаны ў 30-я гады.

Лампада з Жыватворным агнём ад Гроба Гасподня перададзена на захаванне ў Куцеінскі манастыр. Там яна будзе знаходзіцца да наступнага года, да наступнай экспедыцыі.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

*Імгненні Свята натаваў К. ДРОБАЎ*

АБСЯГІ

ВІЦЕБСК...

## Лужкоў прапаноўвае дах

Сталіцу "Славянскага базару" Віцебск наведалі маскоўскія архітэктары, і гэтая вестка імгненна абляцела ўвесь абласны цэнтр. Справа ў тым, што мэр Масквы Юрый Лужкоў, які ўпершыню сёлета наведаў "Славянскі базар" і быў уражаны тым, як пяцітысячная зала Летняга амфітэатра хаваецца пад парасонамі ў час дажджу, выраšыў дапамагчы пабудаваць дах. Калі ўсё будзе добра, гэты дах над буйнейшым амфітэатрам Еўропы з'явіцца ўжо ў наступным годзе.

## Іконы на фасадзе

На фасадзе Свята-Пакроўскай царквы ў Віцебску з'явіўся роспіс, выкананы па матывах шэдэўра Андрэя Рублёва "Святая троіца" мастаком Сяргеем Пятровым. У перспектыве на фасаднай сцяне звонку храма засвецяцца іканапісныя вобразатворы прападобнага Серафіма Сароўскага і найсвяцейшай Еўфрасінні Полацкай.

## Пленэр Драздовіча

На Дзісеншчыне прайшоў другі пленэр Язэпа Драздовіча. Правесці яго дапамаглі мастакі Алесь Марачкін, Віктар Крук, краязнаўца Ада Райчонак. Самабытны мастак зноў аб'яднаў майстроў розных стыляў і густаў з Віцебска, Мінска, Маладзечна, Верхнядзвінска, якія прайшлі шляхамі Язэпа, пабывалі на яго радзіме і могілках. Удзельнікаў пленэру гасцінна сустракалі культурна-асветніцкі цэнтр Драздовіча ў Германавічах (Шаркоўшчынскі раён), настаўнікі Чарневіцкай школы.

**Святлана ГУК**

ГРОДНА...

## Настаўнікі слухалі паэтаў

Напрыканцы жніўня ў зале пасяджэнняў Лідскага райвыканкама мясцовыя настаўнікі беларускай мовы і літаратуры сустрэліся з вядомымі паэтамі, гарадзенцамі Данутай Бічэль-Загнетавай і Алесем Чобатам. Жадаючыя маглі набыць кнігі з аўтографамі аўтараў. А лепшым настаўнікам за кошт Лідскай філіі Таварыства беларускай школы былі ўручаны кнігі, касеты, фотаздымкі. Сустрэлася Д. Бічэль-Загнетава і з супрацоўнікамі ААТ "Лідахарчканцэнтраты".

Такія кантакты лідчан са слыннымі людзьмі сталі ўжо традыцыйнымі. Нядаўна жыхары Ліды і ваколіцаў маглі паслухаць канцэрты, а пасля і пагутарыць з вядомым беларускім бардам Віктарам Шалкевічам і салістам групы "НРМ" Лявонам Вольскім.

**Лілія САЗАНАВЕЦ**

ГОМЕЛЬ...

## Творчы зеніт Ландарскага

Творчасць гомельскага жывапісца Роберта Яфімавіча Ландарскага, які некаторы час жыў у Ветцы, добра вядома ў Беларусі і за яе межамі. Персанальныя выставы мастака экспанаваліся ў Бранску, Чарнігаве, мінскім Палацы мастацтваў, Германіі... Зараз Роберт Яфімавіч адзначае саракагоддзе сваёй творчай дзейнасці. Яшчэ трыццаць гадоў назад ён разам з веткаўцам, добра знаёмым у рэспубліцы збіральнікам унікальных работ свайго народа, арганізатарам знакамітага народнага музея ў родным горадзе Фёдарам Рыгоравічам Шкляравым, зрабіў некалькі падарожжаў па Сожы і Бесядзі. У выніку іх стварыў серыю пейзажаў, якія ўпрыгожылі шматлікія выставы. Затым былі Прыпяць, Дняпро, Браслаўскія азёры — наша непаўторная Беларусь...

У гэтыя дні Роберт Яфімавіч вярнуўся з роднага для яго Сожа. Цэлую серыю пейзажаў мастак напісаў ва ўрочышчы Шубіна, што пад Веткай. Яны — услаўленне славянскай зямлі радзімічаў. Вядома, работы гэтага цыкла будуць экспанавацца на бліжэйшых выставах.

Роберт Яфімавіч з'яўляецца і аўтарам тэматычных карцін: "Вёска Радуга Веткаўскага раёна 9 мая", "Балада пра маці", "Травы лугавыя" і іншых. Застаецца дадаць, што Р. Ландарскі тройчы выбіраўся старшынёй праўлення абласной арганізацыі СМ, членам прэзідыума рэспубліканскага Саюза мастакоў.

## Узнагароды з Бургаса

Вядомыя творчыя калектывы прафесійных і самадзейных артыстаў Гомеля ад'язджаюць у краіны далёкага замежжа для ўдзелу ў розных конкурсах і фестывалях, дзе яны нязменна маюць вялікі поспех. У горадзе над Сожам даўно славіцца харэаграфічны ансамбль "Палескія зоры" Беларускага дзяржаўнага універсітэта транспарту (мастацкі кіраўнік — заслужаны дзеяч культуры рэспублікі Алег Коваль). Нядаўна нашы землякі пабывалі ў Балгарыі, дзе ўдзельнічалі ў 26-ым міжнародным фестывалі фальклору "Бургас-98", які сабраў артыстаў з 32-х краін Еўропы і Азіі. "Палескія зоры" пакарылі сваімі выступленнямі і журы, і шматлікіх гледачоў, былі ўзнагароджаны медалём, спецыяльным дыпломам і памятнымі сувенірамі.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

БРЭСТ...

## "Мая маленькая радзіма"

Для кожнага беларуса запаветнаю募 марaю павінна быць мара вярнуцца на маленькую радзіму, туды, дзе ты ўпершыню басанож прайшоўся па двары, дзе жывуць твае родзічы і суседзі, дзе цябе заўсёды чакае мама. Кіруючыся менавіта такою думкаю, брэсцкая абласная беларускамоўная газета "Народная трыбуна" ўжо другі год запар друкуе пад рубрыкаю "Мая маленькая радзіма" матэрыялы пра хутары, вёскі, мястэчкі Брэсцкага Пінскага Палесся, як пра тыя, што ёсць, так і пра тыя, якія ўжо зніклі. Сярод аўтараў — студэнты берасцейскіх ВНУ, настаўнікі школ вобласці, краязнаўцы, аматары роднага слова.

Пра 16 населеных пунктаў па колькасці раёнаў вобласці хутка з'явіцца падборка ў гісторыка-краязнаўчым і літаратурным зборніку "Берасцейскія карані", другі выпуск якога рыхтуецца да друку.

**Уладзімір ТАРАСЮК**

## Фестываль у Высокім

Традыцыйны фестываль эстраднай песні прайшоў у горадзе Высокае Камянецкага раёна. Яго арганізатары — аддзелы адукацыі і культуры райвыканкама, камянецкай эстраднай студыі "Надзея". Арганізатараў падтрымалі абласны камітэт саюза моладзі, Дзяржкамітэт па справах моладзі, а таксама шматлікія фундатары. У фестывалі прынялі ўдзел вядомыя спевакі, кампазітары, шоу-гурты з Брэста, Салігорска, Мінска, іншых гарадоў Беларусі, а таксама з Украіны.

**Сымон АКСЕНІН**

МЕРКАВАННЕ

# Культура і "культура"

МЫ ЯШЧЭ ДОЎГА будзем бачыць свет у фальшывым асвятленні міфаў-штампаў, народжаных савецкім часам і савецкім ладам жыцця. Аднак пільнае вока калі-нікалі заўважае тое, што прывычна не бачыцца, а разняволены розум прымушае час ад часу ўскрыкваць: "А кароль жа голы!". Асабліва жывучыя міфы, распаўсюджаныя ў культурна-ідэалагічнай сферы. Яны нібыта хочуць апрануць хворую душу сучаснага грамадства ў дзіравыя лахманы аджыўшых уяўленняў аб культуры і духоўнасці. Прынамсі, існуе міф аб народнай культуры, якая нібыта рэалізуецца праз сетку культасветніцкіх устаноў, інакш кажучы, клубаў. Мяркуецца, што "нізавая" культура народа ўвасабляецца праз мастацкую творчасць і мастацкую самадзейнасць і накіроўваецца шматлікай арміяй рупліўцаў-культработнікаў.

па сутнасці і сёння застаецца такой, якой была задумана і ўвасоблена яе стваральнікамі. Калі гэта не так, дык чаму самыя актыўныя "культурныя" акцыі, накшталт аглядаў самадзейнасці, нярэдка ладзяцца падчас Вялікага посту, а клубнае "мерапрыемства" са скокамі і рыпеўкамі падчас Святой літургіі нікога не абурае? І справа тут не ў антырэлігійнасці культасветніцкага чынавенства, а ў яго... антыкультурнасці.

У формах і змесце клубных устаноў шмат невыпадковага. Хібы культасветніцтва можна тлумачыць нізкім агульным узроўнем культуры насельніцтва, недахопам кваліфікаваных кадраў, грошай, ідэй і іншых спрыяльных умоў. Аднак як хібы гэтыя падаюцца мне як генетычна закладзеныя ў самой заганнай прыродзе культасветы.

Чаго вартыя так званыя "новыя абрады"? Штучнасць, змушанасць, неарганічнасць,

чыне, у Доме культуры маецца пасада дырэктара, мастацкага кіраўніка, хормайстра, і нават "дыскжакея". Пасады займаюць культурна заклапочаныя асобы з сярэдняй і сярэдняй спецыяльнай (не па спецыяльнасці) адукацыяй. Па сціплых падліках, дзяржаве гэты культурна-асветніцкі хаўрус абыходзіцца прыблізна ў 5-6 млн. рублёў штомесяц. Прычым, ні якімсьці сур'ёзным вакальным калектывам, ні харэаграфічным, ні драматычным, ні тым больш, хорам там і не "пахне". Затое, згодна з планамі і справаздачамі ў раён, праводзяцца (або не праводзяцца!) "мерапрыемствы", якія звычайна забяспечваюць дзве-тры выпадковыя "ўдзельніцы", разам з дырэктарам, мастацкім кіраўніком і "хормайстрам". Ды яшчэ танцы ў выхадныя ("дыскатэкі").

Прынамсі, на большае швабскія культработнікі не прэтэндуюць, але цяжка іх вінаваціць за тое. І суб'ектыўна і аб'ектыўна яны бездапаможныя, таму ў іх адна дастаткова апраўданая мэта і акрэсленая канцэпцыя: як больш-менш годна пракарміцца. Справа пачэсная, асабліва ў цяперашні час. Толькі вось каб неяк не за кошт культуры, ці хаця б не на шкоду ёй...

Напрыканцы другога тысячагоддзя кожная этнічная культура трывала пачуваецца ўсё на тых жа адвечных "трох кітах": рэлігійна-духоўным светасузіранні, фальклорнай спадчыне і экалагічным мысленні. Клубаўская "культура" ні на аднаго з гэтых "кітоў" не абапіраецца. Узгадаваная на вульгарных плынях і падыходах, яна не ўяўляе свайго месца паміж такіх высокіх катэгорый. У тых жа Швабах цераз дарогу ад клуба трэці год будуецца і ніяк не дабудуецца драўляная царкаўка. Аб будоўлі і аб збіранні сродкаў на будоўлю рупіцца... выхавацелька дзіцячага садка. Культработніцы ж справядліва лічаць, што гэта не іхні клопат. Яны маюць рацыю! Мусіць, прафесійная інтуіцыя даводзіць ім, што іх занятак несумяшчальны з духоўнасцю. У тых жа Швабах рэшткі маёнтка славутых братоў Тышкевічаў — маляўнічы куточак! — на вачахператвараюць у брудны сметнік. Прычым, не без удзелу "культуры". (Там на Купалле падлеткі паляць гумавыя колы, кожны год на розным месцы, а культработнікі як умеюць рэалізуюць дасланы з раёна "сцэнарый". Што пакідаюць пасля сябе такія "мерапрыемствы", можна ўявіць).

Чаму большасць нашых "байцоў культурнага фронту" звычайна самі невысокага культурнага ўзроўню? Здаецца, тут спрацоўвае эфект "замкнёнага кола". Сапраўдныя носьбіты культуры, мастакі-творцы не ідуць у культасвету, бо, на іх думку, сёння ў вёсцы няма з кім рабіць "культурную справу". У сваю чаргу, людзі не ідуць у клуб рабіць гэтую справу, бо няма да каго. Тым больш, што патрэбнасць у "культурнай справе" простыя людзі сёння адчуваюць на цьмяным узроўні глыбока схаванай генетычнай падсвядомасці. На паверхні ж маем тое, што маем. Уяўленне аб культуры, перавернутае з ног на галаву. І не толькі ў простага насельніцтва. Тэлебачанне, прэса, шаноўныя дзеячы мастацтваў, адарваныя ад вясковых рэалій, калі заходзіць гаворка пра "народную творчасць", чамусьці ўпадаюць у нейкае незразумелае замілаванне, неапраўданы энтузіязм, падмацаваны недарэчным пафасам. На самай ж справе у клубах правіць баль а н т ы к у л ь т у р а.

Сённяшні клуб найчасцей выконвае функцыі нейкага сацыяльна-грамадскага адстойніка прадуктаў дзейнасці псеўдакультуры. Так званыя "дыскатэкі" (танцы) у пэўным сэнсе біялагічна вымушаная маладзёжная з'ява. Але марна было б шукаць у ёй хоць якіх аналогій з колішнімі "вячоркамі" — з'яваю таксама біялагічна матываванай, але ў дадатак яшчэ і к у л ь т у р н а й. Што да "дыскатэк", дык зараз гэта з'ява хутчэй крымінальная, што, аднак, не перашкаджае ёй існаваць пад шыльдаю дзяржаўнай культуры. Між тым, сама дзяржаўная культура разам з духоўным перажывае яшчэ і глыбокі матэрыяльны крызіс. Не хапае грошай на выданне кніжак таленавітых пісьменнікаў, на рэстаўрацыю помнікаў і культурных святынь, на развіццё культурных сувязяў, на кіно, тэатр і многае іншае. Дык ці нармальна гэта, калі мажная вясковая кабета з пра-



Беспадстаўнасць гэтага міфа адчуваецца ўжо ў тым, што заўсёды, калі гаворка заходзіць пра самадзейную культуру, чамусьці хочацца гаварыць не пра культуру, а пра... яе дэфіцыт.

Адразу агаваруся, што пра тыя, адзінкавыя на Беларусі, мастацка-самадзейныя калектывы, створаныя таленавітымі асобамі, або нават раёны, дзе культасвету ўзначальвае а с о б а, тут гаворка не вядзецца. Таму што не яны, на жаль, утвараюць сапраўдны воблік культасветы, дый існуюць яны часта не дзякуючы, а насуперак гэтай культасвеце.

Народная, уласна самадзейная культура існуе столькі часу, колькі народ усведамляе сябе народам. З сівой даўніны яна ўвасаблялася ў фальклорных формах, гэта значыць цалкам стваралася народам, у літаральным сэнсе — самадзейна. Пазнейшае адгалінаванне прафесійнага мастацтва паўплывала на чысціню фальклорнага жанру не ў лепшым накірунку, а яшчэ пазней панягце самадзейнасць пачало набываць пераносны сэнс. Сёння самадзейнасць у "клубаўскім" выкананні — гэта пераважна або скажоны да непазнавальнасці нацыянальны фальклор, або вартыя жалю высілкі выглядаць "як сапраўдныя артысты". Скрозь адбываецца "падмена жанру", прычынай і вынікам чаго ёсць татальная неадукаванасць і безгустоўнасць большасці "носьбітаў" нашага культасветніцтва. Такая "культурная" палітыка ў выніку адсякае ад актыўнай дзейнасці натуральныя творчыя сілы этнасу, якія больш чым сціпла пачуваюцца яшчэ па нашых беларускіх вёсках і мястэчках.

Гэта зусім не бяскрыўдная з'ява. Вельмі часта ў атачэнні клубнай сцэнічнасці сцвярджаюцца "народныя таленты", якія па сутнасці і не народныя, і не таленты, а толькі дрэнны густ і шкодны прыклад, згубны сапраўды народнаму мастацкаму духу. Такая культурна-эстэтычная пераарыентацыя і блытаніна пагражаюць духоўнасці і культуры этнасу ўвогуле. Вясковыя маладзіцы на калгаснай сцэне з рэпертуарам Тамбоўска-Барысаўскага кшталту — гэта нацыянальнае стыхійнае бедства.

Такім чынам, праблема культуры народа натыкаецца на праблему культуры "культуры".

У сувязі з гэтым прыгадаю адзін выпадак з жыцця. У далёкія 70-я гады, малады і няопытны аўтар шэрагу тэлеперадач аб фальклорных калектывах рэспублікі, пачуў ад аднаго раённага загадчыка аддзела культуры фразу: "Вось малады чалавек хоча працаваць у нас у к у л ь т у р ы" (гэта — знаёмячы мяне з маладым, са школьнай лаўкі, прэтэндэнтам у клубныя загадчыкі). Я ўспрыняў словы загадчыка райаддзела, як дасціпны жарт, і вельмі смяяўся. Загадчык не разумеў, чаму. Атрымалася няёмкасць. Тады, па маладосці, я не ведаў, што пад райкама-абкамаўскімі шатамі высокае панятае культуры так цынічна зніжана. Пазней я прывык да чыноўніцкага "слэнгу", накшталт — "працаваць у культуры", але і ж сёння слова "культработнік" выклікае ўва мне непамыснае адчуванне.

Трэба разважыць, чаму так сталася. Трэба ўспомніць, з чаго пачыналася наша культасвета. На вёсцы эмбрыянальным правобразам сучасных дамоў і палацаў культуры была хата-чытальня. Але ці толькі дзеля асветы "цёмнага" люду прыдумвалася яна бальшавіцкімі ўладамі? Ці не болей дзеля "палітасветы", усёй сваёй сутнасцю варожа скіраванай супраць падмурку спрадвечнай і сапраўднай культуры народа — царквы? Тое, што ўстановы "новай" культуры будаваліся на рэштках разбураных храмаў, павінна было мець, мела і мае сакральны сэнс. Зрабіўшыся некалі магільшчыкам адвечнай культуры народа, "новая" культура (пралетарская, бальшавіцкая, ленінска-сталінская

ваяўнічая безгустоўнасць (у недалёкім мінулым — камуна-палітычная заангажаванасць) гэтых акцый самі па сабе здольныя вынесці смяротны прысуд клубнай дзейнасці. (Зразумела, у вачах культурнага чалавека). "Новыя абрады" дрэнныя не толькі таму, што яны дрэнныя. Страшна тое, што, культывуючы абрады "новыя", чыноўніцкая культасвета нібыта сцвярджае: "Старыя абрады састарэлі!", тым самым вынішчаючы пад корань і без таго занядбаныя апошнія парасткі сапраўднай народнай культуры. Бо чаму ж не састарэлі традыцыйна-культурныя звычаі народаў Францыі, Англіі, Італіі, Грэцыі, цывілізаваная гісторыя якіх старэйшая за нашу на сотні гадоў?

За сем дзесяцігоддзяў клуб так і не стаў культурным асяроддзем. Цікава, што самыя разумныя і шаноўныя ў вёсцы людзі звычайна пазбягаюць браць удзел у клубных справах, а ў самадзейныя артысты ідуць не толькі і не заўсёды самыя таленавітыя, а найперш "зухаватыя". Клубны "актыў" і актыў вяскова-культурныя, як правіла, — не адное і тое ж... У гэтым феномене я адчуваю праяўленне той схаванай (ці не пахаванай ужо!) этнічнай культуры, якая сапраўды заслугоўвае большага, чым псеўдафальклорныя ды эстрадна-калгасныя матывы, якія ёй прапануе клубная культасвета. Так званая культурна-масавая работа клубаў ужо даўно не м а с а в а я, а ў клубы не тое што артыстаў, ужо і гледачоў не дагукацца. У вёсцы каля крамы віруе сацыяльна-культурнае жыццё, шматкроць больш інтэнсіўнае, чым у клубе. Тут, "каля Крамы", выпрацоўваецца агульная думка, рэалізуюцца сацыяльна-грамадскія падыходы, абвяшчаецца інфармацыя — і ўсё гэта нязмушана, самадзейна-натхнёна, а, галоўнае, задарма.

Здаецца, ні сёння, ні ў былыя савецкія часы нідзе не назіралася такіх жудасных прыпісак, такога масавага ашуканства, як у "культуры". Гэтага вымагае само становішча спраў, калі сумленна апраўдаць грашовыя выдаткі на "культуру" не атрымліваецца. Прынамсі, у вёсцы Швабы, што на Лагойш-

стым, у сэнсе адукацыі, лёсам і нескладаным уяўленнем аб духоўным напружанні, за адным разам з "працаю" ў клубе гадуючы вепрукоў, атрымлівае столькі ж, колькі маладая таленавітая актрыса нацыянальнага тэатра, якая ў творчым пошуку трымціць душою, нібы тая асінка на ветры, літаральна ахвяруючы сваім жыццём і лёсам дзеля Культуры?

Становішча спраў, калі людзі, не маючы асаблівых талентаў, нейкай адмысловай адукацыі ці розуму, надта не высільваючыся на працы, атрымліваюць немалы па вясковых мерках заробак — разбэшчвае астатняе вясковае насельніцтва, якое зараз і без таго (і не без падстаў) схільнае да сацыяльнага нігілізму, губляе сацыяльныя арыенціры справядлівасці.

Усё вышэйсказанае, вядома, не азначае, нібыта трэба скараціць выдаткі на культасвету. Зусім не! Гаворка пра тое, што час вымагае рэформы ўсёй "нізавой" культуры. Патрэбна яе пераарыентацыя на духоўныя каштоўнасці, адпаведныя часу і нацыі. Дзеля гэтага найперш неабходна перастаць "камплектаваць кадры" ў клубах у прывычным сэнсе і заняцца стварэннем на месцах вытворчых адзінак "пад ідэю", "пад культурную канцэпцыю", "пад асветніцкую мэту", "пад асобу", "пад талент", урэшце "пад творчы калектыў, гурт, трупу". Пры такім падыходзе зэканомяцца значныя сродкі, якія зараз марнуюцца ў сотнях і тысячах культустаноў краіны, а шчодрае фінансаванне сапраўды культурнай справы дасць плён.

Культура прафесійная і культура аматарская — дзве паралельныя плыні ў моры народнай духоўнасці. А яшчэ гэта дзве адасобленыя краіны пад адным дахам Міністэрства культуры. На жаль, самадзейна-аматарскі струмень перасыхае ў пясках бездухоўнасці, і задача і прамы абавязак нашага галоўнага культурнага ведамства — павярнуць гэты струмень у культурнае рэчышча.

**Мікола ЗАХАРАНКА**

*Лагойскі раён, в. Швабы*

## “Песняй вітаю я вас!..”



**Так называецца свята паэзіі, прысвечанае Якубу Коласу, якое штогод праводзяць у першы восеньскі дзень музей Якуба Коласа і адміністрацыя Савецкага раёна Мінска. Вось і сёлета 1 верасня прыйшлі на плошчу Якуба Коласа вучні школ, навучэнцы вучылішчаў, студэнты тэхнікумаў, каб на пачатку навучальнага года атрымаць блаславенне народнага песняра.**

**Адкрыла свята паэзіі і павіншавала моладзь дырэктар музея Зінаіда Камароўская.**

**Шанаваць і любіць родную мову заклікаў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі паэт Сяргей Грахоўскі. Школьнікаў і студэнтаў ён параўнаў з птушкамі, што збіраюцца ў вырай. “Шчаслівага выраю ў Краіну ведаў!” — пажадаў на заканчэнне пісьменнік.**

**Артур Вольскі падзяліўся з прысутнымі сваімі ўспамінамі пра сустрэчы з Я. Коласам. Генрых Далідовіч, віншуючы прысутных з пачаткам навучальнага года, параўнаў працу настаўнікаў з працай пчол. Раіса Баравікова ўзгадала творы народнага песняра, якія ўзбагацілі не толькі айчынную літаратуру, але і сталі сусветнымі шэдэўрамі. Сваё выступленне яна завяршыла радкамі ўласнага верша “На плошчы Якуба Коласа”. Вершы, прысвечаныя роднаму краю, беларускаму песняру, прачытаў Мікола Аўрамчык. Іосіф Гарэцкі, вядучы інжынер-канструктар Мінскага завода колавых цягачоў, прачытаў ўрывак з паэмы “Новая зямля”.**

**У прысутных была магчымасць пазнаёміцца і сфатаграфавацца з малодшым сынам Якуба Коласа Міхасём Міцкевічам. Юных мінчукоў вітала і зычыла ім шчаслівай дарогі па вялікай краіне ведаў унучка народнага песняра, старшыня дзіцячага фонду “Сакавік” Марыя Міцкевіч.**

**Хараша, задушэўна гучалі песні ў выкананні народнага ансамбля “Коласавы землякі”, што прыехаў з Мікалаеўшчыны, роднай старонкі Якуба Коласа.**

**Загадчык аддзела культуры Савецкага раёна Мінска Уладзімір Шавялёў запрасіў да мікрафона юных паэтаў. Можа, у першы раз перад такой вялікай колькасцю слухачоў чыталі свае творы вучні мінскіх школ.**

**Невялікую танцавальную праграму падрыхтавалі ўдзельнікі мастацкага калектыву Валожынскага Дома культуры.**

**Тым днём плошча Якуба Коласа поўнілася звонкімі дзіцячымі галасамі, смехам. Гучала музыка. Нават скульптурныя героі твораў беларускага песняра Сымон і Ганна, дзед Талаш і Панас, здавалася, ажылі на момант, заварушыліся, сталі сапраўднымі ўдзельнікамі восеньскага свята.**

**Насця МАКРЫЦКАЯ**

*Фота У. ГУЗОЎСКАГА*

## Калі ласка, у Святую Зямлю

**Выдавецтва “Bratczyk”, якое працуе ў Гайнаўцы (Польшча), практыкуе выпуск праваслаўнай літаратуры на беларускай мове. Нядаўна тут пабачыла свет чарговая кніга — “Святая Зямля, Цуд Агню і Слава Аблокаў”, аўтарам якой з'яўляецца сястра Марыя (Юрчук). Дзякуючы яе аповеду, можна пабываць у дарагім сэрцу кожнага хрысціяніна месцы — Святой Зямлі. І не толькі пабываць, а і адчуць яе прыцягальную сілу — кніга багата ілюстравана.**

# Дыскурс свабоды

### ЭСЭ ПРА ЭСЭ

Валянцін АКУДОВІЧ

У 1588 годзе ў Парыжы пабачыла свет першае поўнае выданне “Essais” Мішэля Мантэня. Кніга не засталася па-за ўвагай (аб чым сведчыць хаця б той факт, што ў 1597 годзе, у Лондане, Фрэнсіс Бэкан друкуе свае “Essays”), але і да сёння падзея, якую стварыў Мішэль Мантэнь, не прысутнічае ў пераліку найбольш адметных з'яў еўрапейскай гісторыі, — а дарма. Вынайсці і замацаваць у літаратуры новы жанр (пры жаданні можна казаць і пра новы літаратурны род, месца якому сярод эпасу, лірыкі і драмы) — такое здараецца не кожны дзень. Дакладней, падобнае ні раней, ні потым ніколі не здаралася. Мы не можам хоць з якой мерай упэўненасці сказаць, хто вынайшаў драму, паэму, раман... А вось аўтара жанру эсэ можам называць абсалютна дакладна.

Але, надаючы вынаходніцтву Мішэля Мантэня мета-гістарычнае значэнне, я зыходжу нават не столькі з яго літаратурнай каштоўнасці (хаця аднаго гэтага было б даволі для якой заўгодна ўхвалы), колькі з каштоўнасці менавіта *гістарычнай*, бо ні адзін літаратурны жанр не паўплываў на фармаванне еўрапейскага чалавека ў такой меры, як эсэ.

Некалі Эдмунт Гусэрль казаў, што старадаўняя грэчаская філасофія і ў XX стагоддзі вызначае не толькі еўрапейскае мысленне, але лад ды кшталт самой еўрапейскай цывілізацыі. Як з майго гледзішча, то вялікі мысляр тут трохі перабольшыў. Так было толькі да 1588 года, да таго часу, калі пабачыла свет кніга Мішэля Мантэня, якая адкрыла еўрапейскаму чалавеку каштоўнасць суб'ектыўнага мыслення і, адпаведна, каштоўнасць індывідуума, як носьбіта гэтай суб'ектыўнасці.

Грэчаская мадэль мыслення, пры ўсёй яго інтэлектуальнай разняволенасці і светапогляднай размаітасці, як і пазней запанавалая, аднафарбавая юда-хрысціянская, мелі на мэце ўсталяванне канвенцыйнай ісціны, якая праз усеагульную дамоўленасць замацоўвала нейкі светапоглядны ці рэлігійны дагмат. Натуральна, што на ідэалогіі канвенцыйнасці сфармаваліся і ўсе роды літаратуры: эпас, драма і нават лірыка, якая толькі на першы погляд падаецца прэзентантам суб'ектыўнай сваволі прыватнага “я”, але па сутнасці застаецца ў полі эстэтычнай канвенцыі, за што сведчыць як кананізацыя формаў лірыкі, так і фармалізацыя эмацыянальных досведаў унутры гэтых формаў.

Мішэль Мантэнь, стварыўшы феномен эсэ, як форму інтэлектуальна-эмацыянальнага (інтэлігібельнага) самавыяўлення індывіда, прапанаваў еўрапейскаму чалавецтву мадэль зусім іншага, ад старагрэцкага і юда-хрысціянскага, светабачання ды самапачування і, урэшце, сацыяльнага ўладкавання, у якім наперад калектыўнага “мы” заступала індывідуальнае “я”. Неўзабаве Рэнэ Дэкарт сакралізаваў вынаходніцтва Мішэля Мантэня ў містычна-шматзначнай формуле “Cogito ergo sum”, дзе феномен існавання чалавека ўжо напрасткі быў звязаны з “Я — мыслю”. Трохі пазней, разгорнуты паўтара стагоддзямі еўрапейскай гісторыі, досвед Мішэля Мантэня рэвалюцыйна выявіўся ў канцэпцыі новай сацыяльнасці Шарля Мантэск'ё, які запрапанаваў пасекчы на кавалкі маналіт абсалютызму і такім чынам падзяліць уладу паміж заканадаўцамі, выканаўцамі і судом.

Зрэшты, каб прасачыць і зафіксаваць усе паследкі наробку Мішэля Мантэня ў ідэях, падзеях, постацях патрэбна асобная, капітальная праца, а я руплюся ўсяго толькі пра эсэ... Але менавіта з гэтага я не мог прамінуць успамінам Мішэля Мантэня, чалавека, які не напісаў ніводнага філасофскага трактата і ніводнага рамана, але без якога будзе няпоўным пералік як буйнейшых філосафаў той эпохі (Рэнэ Дэкарт, Фрэнсіс Бэкан, Готфрыд Лейбніц...), так і пералік буйнейшых пісьменнікаў (Франсуа Рабле, Мігель Сервантэс, Ганс Грыммельсгаўзен...). Хаця асабіста я схільны лічыць, што месца Мішэля Мантэня не ў шэрагу вялікіх мысляроў і пісьменнікаў Новай пары, а паперадзе і тых і другіх.

●

Жанру эсэ ўжо амаль пяцьсот гадоў, а ён па-ранейшаму застаецца жанрам без жанру. Шматлікія спробы зафіксаваць яго канструктыўныя элементы ніхто нават не спрабуе легітымізаваць, бо гэта відавочна марная справа. Таму пра эсэ заўсёды можна сказаць, што яно ёсць, але ніколі немагчыма сказаць, якім (чым) яно ёсць. Усе артыкулы ў энцыклапедычных даведніках, як і грунтоўныя літаратуразнаўчыя працы, прысвечаныя эсэ, — гэта толькі варыяцыі на тэму эсэ, суб'ектыўныя, як і сам жанр. Магчыма, адну суб'ектыўнасць можна палічыць устойлівай прыкметай эсэ, але што ёсць устойлівай прыкметай самой суб'ектыўнасці?

Мяжы паміж эсэ, артыкулам, аповедам, нарысам, лірычнай паэмай, трактатам — няма. Прынамсі, вонкі, знадворку. Форма ўсялякага жанру (тым болей яго асобныя элементы) можа рэльефна выяўляцца ў эсэ не замінаючы яму заставацца самім сабой, бо адрозненне эсэ ад іншых жанраў палягае не ў форме і нават не ў змесце, а ў прычыне, якая кліча эсэ аб'явіцца.

Артыкул, нарыс, лірычны аповед, трактат — гэта толькі звяно ў бясконцым ланцугу жанрава падобных тэкстаў, яны нічога сабой не пачаткуюць і нічога не канцуюць, яны толькі сведчаць, што нейкая жанравая падзея доўжыцца, існуе ў фармальнай наяўнасці. Пра тэксты гэтага тыпу можна без паэтычнага перабольшвання казаць, што яны *не маглі не быць напісаныя*, што ні тым, дык іншым аўтарам яны былі б зафіксаваныя, бо, як праблема, якую неабходна развязаць, яны фармуюцца па-за аўтарам і аўтар тут ёсць толькі тым, хто адгукаецца на покліч знадворку.

Не так у эсэ. Нішто з таго, што дзеецца знадворку, не патрабуе эсэ, не кліча яго аб'явіцца. Таму эсэ не можа быць запачаткаваным нідзе яшчэ, акрамя як у самім сабе, і вонкі сябе не мае працягу.

Эсэ — гэта тэкст, напісаны без фармальнай нагоды. Вось чаму пра кожнае эсэ без таго ж паэтычнага перабольшвання можна ўпэўнена казаць, што яно магло *быць не напісаным*. Прынамсі, ніхто іншы не можа напісаць не толькі тое самае, але хаця б падобнае эсэ. У гэтым сэнсе эсэ тоесніцца з уласна мастацкім актам, але ў адрозненне ад іншых літаратурных жанраў, падпарадкаваных канонам формы, эсэ ў значна большай меры індывідуалізаванае (гранічна індывідуалізаванае), бо ў адсутнасці фармальнага жанравага канона яно ўсялякі раз наноў стварае сабе форму, арыентуючыся толькі на запатрабаванні экзістэнцыйнай канстытуцыі аўтара, увесь час зменлівай, як і само быццё чалавека. Адсюль зразумела, чаму няма двух падобных эсэ нават у аднаго аўтара. У эсэ, як у адну ваду, нельга ўвайсці двойчы. Нельга двойчы ўвайсці ў эсэ яшчэ і таму, што яно з'яўляецца толькі тады, калі нешта ўжо скончылася (вандроўка, каханне, сяброўства, тэма, праблема, ідэя...), а наноў яшчэ нічога не распачалося, і таму табе пакуль нічога іншага не застаецца, акрамя як пакутліва рэфлексаваць, намацоўваючы наступныя межы самога сябе ў вярэдзіве быцця.

Дарэчы, калі нешта, акрамя суб'ектыўнасці, і магчыма выдзеліць у якасці канструктыўных элементаў структуры эсэ, як жанру, то гэта наяўнасць мыслення хоць у якіх яго формах: уласна мысленне, развага, роздум, аналітыка, здуменне, меркаванне... Па-за спробамі мыслення эсэ ператвараецца ў замалёўку, эцюд, успамін, нарыс... у што заўгодна. Разам з тым я не схільны залічваць эсэ да *толькі* інтэлектуальнай літаратуры. Знаходзячы сябе на скрыжаванні інтэлектуальнага і эмацыянальнага, гэта значыць у полі інтэлегібельнага, эсэ аднолькава захоплівае як прастору сакральнага (метафізічнага), так і прастору прафаннага (пабытовага). Эсэ, як і ўсё цэлае (а яно па азначэнні ёсць цэлым, бо распачынаецца і адбываецца ў прасторы самога сябе), не адсланяе ад сябе нічога з існага, але нічога пры сабе і не трымае.

Напісаць эсэ — гэта зачэрпнуць жменяй з вірлівай плыні быцця і нейкі момант глядзець, як быццё празрыстымі цуркамі сцякае паўз твае пальцы...

Калі вы напісалі эсэ, вы не напісалі нічога.

●

Колькі месяцаў таму я сцвярджаў на старонках “ЛіМа”, што найбольш значная падзея ў беларускай літаратуры найноўшай пары вынікае не з яе ўласных здабыткаў, а з таго, што ў ёй за апошняе дзесяцігоддзе выявілася і аформілася досыць шырокая плынь інтэлектуальнай літаратуры, якая дазваляе казаць нам пра зусім новую з'яву — беларускі інтэлектуалізм.

Гэтым разам я хацеў бы амаль паўтарыць тую самую моўную фігуру, адно паставіўшы на месца “беларускага інтэлектуалізму” — “эсэ”.

Сучасная літаратурная крытыка, згодна нашай адвечнай завядзёнцы, шукае (і, пераважна, не знаходзіць) значных дасягненняў у прозе ды паэзіі, скрайнім выпадкам — у драматургіі, у той час як гэтыя “дасягненні” найноўшай літаратуры калі дзе сёння і можна адшукаць, то ў жанры эсэ.

Эга-эсэ Леаніда Дранько-Майсюка “Стомленасць Парыжам” (ды іншыя); зборнікі эсэ Уладзіміра Арлова “Мой радавод да пятага калена” і “Божая кароўка з пятай авеню”; не сабраныя пад адной вокладкай шматлікія “вандроўныя” і не “вандроўныя” эсэ Адама Глобуса (часткова яны ўвайшлі ў кнігу “Толькі не гаварыце маёй маме”); шматстайная эсэістыка Сяргея Дубаўца (Дубавец па азначэнні эсэістычны літаратар, усё ім напісанае, за выняткам хіба “практыкаванняў” у прозе і вершах, па сутнасці, з'яўляецца эсэістыкай); “Зацемкі з левай кішэні” Леаніда Галубовіча, яны неўзабаве выйдуць асобнай кніжкай (кожная зацемка Галубовіча ёсць ні што іншае, як міні-эсэ, а з другога боку, усе разам яны — гэта адно бясконцае мета-эсэ); метафізічная эсэістыка Ігара Бабкова і футурыстычная Юрася Барысевіча (кнігі ўжо падрыхтаваны да друку ў выдавецтве “ЕўроФорум”), размаітая эсэістыка “Нашай Нівы”, якая ад пачатку татальна навярнулася на гэты жанр (найперш згадваюцца прозвішчы Славаміра Адамовіча, Сяргея Харэўскага, Севярына Квяткоўскага, Зміцера Бартосіка...); эсэістыка часопіса “Крыніца” (там свядома і мэтанакіравана перасоўваюць літаратурную крытыку ў дыскурс эсэ)... Дадамо да гэтага не-сістэмныя, але ад таго не менш яскравыя эсэістычныя ініцыятывы Сакрата Яновіча, Алеся Разанава, Алеся Асташонка, Пятра Васючэнкі, Алеся Аркуша, Юрася Пацюпы ды шмат, шмат каго яшчэ, акінем вокам усё гэта разам і ўбачым тое, што ўжо даўно ў нас перад носам: апошняе дзесяцігоддзе беларускай літаратуры было дзесяцігоддзем эсэ і якраз тут, у эсэ, яна выявіла сябе найбольш ярка, актыўна, цэласна і грунтоўна. Але істотна нават не гэта (колькасць і якасць эсэістыкі), а тое, што нарэшце *эсэ з'явілася* ў нашай літаратуры і заявіла пра сябе як пра паўнавартасны жанр... І гэта сапраўды падзея, ды яшчэ якая!..

Сёння ўжо нават цяжка сабе ўявіць, што ад свайго пачатку і на працягу стагоддзя новая беларуская літаратура стваралася і разгортвалася паўз эсэ (за рэдкімі выключэннямі, не істотнымі для сітуацыі ў цэлым). Але так яно была насамрэч. Практычна няма эсэістыкі ў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча (праўда, тут мы мусім згадаць прадмову да “Дудкі беларускай” як прыклад, бадай, першага і, безумоўна, вялікага эсэ), у Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча (хаця ён, бясспрэчна, меў багаты патэнцыял эсэіста), Аркадзя Куляшова, Кузьмы Чорнага, Пімена Панчанкі, Івана Мележа, Васіля Быкава...

Рэч, натуральна, не ў тым, што згаданыя тут, і ў мностве не згаданыя, літаратары былі пазбаўлены эсэістычнага таленту; рэч у тым, што ён ці быў не да месца ў пэўнай літаратурнай сітуацыі і таму застаўся незапатрабаваным, ці з той альбо іншай, пераважна ідэалагічнай, прычыны не мог выявіцца, і таму мусіў рэалізоўваць свой патэнцыял у такіх канвенцыйных жанрах, як раман, паэма, апавяданне, верш — і толькі ў нейкіх сваіх парэштках азначаўся праз артыкулы з нагоды, успаміны (таксама з нагоды), часам нешта яшчэ, што, бадай, можна было б пазначыць якім-небудзь няўцямнааморфным словам, кшталту “расповед”.

Можа, некалі ў некага дойдуць рукі, каб згуртаваць і грунтоўна прааналізаваць усе тыя прычыны і абставіны, якія на працягу стагоддзя заміналі аб'явіцца эсэістыцы ў беларускай літаратуры, я ж тут згадаю адно некалькі момантаў, якія, як мне падаецца, найперш тлумачыць гэты феномен.

●

Станаўленне новай беларускай літаратуры ў апошняй чвэрці XIX — пачатку XX стагоддзяў спалучалася з фармаваннем нацыі і таму было цалкам падпарадкавана, што зусім натуральна, выяўленню і легітымізацыі не асобнага “я”, а калектыўнага “мы”: мы — беларусы.

Праблема “я” ўяўлялася настолькі мізэрнай, нічога не вартай раўнуючы з веліччу задачы, вынікам якой мусіла быць паўставанне новай нацыі, што нават у дзённікавых запісах і прыватных лістах духоўныя мітрэнгі ўласнага “я” амаль заўсёды ўвязваліся з нейкімі агульнамаштабнымі калізіямі. І толькі калі абрыс нацыі збольшага быў акрэслены і нават адбылася спроба стварэння нацыянальнай дзяржавы (БНР), пачалі з'ўляцца першыя эсэ, чаму прыкладам вядомыя тэксты Абдзіраловіча і Сулімы. І хаця пачатковая беларуская эсэістыка пераважна была завязана на агульнанацыянальную праблематыку, яна ўжо падпарадкоўвалася не столькі ідэалогіі канвенцыйнага “мы”, колькі светапоглядным патрабаванням асобавага “я”.

У мяне няма сумнення, што беларуская літаратура ў 20—30-я гады патэнцыйна была гатова шырока і разнастайна выявіць сябе ў жанры эсэістыкі, але гісторыя навярнулася такім чынам, што ў наступнае паўстагоддзе (з лішкам) прыватнае “я” зноў было ўпляжана ў калектыўнае “мы”, на гэты раз — “мы” таталітарызму.

Рэальная наяўнасць эсэістычнага патэнцыялу ў беларускай літаратуры была засведчана ўжо толькі ў пару “хрушчоўскай адлігі”, калі таталітарнае цэлае надламалася пасярэдзіне і праз разлом стаў бачны чалавек з яго ўласнымі праблемамі ды турботамі. І хаця неўзабаве гэты разлом спехам зашпаклявалі, эсэістычнае “я” ўжо паспела выявіцца ў той меры, каб здолець пратрымацца ў літаратуры, хай сабе і ў нейкім недапраяўленым стане, да перабудовы. Паспрабуем хаця б у некалькіх фактах пазначыць сляды ягонай прысутнасці: “Загадка Багдановіча” Міхася Стральцова, “Мініяцюры” Янкі Брыля, “Глядзіце ў вочы лямура” Віктара Карамазава, “Як агонь, як вада” Алега Лойкі, літаратурна-крытычныя артыкулы Аляксандра Станюты, Алы Сямёнавай...

Натуральна, што ў тую пару асобныя эсэістычныя ініцыятывы выяўляліся ў беларускай літаратуры пераважна інкогніта, не акцэнтуючы сваёй “жанравай” прыналежнасці, бо, рэч ясная, таталітарызм і эсэ — з'явы ідэалагемна несумесныя. Пры таталітарызме літаратар можа і мусіць пісаць толькі з той нагоды, якая фармуецца патрабаваннямі пануючай ідэалогіі, і таму тут няма месца для эсэістычнай “отсебятины”. Да таго ж, таталітарная сітуацыя не дапускае нават магчымасці мыслення як мыслення, якое абапіраецца не на загадзя сфармуляваны ідэалагічны модус, а на стыхійны і кожны раз іншы досвед індывідуальнага “я”. А без незацуглянага мыслення якое там можа быць эсэ...

Вымкнуўшы з прамінулага некаторыя зна-

кі, якія сведчылі пра наяўнасць эсэістычнага патэнцыялу беларускай літаратуры, мы ўсё ж такі мусім канстатаваць, што ў рэальным цэлым сітуацыя была адваротнай адносна сваіх латэнтна ўтоеных магчымасцяў, бо калі таталітарызм усталёўваецца надоўга, то праз нейкі час ужо амаль нікому нават да галавы не прыходзіць напісаць пра тое, пра што яму самому карціць, "накрэмзаць" нешта дзеля задавальнення ўласнай эмацыянальнай ці інтэлектуальнай патрэбы — гэта значыць стварыць эсэ. І гэткае разуменне прыроды літаратурнага пісьма (як выяўніка адно грамадсказначных і агульнакарысных патрэб) настолькі глыбока ўцялесніваецца ў свядомасць, што ўжо і потым, калі таталітарны маналіт расцярушваецца ў парахню, літаратар не ўяўляе сабе, як гэта можна інтэлектуальна агаліцца на людзях, каб паглядзець на сваё інтэлегібельнае цела, як на адзіную сапраўдную рэальнасць самога сябе. Па прыклады да гэтай тэзы няма патрэбы далёка хадзіць. Нашы пісьменнікі старэйшага пакалення за постперабудовачныя гады так і не адважыліся скінуць з сябе парадныя мундзіры, упрыгожаныя блёсткамі старых і новых рэгалій, распрануцца да галізны і ўвайсці ў сцюдзёную і празрыстую плынь эсэістыкі...

Была (і застаецца) яшчэ адна глыбокая прычына, якая замінала беларускай эсэістыцы разгарнуцца раней і будзе ствараць ёй апазіцыю ў будучым. Ужо працяглы, нават у гістарычным вымярэнні, час беларуская літаратура і, шырэй, ментальнасць знаходзіцца пад магутным уплывам (ціскам) не толькі расійскай літаратуры і культуры, але і ўсяго масіву расійскай ментальнасці, сутнастваральным цэнтрам якой з'яўляецца "соборность", "общинность", карацей, калектывісцкае "мы". Відавочна, што на прасторы Беларусі ўжо колькі стагоддзяў таму сутыкнуліся і з той пары існуюць у супрацьстаянні дзве ментальныя мадэлі: уласна еўрапейская, запачаткаваная на індывідууме, як цэнтрапалеглай каштоўнасці быцця (гэтую ментальную мадэль у полі літаратуры якраз найбольш поўна прэзентуе эсэ), і расійская, якая цалкам угрунтавана ў "соборное", калектывісцкае "мы" (у расійскай літаратуры найперш выяўляюць гэтую ментальную мадэль поліфанічны раман і канвенцыйная паэзія; адсюль зразумела, з чаго гэта расійская паэтыка агрэсіўна не прымае вольны верш — верлібр).

Няма сумнення, што беларуская літаратура і надалей будзе падзелена адпаведна прыналежнасці яе аўтара да еўрапейскага ці расійскага ментальных модусаў. І адно гэты падзел (эсэ тут можа выступаць у якасці мяжы) сапраўды істотны, а ўсе астатнія ("старыя" — "новыя", "хрысціяністы" — "сатаністы", "нацыяналісты" — "каланісты", "дэмакраты" — "камуністы") ёсць толькі ідэалагічнымі містыфікацыямі, пакліканымі заблытаць рэальную сітуацыю...

●

Уся гісторыя эсэ, як літаратурнага жанру, гэта адна вялікая спроба вызваліць аўтарскае "я" з канвенцыйнага "мы", якое эстэтычна ўвасабляў сабой мастацкі вобраз, а інтэлектуальна — грамадска заканстытуяваны сілагізм. Увесь гэты час, пяцьсот гадоў, эсэістыка толькі тое і рабіла, што вылушчвала зернейкі індывідуальнага "я" з усіх верагоднамагчымых шкарлупінняў, каб замацаваць каштоўнасць чалавечай самасці ў якасці асноўнага атрыбута любой ідэалогіі. Праўда, за гэтай нястомнай рупнасцю эсэ, здаецца, не заўважыла, як разам са шкарлупіннем аблушчыла і выкінула ў смецце таксама і само зернейка. Прынамсі, ідэалогія постмадэрна, якая фармавалася ў полі эсэ і, да таго ж, ягоным начыннем, у адным з першых сваіх маніфестаў аб'явіла пра канчатковую смерць аўтара і пра рашучае ссоўванне індывідуальнага "я" на маргінальныя ўскрайкі быцця.

Але не станем вінаваціць эсэ за тое, што здарылася. Хто мог ведаць наперад, што пад шкарлупіннем разнастайных "мы" ёсць толькі шкарлупінне "я", а яго самога няма і значыць няма што супрацьпаставіць постмадэрна (хіба адно зноў вярнуцца да канвенцыйнага "мы"). Зрэшты, пра гэта мне ўжо даводзілася пісаць раней, тут я звярну ўвагу толькі вось на што: калі для "старой" Еўропы ментальная сітуацыя "пасля чалавека" ёсць лагічным вынікам інтэлектуальнай эвалюцыі, да якога яна была падрыхтавана ўсім папярэднім досведам, то мы, атрымаўшы ў адначассе і эсэізм (як ідэалогію вызвалення "я" з маналіту "мы") і постмадэрнізм (як ідэалогію вызвалення ад толькі што набытага "я"), апынуліся ў парадаксальнай сітуацыі: эсэ ў нас цяпер ёсць, затое ўжо няма "я" — куды вокам ні кінь, усюды адно дыскурсы, дыскурсы...

Зрэшты, нам не прызвычайвацца да парадаксалізму. Уся наша гісторыя — суцэльны парадокс. Ці, можа, мы самі — нішто іншае, як парадокс гісторыі?

●

Эсэ — гэта востраў, куды можна патрапіць толькі пасля караблекрушэння. Вось чаму эсэ заўсёды пачынаецца з вусцішнай адзіноты, калі ты стаіш на пустэльным беразе і пакрысе ўсведамляеш: каб не знікнуць дазвання разам з тым, што цябе цешыла і бавіла раней, трэба ад пачатку ўсё вынайсці і стварыць самому — і гліняны збан, і себрука Пятніцу.

І ты рушыш углыб вострава...

Скуль вернешся да людзей адно праз дзесяцігоддзі, каб расказаць ім гісторыяй свайго вяртання.

Калі цябе вабіць жанчына — ты пішаш верш.
Калі цябе чаруе чалавек — ты пішаш раман.
Калі цябе вярэдзіць быццё — ты пішаш эсэ.

ВІНШУЕМ!

# Леаніду ЛЕВАНОВІЧУ — 60



14 верасня спаўняецца 60 гадоў вядомаму пісьменніку Леаніду Левановічу. Леанід Кірэевіч родам з вёскі Клеявічы Касцюковіцкага раёна. Сялянскі сын, ён у 1956 годзе скончыў Магілёўскае культасветвучылішча. Працаваў ва ўстановах культуры Дзяржынскага і Касцюковіцкага раёнаў. У 1957 годзе паступіў на завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. На стацыянар перавёўся пасля службы на Балтыйскім флоце (1958—1961). Універсітэт скончыў у 1963 годзе. З 1963 па 1971 год працаваў у рэдакцыях газет "Знамя юности", "Сельская газета", "Літаратура і мастацтва". Пасля быў рэдактарам аддзела мастацтва і крытыкі часопіса "Нёман", з 1974 года — адказны сакратар, з 1975-га — рэдактар аддзела навукі і мастацтва часопіса "Полымя". У 1980—1982 гадах Л. Левановіч з'яўляўся галоўным рэдактарам літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. Пасля двух гадоў творчай працы ў 1984 годзе прыйшоў у выдавецтва "Мастацкая літаратура", дзе працуе і па сённяшні дзень, з'яўляецца загадчыкам рэдакцыі.

Першае апавяданне Л. Левановіча было апублікавана ў 1963 годзе ў газеце "Советская Белоруссия". Вядомы як аўтар кніг нарысаў, публіцыстыкі "Гаспадар зямлі" (1971), "Зялёны трохкутнік" (1973), "Хлеб і мужнасць" (1987), кніг прозы "Мадонна з кветкамі" (1976), "Якар надзеі" (1979), "Валанцёр свабоды" (1983), "Вяртанне ў радыяцыю" (1997) і іншых. Вядомасць Л. Левановічу прынесла згаданая кніга нарысаў "Зялёны трохкутнік", а таксама яго раманы "Шчыглы", "Паводка сярод зімы", "Дзікая ружа". Напісаў таксама сцэнарый дакументальнага фільма "Дом майстроў" (пастаўлены ў 1973 годзе), аднаактовую п'есу "Цілюбіцевы грэчку?" (1972), драму "Пасля разводу" (1980), якая была пастаўлена на радыё ў 1981 годзе.

Віншуем Леаніда Кірэевіча з 60-годдзем! Зычым яму новых жыццёвых і творчых поспехаў!

*(Ніжэй А. Марціновіч піша пра новы раман Л. Левановіча, змешчаны сёлета ў 6—7 нумарах часопіса "Полымя".)*

# Вясна-лета шэсцьдзесят першага...

Ужо адгарнуўшы першую ж старонку новага рамана Л. Левановіча "Сіняе лета", тыя, хто знаёмы з папярэднімі раманамі пісьменніка, здагадаюцца, што гэты твор — працяг "Шчыглоў", "Паводкі сярод зімы", "Дзікай ружы". Здагадаюцца, бо гаворка адразу ідзе пра галоўнага героя іх: "Вясна абрынулася на Андрэя Сахуту нечакана. Ён і не ўгледзеў, як прамільгнула зіма. Можа, таму, што зіма 1961 года была вельмі цёплая, мароз не паспеў надакучыць. Андрэй ні разу не выбраўся пахадзіць на лыжах, не нацешыўся снегам, а тут ужо зазвінелі жаўрукі, заспявалі сваю песню кроплі-капяжы — апоўдні цякло са стрэх ва ўсю, а ўранні з іх звісалі сусолкі-ледзяшы. І так хацелася лізнуць языком лядзяш, як у маленстве, калі басанож выскокваў на свежы мяккі сняжок, што нападаў за ноч".

Падзеі ў рамане разгортваюцца на працягу красавіка—жніўня 1961 года. Як вядома, гэта быў час першага палёту чалавека ў космас, пра што, канечне ж, аўтар не мог не сказаць, перадаўшы, як вестка аб гэтым узрушыла кожнага, бо людзі па-сапраўднаму ганарыліся новым, небывалым дасюль дасягненнем сваёй краіны. Але ж 1961 год, як і папярэднія да яго, а таксама і наступныя — гэта час, калі тагачасны першы сакратар ЦК КПСС Мікіта Хрушчоў пачаў забываць пра пацяпленне ў грамадскім жыцці, якое адбылося дзякуючы яму (цяпер гэтыя гады называюць "хрушчоўскай адлігай"). Паступова ўсталёўваўся новы культ — культ самога Хрушчова, які станавіўся знаўцам па ўсіх пытаннях, у тым ліку і па праблемах вядзення сельскай гаспадаркі. І хоць да "замаразкаў" было далекавата, але няўстойлівасць у жыцці сказвалася. Сапраўды ўжо — як у прыродзе. І тое адчуванне, якое перажываў Андрэй Сахута, згадваючы зіму, што прайшла, падыходзіць і да вызначэння грамадскіх працэсаў.

Таму і назва рамана старанна прадуманая. "Сіняе лета" — гэта выраз са знакамітага "Катлавана" Андрэя Платонава, адпаведны ўрывак з якога і ўзяты аўтарам эпіграфам да новага твора: "Звездная темная ночь не соответствовала овражной, трудной земле и сбивающемуся дыханию спящих землекопов. Если глядеть лишь по низу, в сухую мелочь почвы и травы, живущие в гуще и бедности, то в жизни не было надежды: общая всемирная невзрачность, а также людская некультурная унылость озадачивали Сафронова и расшатывали в нем идеологическую установку. Он даже начинал сомневаться в счастье будущего, которое представлял в виде синего лета, освещенного неподвижным солнцем, — слишком смутно и тщетно было днем и ночью вокруг".

А "ідэалагічная ўстаноўка" на той час у галоўнага героя рамана ведама якая мусіла быць. У жыцці Андрэя Сахуты адбылася важная падзея: яго выбралі другім сакратаром райкома камсамола. На той час гэта высокая пасада, бо яна з'яўлялася прыступкай, дзякуючы якой можна было рухацца па службовай лесвіцы далей. Пры ўмове, безумоўна, калі прытрымлівацца ўсіх гэтых "ідэалагічных установак", а каб прытрымлівацца іх, на многае даводзілася заплюшчваць вочы. Калі ж гаварыць праўду, у нечым пярэчыць начальству — свядома ставіць крыж на будучай кар'еры.

Аднак Андрэй Сахута не з тых, хто прывык ісці насуперак свайму сумленню. Ды і жыццё яго шмат чаму навучыла, таму даўно не ўсё прымае на веру. І памочнікам ляснічага паспеў папрацаваць, але яшчэ лепшай школай стала служба на флоце. І цяпер усё, што адбываецца (і не толькі ў раёне, а і ў краіне), Сахута ўспрымае зусім не праз ружовыя акуляры. Ён здатны даваць цвярозую ацэнку падзеям, а яшчэ, што важна, — мае ўласны погляд, уласную пазіцыю.

Але Андрэй Сахута ў рамане паказаны не столькі маладым службоўцам, колькі жывым чалавекам. Ці не самыя лепшыя ў творы старонкі, дзе расказваецца пра каханне галоўнага героя. Імкненне да сямейнага шчасця не пакідае Андрэя, калі ён бачыць, што школьныя сябры даўно знайшлі сваё прыстанішча: "У глыбіні душы варухнулася й зайздрасць: Данька-бязбацькавіч ужо мае сям'ю, пабудаваў сваімі рукамі лазню, працуе на зямлі. А ты, выдатнік, лепшы вучань, займаешся балбатнёй замест сапраўднай справы. Знайшлося і суцяшэнне: я садзіў лес, служыў у войску, вучуся далей. Будзе ў мяне сям'я, іншая работа, карысная і патрэбная людзям. Ён разумеў, што заўсёды зможа вярнуцца ў лясніцтва".

І шчасця да Андрэя прыходзіць. З Адай, якая стала жонкай яго, не толькі сапраўднае каханне. Ёсць яшчэ і паразуменне душ. А гэта істотна не толькі ў асабістым жыцці, а і ў працы. Сахута ведае, што заўсёды знойдзе з боку жонкі падтрымку, гэтаксама як Ада можа спадзявацца на яго ў цяжкую хвіліну.

Пытанні маральна-этычнага плана Л. Левановіча цікавілі заўсёды. У новым рамане яны набываюць якасна новыя аспекты. Пісьменнік, зазіраючы ў асабістае жыццё персанажаў, задумваецца (і чытача, зразумела, прымушае гэта рабіць), дзе шчасце сапраўднае і ўяўнае, дзе само каханне яго, а дзе толькі мройнасць. А пагоня за мройнасцю, калі і прыносіць задавальненне, дык не надоўга. Мінаецца час і, калі не гнятуць пакуты сумлення, дык не праходзіць адчуванне незадаволенасці сабою.

У рамане "Сіняе лета" Л. Левановіч прасочвае далей і вобразы іншых герояў, пра каго расказвалася ў папярэдніх творах. Пра адных з іх гаворыцца эпізадычна, іншыя ж паўстаюць, як кажуць, ва ўвесь рост. Найбольш гэта тычыцца Міхаіла Даўгалёва. Дагэтуль ён працаваў у Лабанаўцы старшынёй райвыканкома. І вось павышэнне: выбралі першым сакратаром райкома партыі. Адпаведны час нарадзіў падобных Даўгалёвых, яны ж пры самых найлепшых намерах не могуць над гэтым часам узвысіцца. А найчасцей і не хочуць. І з-за боязі страціць пасаду, і з-за нежадання пазбавіцца выгод, якімі пры гэтым карыстаюцца.

Гэтыя і іншыя аспекты ў рамане набываюць і сваё належнае раскрыццё і глыбокае псіхалагічнае абгрунтаванне менавіта праз вобраз Даўгалёва. Не сказаць, каб Даўгалёў ні ў чым не сумняваўся. Але гэтыя ваганні часовыя, ды і яны не ідуць далей ўзаемаадносін між людзьмі, каму ён больш даверае.

*Характэрная ў сувязі з гэтым гаворка,* што адбываецца ў Даўгалёва з нядаўнім першым сакратаром Лабанаўскага райкома партыі Пракапенкам, які стаў намеснікам старшыні аблвыканкома, а на сваё месца збіраецца рэкамендаваць сябра, перад гэтым пераконваючы яго, наколькі важная пасада першага сакратара:

"— Я часам думаю, чаму цяпер усё рашае райком... Астатнія, прабач, у туалет не сходзяць без каманды... А помніце, пасля вайны... Друкуецца пастанова ў раёнцы. Першы подпіс — старшыня райвыканкома... Поруч, справа, сакратар райкома... Ленін быў старшынёй Саўнаркома... Ды і Сталін таксама...

— Ты вось што, галава садовая, такіх пытанняў нікому не задавай, — нахмурыўся Пракапенка. — Хіба газет не чытаеш? Узрасла роля партыйнага кіраўніцтва. Партыя за ўсё адказвае... Вось я і хачу, каб ты быў першым у раёне... І яшчэ момант улічы, Мікіта Сяргеевіч раіць смялей вылучаць мясцовыя кадры. Гэта твой козырны туз, галава садовая..."

Не паспеў Даўгалёў стаць першым сакратаром, *як стаў гэткім жа, як і яго папярэднікі:* "Прыгарадныя калгасы спраўна забяспечвалі кіраўніка раёна і мясам, і салам. Калі працаваў у райвыканкоме, то адчуваў сябе няёмка, беручы дары, пабойваўся Пракапенкі. А цяпер прымаў паднашэнні як належнае: ніводзін калгас не збяднее, калі старшыня прытарабаніць першаму чалавеку ў раёне паўпуда ялавічыны. Прасіць іх аб гэтым не даводзілася: яны прапаноўвалі самі".

Ёсць у рамане адзін вельмі важны эпізод, з якога асабліва яскрава відаць, што надыход "сіняга лета" нават у бліжэйшай будучыні чакаць не даводзіцца. А калі верыць у гэта, дык, ва ўсякім разе быць наіўным і адарваным цалкам ад паўсядзённага жыцця. Маецца на ўвазе сустрэча Даўгалёва з інвалідам вайны Лебедзевым падчас паездкі першага сакратара па раёне. Лебедзеў — па-сапраўднаму ўлюбёны ў родную зямлю. У цяжкі пасляваенны час, калі кожная сотка яе дапамагала выжыць, не дазволіў спляжыць бярэзнік, які вырас за гады вайны. Цяпер Лебедзеў просіць у Даўгалёва аднаго: дазволіць трымаць каня. І абгрунтаваў сваю просьбу тым, што не па-людску робіцца, калі чалавека адрываюць ад зямлі. "У душы Даўгалёў быў згодзен і з гэтым, бо сам іншы раз думаў, чаму нялюдскія каманды ідуць зверху, але адчуваў, што размова набывае небяспечны характар. Ён ні на хвіліну не забываў пра ананімку, якая, быццам міна, ляжыць у нейкім мінскім кабінеце".

І ўсё ж Даўгалёў адрозніваецца ад іншых кіраўнікоў. Ён цалкам не растраціў сумленнасці і дабрыні. Але і сумленнасць гэтая, і дабрыня ў межах аглядкавасці:

"— Душою я за цябе, Васіль Паўлавіч. Але дазволіць не магу. Напіша нейкі дурань пра ета... Баба, якую ты за каўнер вывеў з бярэзніку, разнясе па вёсцы... І ў мяне спытаюць: што ж ты ідзеш супраць лініі партыі? І ўсё. І спёкся папуас... Не крыўдуй, даражэнькі.. Іначай я не магу. Запомні, дазволу я табе не даваў. І даць не магу. Але душою за цябе. Старшыня — таксама. Ён жа і падказаў мне заехаць да цябе. І брыгадзір пярэчыць не будзе... Але і сам, даражэнькі, старайся лішне ні з кім не заядацца... Конік хай стаіць на канюшні, а ездзіць будзеш".

Раман "Сіняе лета" — пра наша нядаўняе мінулае. Пра той час, які ўжо стаў гісторыяй. Л. Левановіч, праўдзіва адлюстроўваючы гэтыя падзеі, уносіць свой уклад у асэнсаванне таго перыяду ў жыцці грамадства, калі панавала завуаляванае насілле над асобай і толькі нямногія маглі супрацьстаяць яму. Іншыя ж не пераступалі адзіна магчымую ў такім выпадку мяжу сумленнасці. Як гэта ўдавалася ім, найлепш відаць на прыкладзе вобразаў двух персанажаў — Андрэя Сахуты і Міхаіла Даўгалёва.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## ЛіМ ЧАСАПІС

## "Беларусь", N 8

Дагэтуль ніводзін беларус ніколі не ўзыходзіў на Эверэст і вось такое ўзыходжанне адбылося. На першай старонцы вокладкі гэтага нумара "Беларусі" партрэт альпініста В. Кульбачэнкі, горны краявід, а ў самім часопісе магчымасць выказацца герою дае В. Чаркашына — "Я працую на прэстыж усёй Беларусі..." Слонімскі калекцыянер М. Рылко стварыў хатні музей побыту беларускага мястэчка мінулага стагоддзя. Пра сам музей і яго гаспадара расказвае І. Баравая ("Зберагальнік памяці"). А. Туровіч дае мажлівасць выказацца арганізатарам і ўдзельнікам канферэнцыі "Літаратурная дыяспара. Праблемы нацыянальнай ідэнтычнасці, што правёў у Інстытуце сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага (Масква) аддзел літаратур народаў Расіі і блізкага замежжа ("Прызма літаратурнай "дыяспарнасці"). Беларуса І. Дамейку ведаюць ва ўсім свеце, чаму б яшчэ раз не згадаць яго нам, суайчыннікам? — нарыс П. Пашкаўца "...Гаспадарыў бы ў Заполлі". Публіцыстычны роздум А. Гібок-Гібкоўскага называецца "Ад санетаў да парытэтаў". Не чулі пра раманіста мінчаніна С. Сідорскага? У такім разе зазірніце ў інтэрв'ю І. Глод з гэтым пісьменнікам ("Дэтэктыў — высокамастацкі жанр!"). А яшчэ ў нумары — рэцэнзія "Я. С." на кнігу "Адам Міцкевіч і Беларусь" ("Наш вечны вандроўнік"), нарыс М. Старых "Ганчар з праспекта Скарыны", гутарка С. Хатылёвай з В. Вуячычым ("А песні спяваў розныя..."), вершы А. Грачанікава, апавяданне Р. Ігнаценкі "Вяртанне ў маладосць", артыкулы М. Чарняўскага "Шахцёры каменнага веку на Беларусі", М. Цыбульскага "Гэты неўміручы "ціхі" жанр", гаворка І. Ждановіча з вядучым навуковым супрацоўнікам Інстытута геалагічных навук Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі У. Шымановічам ("Жывая Зямля") і шэраг іншых цікавых матэрыялаў, якія робяць "Беларусь" "Беларуссю".

## "Мастацтва", N 7

Нумар адкрываецца артыкулам А. Янкоўскага "Анімацыя ў люстэрку фестываляў", які прапануецца ў раздзеле "Экран". Тут жа артыкул Н. Агафонавай "Экзістэнцыяльная драма: кінематограф Мікеланджэла Антаніёні". У раздзеле "Тэатр" — гутарка Л. Грамыкі з рэжысёрамі В. Баркоўскім і У. Матросавым "Позіркі ў прасторы", падчас якой абодвум з іх прапануюцца аднолькавыя пытанні, і артыкул А. Ахметшына "Лялькі вяртаюцца ў лялечны тэатр". Прадстаўнічы раздзел "Выяўленчае мастацтва" — "Пейзаж нашых эмоцый" І. Мятліцкай, "Трыумф ідыліі" П. Іонава, "Адшукаць непаўторную літаратуру" А. Пікулік, "Новы алфавіт" Ю. Барысевіча, "Пра цацкі і пра музей гульні і цацкі" А. Лявонавай, "Латэнтны псіхоз супрацьстаяння" М. Цыбульскага. У раздзеле "Музыка" змешчаны артыкул Д. Падбярэзскага "Трэцяе пакаленне літоўскага джаза", нарыс А. Марціновіча "Паланез для скрыпкі і... каменя", архіўны матэрыял Т. Кекелевай "Перапіска Эпімах-Шыпілы і Дрэйзіна. Новыя знаходкі". Знойдзе чытач у нумары і іншыя раздзелы: "Дызайн" ("Узнагарода за карысць і прыгажосць" У. Майсеева), "Мастацкае фота" ("Калі выявы знікаюць" М. Паўэра, "Куды знікаюць выявы" Д. Кораня) "Народазнаўства" ("Па адзежцы сустракаюць, па адзежцы пазнаюць"), "Гісторыя мастацтва" ("Беларушчыны свет паралельны?" В. Скорабагатава, "Краевугольны камень беларускага барока" Т. Габрусь), "Рэцэнзіі" (Т. Гаробчанка дзеліцца ўражаннямі ад першага тома "Хрэстаматыі па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі", складзенай А. Сабалеўскім — "Новае выданне хрэстаматыі па тэатру"), "Падзеі, факты, інфармацыя".

## Выдавец—"Рунь"

Таварыства беларускай культуры "Рунь" у Літве, якое выпускае аднайменны штомесячнік, вырашыла заняцца і выдавецкай дзейнасцю. Першай кнігай сталі ўспаміны Марыяна Пацюкевіча "У пошуках зачараваных скарбаў". М. Пецюкевіч — адзін з найбольш актыўных дзеячаў беларускага адраджэнскага руху, у прыватнасці, яго дзейнасць звязана з часопісам "Шлях моладзі". На жаль, лёс М. Пецюкевіча не быў літасцівы. Нацыянальна свядомыя людзі, падобныя М. Пецюкевічу, савецкай уладай не толькі не былі запатрабаваны, а і трапілі за краты. Аўтару кнігі яшчэ пашанцавала: у 1956 годзе, калі пачалася так званая "хрушчоўская адліга", яго вызвалілі. М. Пецюкевіч выехаў у Польшчу, пасяліўся ў Торуні, дзе на той час жыла яго сям'я. Не стала адраджэнца-пакутніка ў 1983 годзе. І вось — успаміны, багатыя на факты, пададзеныя, як кажуць, з першых вуснаў. Несумненна, што кніга "У пошуках зачараваных скарбаў" зацікавіць і чытачоў Беларусі. Пры ўмове, калі яе ўдасца прыдбаць.

## ДЭБЮТ

Ярына Дашына — студэнтка філфака Брэсцкага універсітэта. Вёска Клейнікі, дзе яна жыве, раскінулася ўздоўж вірлівай і пакручастай рачулкі Лясная, што бярэ свой пачатак з Белавежы. І хаця Ярына руская, гэты край — яе Радзіма. Таму такім прываблівым паўстае ён у вершах юнай паэткі, святлом раман-тызму і бязмежнай дабрыні поўніць закаханае сэрца. Ярына здольная не толькі ўбачыць, адчуць, зразумець, але і расказаць. У яе вершах. лірычных і мяккіх, чуецца духоўная моц, перакананасць у тым, што свет заснаваны на людскасці.

Ярына Дашына з'яўляецца сябрам студыі "Спадчына", якою апякуецца абласны цэнтр творчасці моладзі. І я з прыемнасцю заўважаю, як усё жывей адгукаецца ў яе паэтычных радках слова, адкрываючы, нібыта айсберг, свае патаемныя глыбіні. Шчыра зычу Ярыне, каб яе паэтычная сцяжынка выбілася на самастойны шлях у літаратуру.

**Мікола ПРАКАПОВІЧ**

### Ярына ДАШЫНА



### Радзіма

*Кветкай першай, блакітнай вясной —*
*Незнаёмая радасць.*
*Ты — усмешка матулі маёй*
*І далоняў шурпатасць.*

*Па-над соннаю рэчкай агні*
*І загадкавасць саду,*
*Дахі хат, што буслы будуць сніць*
*На чужынных прысадах.*

*Ты як зорка, што з цёмнай начы*
*Прыляцела іскрынкай*
*І прыціхла ў мяне на плячы*
*Напамінкам-радзімкай.*

### Згадкі дзяцінства

*Сонца — гняздом на бярозе.*
*Босы, маленькі падпасак*
*Гоніць па пыльнай дарозе*
*Кудлаты авечы статак.*

*Сцяжынкай між яблынь белых*
*Па водару незямному*
*Хусцінка плыве, як вэлюм, —*
*Маці ідзе дадому.*

*Вокны запальваюць вечар,*
*І на суседскім ганку*
*Злізвае кацянятка*
*З чырвонага неба смятанку.*

### Бабіна лета

*Рыжы дзень, смак рабіны горкі.*
*Рыжае сонца шамаціць пад нагамі.*
*У хатцы збуцвелай, за рыжым пагоркам*
*Сную павуцінне Рыжая Пані.*

●

*Льецца шэпт цішыні праз шчыліны плоту,*
*Толькі конік зялёны раз-пораз цвыркоча,*
*І раскідвае вецер сухую лістоту,*
*У сланечнік хаваючы зорачкі-вочы.*

*І здаюцца страшыдламі голыя ліпы:*
*У падраных кашулях,*
*стаптаным абутку...*
*Напалохалі цішу сабачыя ўсхліпы,*
*Пацягнулі, бы костку, у чорную будку.*

●

*Месяц зірнуў за фіранку.*
*Хаты ў радок. Бярозка.*
*Цвыркун завёў калыханку —*
*Дрэмле вёска.*

*Хустку на плечы — і ў сенцы.*
*Здрадліва рыпне ганак.*
*Святлу у тваім акенцы*
*Ціха шапну: "Дабранач!"*

●

*Я гукала цябе...*

*Чыйсьці позірк ціхутка*
*мільгануў і спыніўся.*
*Чырвонаю хусткай*
*захінуся, як восень,*
*у асмужанай высі.*
*Трапяткою лістотай*
*захлынуся ў журбе...*
*Мой дарагі,*
*я гукала цябе, —*
*адазваўся другі.*

●

*Пастукаеш ціхенька ў дзверы —*
*Я ціха табе адчыню.*
*Ноч кацяняткам шэрым*
*Прылашчыцца да агню.*

*Абдымеш мяне за плечы,*
*І станеш на пальцы хукаць,*
*Будзеш казаць аб нечым,*
*А я пра сваё — слухаць.*

*Зацепліш апалак свечкі,*
*А цемра запаліць зоры.*
*Датлеюць паціху ў печы,*
*Сыдуць на попел дровы.*

*Адкажаш на запытанне*
*Ночы глухой і шэрай:*
*— Гэта наша каханне...*
*І ноч за вакном паверыць.*

●

*Там лістапад на двары —*
*Марай наступнага дня...*
*Не здагадаліся Вы:*
*Тая, што з Вамі, — не я.*
*Тая, што з Вамі, — спакой*
*П'е з бяздонных вачэй,*
*І занямелай рукой*
*Самоту здымае з плячэй.*

*Там, за вакном, толькі дождж, —*
*Гэта яшчэ не зіма.*
*Позняя восень, і ўсё ж*
*Тая, што з Вамі, — не я.*
*Тая, што з Вамі пайшла,*
*Зоркай згарыць уначы.*
*Моўчкі замкнецца душа,*
*А я загубіла ключы.*

*Зноў лістапад на двары —*
*Згадкай мінулага дня.*
*Не здагадаліся Вы:*
*Тая, што з Вамі, — не я.*

●

*Кожны дзень — гэта новы крок.*
*І аднойчы*
*я адчыню Вашыя дзверы...*
*З пахіленай галавой*
*пакаюся перад тым,*
*хто дарує ўсім,*
*хто паверыць.*

*А жыццё — імгненне адно.*
*Як яго мне пражыць?*
*Навучыце мяне любіць.*
*Навучыце любіць...*

### Яўген ХВАЛЕЙ



### У Бабчынскай хаце

Міколу МЯТЛІЦКАМУ

*Тут гулялі вяселлі,*
*Тут спраўлялі радзіны.*
*"Кут мой родны, адзіны..." —*
*Шэпчуць вусны ў бяссіллі.*

*Тут і бацька, і маці*
*На кладах — маладыя...*
*У расхрыстанай хаце*
*Мы стаім паўжывыя.*

*Зеўраць вокны і дзверы,*
*Столь праменіць, падлога...*
*Толькі сэрца не верыць,*
*Што тут смерць за парогам.*

*Кропляй згорчана чарка*
*Ці слязой тваёй з вейкі?*
*Гэты боль — незвычайны,*
*Гэты боль — да спрадвеку...*

### З БРАСЛАЎСКАГА СШЫТКА

### Цётка Броня

*Цётка Броня —*
*азёрная фея —*
*З гэткім прозвішчам дзіўным*
*Рагей.*
*І ў спякоту, і ў зімавею*
*Домік ваш, як вакзал,*
*Для гасцей.*

*Дуб і клён —*
*Вось і ўсе старажылы.*
*А пад яблыняй —*
*Дзікі рагоз.*
*Лапік бульбы, ячменю і жыта...*
*І суседкамі —*
*Плойма стракоз.*

*Жыць адной сканавана ёй лёсам*
*Тут,*
*На возеры Струста, даўно...*
*Летам б'юцца чмялі, пчолы, восы,*
*А сняжынкі —*
*Зімой у акно.*

*Рыбакі ў трысцягу не гавеюць...*
*І заезджых страчае гасцей*
*Цётка Броня —*
*азёрная фея —*
*З гэткім прозвішчам дзіўным*
*Рагей...*

### Вёска Плюсы

Сапранкову М. У., старшыні калгаса "Слава" Браслаўскага раёна

*На мяжы — сумежжы вёска Плюсы...*
*Побач, па-суседску, латышы.*
*Думаюць і балты й беларусы:*
*Дзе тут мінусы,*
*дзе плюсы*
*Для тутэйшай і для госцевай душы?*

*І прыходзяць да высновы —*
*недарэмна*
*Так назвалі селішча сваё*
*Продкі,*
*бо жывуць тут людзі крэўныя,*
*Што вядуць упобачкі сяйво.*

*Сёння тут мяжа...*
*І нават стражнік*
*З руляю на вуліцы, як цень.*
*Але мне чамусьці тут не страшна —*
*Мне здаецца, што спектакль ідзе.*

*Бачыцца мне:*
*З тога боку Імант*
*Па закону даўніх сябрукоў*
*Раптам шапку па-братэрску здыме,*
*Як і наш тутэйшы*
*Сапранкоў...*

### Крыніца Акменіца

*З назвай незвычайнай*
*Акменіца*
*І з жывой, чароўнаю вадой*
*Сярод бору,*
*Ля азёр, крыніца*
*Сочыцца амбрэзіяй лясной.*

*— Кажуць, ад усіх хваробаў*
*Лечыць...*
*Тры глыткі —*
*І зрок, як у арла, —*
*І вадзіцель-балагур наш Мечык*
*Кленчыць ля самога джарала.*

*Нагінаемся і мы,*
*Як прычашчаемся, —*
*Зубы ломіць:*
*Не вада — крышталь.*
*І душою грэшнай ачышчаемся,*
*Робімся анёламі амаль...*

●

*Кезічкі, Юркава і Дудары,*
*Богіна, Чэрнішкі, Шовы...*
*Назвы браслаўскія,*
*Быццам дары*
*Прашчураў нашых вясковых.*

*Хаты на ўзгорках...*
*Да зорак рукой*
*Можна ўначы дацягнуцца.*
*А ўнізе азёры*
*Люстранай луской*
*Бліснуць,*
*Вачамі ўсміхнуцца...*

ПРОЗА

# ГАЛЬШАНСКІ ТРОХКУТНІК

Раіса БАРАВІКОВА



АПАВЯДАННЕ

ДА ПЯЦІДЗЕСЯЦІГАДОВАГА юбілею прафесара Пінчука рыхтаваліся ўсёй нашай кафедрай радыётэхнічных сістэм. І вось на табе, лічы, што ніякага юбілею не адбылося. Такою-сякою кампаніяй сядзім у прафесарскай кватэры, і стол накрыты не надта каб, і настрой, адпаведна, не на вышыні, ды і сам прафесар... Не тое, каб нечым прыгнечаны, але не такі, якім прывыклі мы яго бачыць. Як кажуць, бы не ў сваёй талерцы: Праўда, усё на свеце нашым грэшным можна вытлумачыць, ва ўсялякім выпадку, многае. І прафесарскі настрой таксама вытлумачальны. Жонка, Кацярына Пятроўна, за некалькі дзён да юбілею трапіла ў бальніцу, нейкі надзвычай востры нервовы стрэс. Ужо дарослыя дзеці, сын і дачка, раптоўна некуды з'ехалі. І застаўся наш Пінчук адзін у гэтай даволі сціплай кватэры, і з яшчэ больш сціплым юбілейным сталом.

Вядома, мы, ягоныя супрацоўнікі, разлічвалі на рэстаран, а Пінчук, як цяпер аказваецца, увогуле не збіраўся рабіць застолле, прымаць віншаванні і ўсё астатняе...

— Ды кінь ты, Адам Нічыпаравіч, ці ж табе зашкодзіць наш "Браун", — у нейкі момант сказаў мой муж. — Ты ж во, падобна, галіцца развучыўся, увесь твар падрапаны.

У гэты момант усе, хто сядзеў за сталом, а нас было некалькі сямейных пар, засмяяліся. І кожны падумаў штосьці сваё, таму што прафесарскі твар чырванеў глыбокімі драпінамі, якія той-сёй у думках імгненна звязаў з нервовым стрэсам ягонай жонкі. Ці не падрапала гэта прафесара шаноўная Кацярына Пятроўна? Пінчук жа памацаў адну з драпінаў і сказаў задумліва:

— Не, Паша... Галіцца я не развучыўся і пра браунаўскую электрабрытву даўно марыў, дзякуй табе. А вось гэта... — ён усё мацаў і мацаў драпіну. — След адной нядаўняй начы.

Ага... Мой Паша падміргнуў дацэнту Кумковічу:

— Дык ты, Адам Нічыпаравіч, аказваецца, укруціўся ў нейкія далікатныя начныя прыгоды!

— Якія абярнуліся выключным недалікацтвам, — ажно папярхнуўся тонкім фальцэтам аспірант Глушэц, якійсьці далёкі сваяк прафесара.

Узнікла паўза. Сам жа Адам Нічыпаравіч ніяк не адрэагаваў на гэты фальцэт, зноў задумаўся, потым паглядзеў на Глушца.

— Ты, Віця, у свайго сябрука Косці Пракопчыка запытайся. Ён табе раскажа і пра мае драпіны, і яшчэ пра тое-сёе. Адным словам, даўся мне гэты твой Пракопчык!

— Чаму мой? — жыва адазваўся Глушэц. — Ён жа ваш аспірант! Вы ж не са мною, з ім носіцеся, вось і ўлезлі некуды! І, калі ўжо ўсчалася такая гаворка, калі заінтрыгавалі ўсіх нас сваімі драпінамі, дык і расказалі б... Пракопчык у Гальшанах сваіх сядзіць, а вы тут!

— Сапраўды, дзякуй Богу, я тут, — неяк разгублена сказаў прафесар, і потым нечакана ахвотна, бы сарваўшыся з ланцуга, без перадыху пачаў расказваць, што ў іх здарылася з Пракопчыкам, і мы не паверылі ніводнаму ягонаму слову. Ва ўсялякім выпадку, паверыць у пачутае было немагчыма, хаця прафесар расказваў вельмі праўдзіва, у чым чытач гэтага апавядання можа сам пераканацца.

— Пракопчык мяне даставаў дзесьці з год, — пачаў Адам Нічыпаравіч. — Ён, ці бачыш, анамалію пад Гальшанамі адкрыў! Штосьці накшталт Бермудскага трохкутніка, ці яшчэ якога д'ябла! Адным словам, выявіў ён там анамальны паветраны слуп, у якім няма нічога... Выключна нічога! Гіпермёртвая зона. Гола, пуста, ніякіх табе электра-магнітных хваляў... Пракопчык і так, і гэтак да мяне падступаўся. Усё пераконваў, запрашаў паехаць у Гальшаны на свае вочы пераканацца. І вось з тыдзень таму я здаўся! Падумаў, а чаму б і не? Такая слынная мясціна на Беларусі. У адкрыццё Пракопчыкава, вядома, не надта верыў, а вось Караткевіча чытаў. Запомніўся ягоны "Чорны замак Альшанскі", ды і ўвогуле, Пракопчык усяляк тымі мясцінамі выхваляўся. Маўляў, там і славуты касцёл Іаана Хрысціцеля, і кляштар Францысканцаў, і мясцовы музей. А што да наваколля, дык мала таго, што ўсё гісторыяй старажытнай дыхае, дык яшчэ, каб толькі талент, што ні паваротка, што ні лугавіна, бяры пэндзаль і пішы... А галоўнае, усё тая ж анамалія, адным словам, добрая зачэпка. І Пракопчыка, думаю, уважу, і адпачну колькі там дзён, а пасля ўжо ўкручуся і ў юбілейныя клопаты.

Я чалавек на пад'ём лёгкі. Як вырашыў, гэтак і зрабіў. Да Гальшанаў дабірацца нескладана, нават не тэлефанаваў Пракопчыку, як снег на галаву абрынуўся, у вялікую радасць апошняму. І вось ужо сядзім на верандзе ў хаце ягоных бацькоў на Ашмянскім тракце... Маці, такая мілая гаспадынька, завіхаецца; бацька, як той спраўны шляхціц, на размовы сур'ёзныя паварочвае, а Пракопчык ажно з сябе выходзіць. Ужо нейкія там грунт-вагі падрыхтаваў і прыспешвае, маўляў, мы за гэты стол, як мае быць, вечарам засядзем, а цяпер хутчэй пойдзем! Ну і пайшлі...

— Даверлівы вы чалавек, спадар прафесар, — уваткнуў свае слова малодшы навуковы супрацоўнік Няхайчык. — Ды, калі б і сапраўды, якая анамалія... Няўжо б стагоддзі нейкага там аспіранта Пракопчыка чакалі?! Ужо ўсё даўно было б адкрыта, выяўлена, і не адна дысертацыя на той анамаліі абаронена!

— Э-э, не скажыце, — запярэчыў Пінчук. — Там сапраўды штосьці ёсць, загадка вялікая. Гэта яшчэ трэба даследаваць, але цяпер гаворка зусім пра іншае, усё павярнулася такім неверагодным бокам... — Ён глынуў мінералкі, пасміхнуўся не без іроніі. — Карцінка была маляўнічая, уявіце, я даўгалыгі, а Пракопчык кругленькі. Ён на плячах кавалак фанеры цягнуў, да калка прыбіты: "Гальшанскі трохкутнік". Кажу яму: "Косця, не прымушай людзей азірацца, а то яшчэ следам хто пойдзе". Праўда, за намі ніхто не пайшоў, а вось калі ўжо спусціліся ў нізінку, пакінуўшы за сабою і замак той самы Гальшанскі, і рэчку Гальшанку...

— Ну, а ў замку вы былі, Адам Нічыпаравіч? — пацікавілася спадарыня дацэнтава.

— Калі ж было паспець? Ды і ад замка там амаль нічога не засталося. Вядома, можна было пахадзіць па руінах, але потым ужо было не да гэтага. Хацелася як мага хутчэй выбрацца з тых Гальшанаў — вось як усё склалася... Дык, значыцца, убівае калок з фанерай Пракопчык, а тут дзядзька да нас падыходзіць, пастух вясковы, і статак яго блізенька.

"Гэй, Косцік, — кажа, — руку хачу пацiснуць прыезджаму чалавеку", — а сам на фанеру касавурыцца. Пракопчык, вядома, мяне прадставіў, і тут жа такое распавёў, што я анямеў. Маўляў, хутка нашыя Гальшаны на ўвесь свет праславяцца! Як пра тыя Бермуды гавараць і пісаць паўсюдна будуць, таму што, па ягоных прыкідках, неверагодна, ды факт, у нейкай пакуль невядомай кропцы адбылося скрыўленне прасторы і часу. Іначай, назіраецца той самы прасторава-часавы кантынуум, згорнуты ў стужку Мёбіуса. Во як загнуў! Я быў ашаломлены, а дзядзька нічога сабе, нібыта ён усё жыццё адно што пра стужку Мёбіуса і чуў, толькі сказаў:

— Ты мне, Косцік, больш простымі словамі растлумач, што да чаго.

Але Пракопчык нічога не стаў тлумачыць:

— Дзядзька Антон, я ўсё сказаў: анамалія! Дык мо якія выпадкі ў наваколлі надараліся?! Што-небудзь незвычайнае. Ну, скажам, штосьці ўзяло і знікла, бы ў ваду боўтнула, з канцамі! Ці наадварот, з'явілася... Дзіва якое было.

Дзядзька Антон падумаў, а потым і сказаў сур'ёзна:

— Анамалію помню. Гадоў шэсць таму назад карова Хведарчукова прапала. Якраз во тут, адбілася ад статка і не знайшлі! Хведарчук тады ўсё шкадаваў, што не застрахаваў кароўку!

Мой Пракопчык ажно падскочыў:

— Ну, вось бачыце, Адам Нічыпаравіч, было! Карова знікла... У Бермудскім трохкутніку караблі знікаюць, а тут тое, што ёсць. Наш жа трохкутнік на сушы.

Я не вытрымаў, узарваўся, маўляў, толькі не трэба зводзіць усё гэта да глупства. Барані Божа, дойдзе якая чутка да Мінска, нас жа навуковы свет проста высмее. Анекдоты пойдуць на любы манер. І дзядзька ўзяў мой бок. "Выкінь ты, — кажа, - Косцік, сваю фанеру ў Гальшанку, а чалавеку лепш пра што сур'ёзнае раскажы. Мясціны ў нас цікавыя, ну хоць бы той жа самы замак..." І прысеў дзядзька Антон на купіну, раз-пораз пазіраючы ў бок статка, каб не адбілася часам якая карова. Мы таксама прыселі. Дзядзька Антон пачаставаўся цыгарэтай з маёй кішэні.

— Вучоных людзей паважаю, — сказаў. — Сюды многія даўно ўжо імкнуцца. Я не далей як учора гісторыку аднаму расказваў і вам раскажу. Калісьці ад старых людзей сам чуў. Вунь, — паказаў на рэшткі замка, — разваліны, заняпад. А пачалося здавён. Князь Сапега тут гаспадарыў, ягоны палац быў. Дык, значыцца, узводзіўся гэты мур, ужо ледзь не да канца дайшлі, а князь тэрмін пэўны адвёў. І тут раптам сцяна адна пачала рушыцца. Абвальваецца, рады ніхто не можа даць, як ні стараюцца муляры ды тынкоўшчыкі. А тут старац нейкі аб'явіўся дый кажа таму майстраваму люду: "Мне знаменне было. Сцяна будзе абвальвацца, пакуль ахвяру не атрымае". І патлумачыў, што трэба некага забіць і найлепш жанчыну, ды і ўмураваць яе пад сцяну. Вось і задумаліся майстры, і вырашылі, што іншага выйсця няма, хай будзе так, як падказаў старац, калі ўжо знаменне было. І пачалі ламаць галаву, хто ж гэта можа быць, якая жанчына? Няпроста божаму чалавеку ўзяць на сябе такі грэх. І зноў падказаў той старац: маўляў, чыя жонка першаю прынясе заўтра харчы на полудзень, тую і заб'яце. І вось назаўтра з'яўляецца тая першая, маладзенькая ды прыгожая, жонка самага маладога муляра... Ат, пра астатняе і даказваць не хочацца. Яе і ўмуравалі. Сцяну залагодзілі, толькі ж не было вялікага шчасця ў гэтым муры нікому. Ды і сам род Сапегаў звёўся. — І ўжо праз паўзу дзядзька звярнуўся да мяне. — Бачу, не да душы вам прыйшлося маё паданне.

— Якое ўжо ёсць, — адказаў я яму.

На тым і разышліся. Пастух пайшоў да свайго статка, але, відаць, ягоны расповед надта ўразіў Пракопчыка, таму што той раптам прапанаваў:

— А што, Нічыпаравіч, можа, пройдземся да замка?

Не, кажу, Косця, гэты шпацыр давай адкладзём на заўтра. Ты бяры сваю фанеру, каб выпадковых людзей не палохала, і вяртайся дамоў, а я трошкі тут адзін пабуду. Даўно не быў на прыродзе. Берагам Гальшанкі прайдуся, розныя думкі свае да ладу прывяду. І Пракопчык пагадзіўся. Ён у адзін бок пайшоў, я ў другі. І тут такая стома ўзяла мяне, ну проста з ног валюся. Бачу валун наперадзе, дай, думаю, прысяду, а там ужо і да берага Гальшанкі павярну. Сеў. Штосьці хруснула пад нагою, нахіліўся, пачаў разгортваць траву... Не паверыце, калі падняў позірк, стала не па сабе. Прыцемак ужо бярэцца, падумалася, а толькі ж во спякота была, сонца ледзь за поўдзень пераваліла.

— Відно, добра драмануў ты, прафесар, на тым валуне, — нязвыкла-нервова рагатнуў дацэнт Кумковіч.

— Во-во... І я так спачатку вырашыў, — заківаў Пінчук. — Але сну ў мяне не было ні на момант. Падняўся я з валуна, гляджу туды-сюды... Недалёка статак павінен быць, як ішоў да валуна постаць дзядзькі Антона бачыў. І ў адначассе — нічога! Адна шэрасць суцэльная, ды такая вязкая, густая. І не цёмна як быццам, а воку няма за што зачапіцца. Наваколле як правалілася ў гэтую шэрасць, усё роўна бы свет белы схаваўся ў ёй. Толькі туман ад Гальшанкі клубамі плыве, у накат сцелецца... З гэтага туману і выйшла яна.

— Хто "яна", спадар прафесар? — тут ужо не ўцярпела я.

— Не ведаю... Не назвалася, — адказаў Пінчук. — Жанчына, адным словам, — і ён праглынуў гарачае ўнутранае хваляванне, нейкую надзвычай глыбокую ўзбуджанасць. А потым ужо працягваў. — Ага, жанчына... І гэта цяпер я магу зрабіць выснову, што ўсё ў ёй было нязвыклае, не нашае, не тутэйшае, нават зрэдку словы пракідвала для мяне цалкам незразумелыя, а тады... Там, ля Гальшанкі, я быў як аслеплены, такая ў яе была прыгажосць. Выключна дзёрзкая, прыцягальная. Яна аглушала, зацьміла розум.

— Туды не ідзі, вежа[1] надта густая, — сказала яна мне і апусцілася на траву за крок ад мяне. Рукамі аб грунт абаперлася, галаву трошкі адкінула, тонкая шыя выгнулася, нейкая шнуровачка на ёй вымалявалася. Танюткі белы строй абцягваў постаць, маленькія грудзі злёгку ўздрыгвалі... Цёмныя валасы расплыліся па траве.

— Гаворку вашу там, — калыхнула валасамі, — чула, — і дадала. — Праўды ў нагах няма... — і так прызыўна засмяялася, як можа смяяцца страсная, гарачая жанчына. Вядома, я сеў побач. "Хмм, як жа ты магла чуць нашую гаворку? — у сваю чаргу кажу ёй. — Хіба што толькі ў траве ляжала, схаваўшыся?"

— Гэта не твая фатыкга[2], — імгненна адазвалася яна. — А тое, пра што расказваў пастух, гэтак і было папраўдзе. Толькі ён шмат што пераблытаў. Багдан Сапега праз чатырыста летаў тут з'явіўся, а тое ўсё было за Гольшам. Як пачаў ён горад тут гарадзіць, дык многа люду сюды з ім прыйшло. Мур сапраўды ўжо завяршалі, тады і здарыўся той трафунак[3]. Каб Гольша на месцы быў, нічога б не адбылося. Ды бязэцнік[4] той ліха ўсчаў. А калі ўжо вярнуўся Гольша і дазнаўся пра ўсё, дык і не схацеў гэтага мура. На ловы за Карабель у пушчу паехаў, там і асеў.

"Навукоўка, з гісторыяй справу мае", — мільганула ў мяне думка, а ўслых сказаў:

— Дасведчаная ты. Я вось дык і не ведаю, пра якога Гольшу ты мне тут расказваеш, хаця здагадваюся. Гольша... Гальшаны... Дык, кажаш, горад ён тут гарадзіў? — засмяяўся я, а сам трымчу ўвесь. Яна мяне надзвычай хвалюе.

— Ага-а, ягоны горад, — жыва адазвалася.

— Ну, а як ты гэта сказала — бязэцнік? Той, што тут рабіў?

— Не тут, а ў Уцені. Як толькі бязэцнік Доўмант гвалтам узяў за сябе братавую, Нарымонтаву ліфляндку, Нарымонт і склікаў усіх астатніх братоў, — і Гедруса, і Трайдзена, і Гольшу, вядома, каб вярнуць сваю жонку назад, адабраць яе ў Доўманта. Якраз тады і пачаўся абвал сцяны...

— Цікавыя рэчы расказваеш, я паўжыцця пражыў і такі цёмны, аказваецца.

— Ой, фартэліш[5], — задумалася. — А мо і папраўдзе нічога не ведаеш... Калі Гольша ад'язджаў, шмат каму спляндорыкі[6] раздаў, амулеткі металёвыя ў выглядзе сякеркі, каб без яго тыя сякеркі бяду адварочвалі. А выйшла наадварот усё. Юрачка сякераю бараніўся, але аднік[7], улучыўшы момант, выхапіў яе. На астатняе Сляпко падбухторыў. Потым галаву, адсечаную, Юрачку кінулі: "Трымай, мілоснік!" — і яна бы захліпнулася, і праз нейкае імгненне дадала. — Тады такая ж поўня была. Днём пабаяліся ўчыняць тое. Начы дачакаліся.

[1]Туман (старабеларускае). [2]Не твой клопат. [3]Выпадак. [4]Распуснік. [5]Хітрыш. (Старабел.). [6]Упрыгажэнне. (Старабел.). [7]Грэшнік. (Старабел.)

(Працяг на стар. 12)

## "Мара" марыць аб чэмпіёнах

**Вечарам 6-га верасня вялікая танцавальная зала Палаца культуры Мінскага трактарнага завода была перапоўнена людзьмі самага рознага ўзросту — народны клуб бальнага танца "Мара" ўжо ў 34-ы раз сабраў аматараў гэтага цудоўнага мастацтва. Клуб, утвораны яшчэ ў 1965 годзе, з'яўляецца самым старэйшым не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і ва ўсёй Усходняй Еўропе. Лаўрэат шматлікіх гарадскіх і міжнародных прэмій, "Мара" за гады свайго існавання выхавала і майстроў спорту па спартыўных танцах, і нават чэмпіёнаў РБ. Два асноўныя накірункі ў працы гэтага калектыву — выступленне з вялікімі канцэртнымі праграмамі і падрыхтоўка да конкурсных спартыўных танцаў. Трэба ўзгадаць, што з 95-га года яны з'яўляюцца алімпійскім відам спорту. Зборная каманда Беларусі ўваходзіць у дзесятку мацнейшых у свеце. Вядома, каб дасягнуць такіх вынікаў, трэба зрабіць танец неад'емнай часткай свайго жыцця, таму будучыя чэмпіёны знаёмяцца з "Марай" ужо ў чатыры гады. Але і тыя дарослыя (аж да перадпенсійнага ўзросту), каго бацькі ў свой час не прывялі ў студыю, маюць усе шанцы навучыцца сама меней добра рухацца і не выглядаць бездапаможна пры нечаканым запрашэнні на танга ці факстрот. За тры з паловай месяцы — менавіта столькі часу займае курс для пачынаючых — вопытныя настаўнікі навучаць любога, нават таго, хто пачынае літаральна з нуля, не менш чым пятнаццаці розным танцам. Занятkі праводзяцца два разы на тыдзень у зручны для дарослых вячэрні час. Што датычыцца платы за навучанне, дык яна даступная амаль кожнаму і з'яўляецца, здаецца, значна драбнейшай праблемай у параўнанні з неабходнасцю пошукаў партнёра для танцаў. Як заўсёды, моцная палова чалавецтва значна менш цікавіцца падобнымі справамі або даўно ўжо паставіла на сабе крыж з-за няўпэўненасці ва ўласных здольнасцях. Але "мараўскія" настаўнікі А. Аляксандрава, Г. Муха, Д. Бляяўскі, А. Задкоў пад кіраўніцтвам галоўнага балетмайстра Л. Лазаравай гатовы ўзяцца за самых "безнадзейных". Аб тым, што людзям у "Мары" падабаецца, гаворыць і вялікая колькасць жадаючых працягваць навучанне (а працягваць можна колькі заўгодна на ўсё больш складаным узроўні), і проста шчаслівыя твары тых, хто ў той дзень выступаў перад гледачамі, дэманструючы вынікі працы клуба. Самыя маленькія студыйцы ва ўзросце ад шасці да адзінаццаці з бачным задавальненнем станцавалі самбу, ча-ча-ча і джайв. Прадстаўнікі групы для падлеткаў "Марачка" выканалі танцы, што складаюць еўрапейскую праграму: павольны вальс і факстрот, страснае танга і венскі вальс. А ўжо прафесійны ўзровень паказалі ў лацінаамерыканскіх румбе і самбе тры пары са старэйшай групы.**

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

## Вырабы карыстаюцца попытам



**На слонімскай фабрыцы "Тэкстыльшчык" канцэрна "Гроднамясцпрам" выпускаюць паўшарсцяныя коўдры і коўдры з хімічных валокнаў, прасціны, ручнікі, дзіцячыя суконкі, пакрывалы, іншыя вырабы і габеленавую тканіну. Штомесяц у гэты асартымент уводзяцца новыя назвы. Акрамя Беларусі, прадукцыю фабрыкі з задавальненнем купляюць у Расіі, Украіне, Малдавіі, краінах Балтыі.**

*На здымку: мастак-дызайнер Аляксандр Стацэнка, начальнік АТК Марыя Жукоўская і загадчык асартыментнага кабінета Аляксандр Салішчаў з гатовай прадукцыяй.*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

МУЗЫКА

# Нястомная Лючыя Ластаўка

ПРЭМ'ЕРА Канцэрта для альта з аркестрам беларускага кампазітара Уладзіміра Каральчука прайшла ў сталічнай філармоніі вельмі паспяхова. Выканаўцы — Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі на чале з яго мастацкім кіраўніком Інгай Эрнстам Райлем і салістка Лючыя Ластаўка пераканаўча перадалі філасофскі дух гэтай музыкі. Новы твор У. Каральчука гучаў таксама ў час гастроляў нашага аркестра ў Германіі — у горадзе Мюльхайме, дзе праходзіў Міжнародны фестываль імя Марка Шагала, і зноў быў цудоўны прыём публікі.

Узрушаны кампазітар прызнаўся ў сваёй удзячнасці выканаўцам:

**— Мне прыемна, што менавіта Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі выконваў мой твор. Салістка Лючыя Ластаўка, з майго пункту гледжання, — адна з лепшых выканаўцаў на альце ў нашай краіне. Я вельмі задаволены, бо мой Канцэрт прагучаў так, як быў задуманы. Калі я прынёс партытуру ў калектыў, Лючыя Леанардаўна падказала мне, кампазітару маладому, некаторыя акалічнасці: напрыклад, што трэба змяніць дзеля зручнасці выканання і магчымасцей саліруючага альта, захаваўшы дынаміку развіцця, інтанацыю. Нядаўна яна зрабіла мне заказ — напісаць новы твор, п'есу для альта, якую выконваў бы яе вучань падчас міжнароднага конкурсу...**

Так, Лючыя Ластаўка — імя вядомае. Як салістка яна заявіла пра сябе яшчэ ў 1971-м, калі камерны аркестр выконваў п'есу Сяргея Картэса, у якой ёсць выразная сольная партыя альта. Следам прагучала другая частка віяланчэльнага Канцэрта Гайдна ў пераласкэнні для альта. У той вечар публіка выклікала салістку на "біс". З часам Лючыя Ластаўка захоплена выконвала Санату для альта Яўгена Паплаўскага... Цяпер ёй нярэдка тэлефануюць дадому, каб паведаміць, што чулі ў эфіры запіс Канцэртнай сімфоніі Моцарта для альта, скрыпкі, аркестра, зроблены ёю ў партнёрстве з вядомым музыкантам заслужаным артыстам Беларусі Міхаілам Штэйнам і аркестрам пад кіраўніцтвам Віктара Собалева.

Таленавіты музыкант, канцэртмайстар альтоў камернага аркестра, другі дырыжор, педагог... Усё гэта — пра аднаго чалавека, Лючыю Ластаўку, чый шлях у музыку пачынаўся ў Малдове, на яе радзіме.

**— Мае бацькі не былі прафесійнымі музыкантамі, але яны вельмі любілі папулярную класічную музыку, ведалі шмат прыгожых арый з опер, аперэт, — успамінае Лючыя Леанардаўна. — У нашым доме часта гучалі дуэты кампазітараў-класікаў у выкананні бацькі, які меў прыгожы барытон, і яго сяброў. Бацька хацеў навучыць мяне ігры на фартэпіяна, а маці марыла, каб я грала на скрыпцы, якая, дарэчы, лічыцца ў Малдове нацыянальным інструментам. Паслухалася маці, з сямі гадоў пачала асвойваць скрыпачку. Сястра мая рыхтавалася стаць віяланчэлісткай. Пазней, з-за праблем з набыццём інструмента пры паступленні ў кансерваторыю, яна мусіла вучыцца на дырыжорска-харавым аддзяленні. Я ж змяніла скрыпку на альт, бо вельмі падабаўся тэмбр гэтага інструмента, на якім граў мой знаёмы пажылы музыкант з сімфанічнага аркестра. Ён і параіў мне педагога, бліскучага скрыпача, альтыста Аляксея Інакенцьевіча Амвросава, які выкладаў у музычным вучылішчы і ў скрыпачоў, і ў альтыстаў. Яго ведалі і як выдатнага канцэртанта — ён выступаў у квартэце, граў і ў аркестры. Лічу яго сваім адзіным настаўнікам. Па сённяшні дзень гэта мой ідэал музыканта, педагога, чалавека. Цяпер Аляксей Інакенцьевіч выкладае ў Кішынёўскай кансерваторыі.**

Яна ўжо ўяўляла сябе студэнткай прэстыжнай Адэскай кансерваторыі, шмат кансультавалася ў прафесара Міхаіла Грынберга. Але лёс распарадзіўся па-свойму. Зусім выпадкова Лючыя прачытала аб'яву ў газеце "Советская культура" наконт мінскага конкурсу ў сімфанічны аркестр, куды патрабаваліся шэсць альтыстаў. Лючыя Ластаўка якраз скончыла Кішынёўскае музычнае вучылішча. І — вырашыла адгукнуцца на аб'яву. Паспяхова прайшлі конкурс і прыехалі ў Мінск музыканты з Ленінграда, Днепрапятроўска і яна — з Кішынёва. Адразу паступіла і ў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю.

Вось так 35 гадоў таму Лючыя Ластаўка зрабілася мінчанкай.

Сумяшчала вучобу ў кансерваторыі з працай у Дзяржаўным сімфанічным аркестры. У той час за яго пультам стаяў цудоўны дырыжор, музыкант ад Бога Віктар Дуброўскі. Дзе толькі ні даводзілася выступаць! Ездзілі на Урал і ў Крым, гастралявалі па Еўрапейскай частцы былога СССР і, вядома, па Беларусі.

Першым часам у Мінску Лючыя жыла ў сям'і Ганны Трафімаўны Касценіч і яе дачкі Ларысы, пра якіх гаворыць з вялікай цеплынёй:

**— Яны прынялі мяне ў сваю аднапакаёвую кватэру, абагрэлі, паставалі. Мы жылі, як адна сям'я. Да сённяшняга дня не магу забыць душэўнасць, цеплыню, гасціннасць, адкрытасць гэтых цудоўных людзей. Ганны Трафімаўны ўжо няма з намі, але ніколі не забуду яе мацярынскі клопат. З Ларысай мы блізкія людзі на ўсё жыццё.**

На дабрыню, шчырасць Лючыя адказвае тым жа. Яе цудоўныя чалавечыя якасці дапаўнялі музычны талент і гэта не маглі не заўважыць калегі. Таму і запрасілі граць разам — у квартэце Саюза кампазітараў Беларусі.

**— Як зараз памятаю склад тагачаснага нашага квартэта, — прыгадвае Л. Ластаўка. — Першая скрыпка — таленавіты музыкант Валеры Сарока, другая — Павел Валадарскі, цудоўны выканаўца, педагог (ягонае жыццё раптоўна абарвалася), віяланчэль — Мікалай Шчарбакоў, які сёння — прафесар Беларускай акадэміі музыкі. Да мяне ставіліся вельмі добразычліва, і гэта было шчасце музіцыраваць з сапраўднымі прафесіяналамі. За чатыры гады працы ў квартэце мы сыгралі шмат новых твораў беларускіх кампазітараў: Мікалая Аладава, Пятра Падкавырава, Дзмітрыя Лукаса, Ігара Лучанка, Алега Янчанкі.**

Яна перастала граць у квартэце, бо заканчвала кансерваторыю. Да таго ж багата часу займала праца ў сімфанічным аркестры. А неўзабаве распачалася новая старонка ў творчым жыцці Лючыі Ластаўкі — быў створаны Мінскі (цяпер Дзяржаўны) камерны аркестр, у якім яна — з дня заснавання.

**— Памятаю, як быў арганізаваны камерны аркестр, — расказвае яна. — Дзякуючы намаганням Алега Янчанкі і некалькіх музыкантаў-аднадумцаў існаваў ансамбль салістаў, які граў камерную музыку. Звычайна мы сустракаліся альбо да нашай асноўнай працы (прыкладна, а шостай гадзіне раніцы), ці вельмі позна — апоўначы і музіцыравалі. Алег Рыгоравіч Янчанка дабіўся ў Саўміне рашэння наконт афіцыйнага стварэння ў Мінску камернага аркестра. Яго першым канцэртмайстрам быў вядомы скрыпач Вячаслаў Зяленін.**

Нашу першую праграму складала авангардная музыка — творы Шонберга, Берга, Веберна, якія раней не гучалі ў Мінску. Дарэчы, гэтыя ноты Алег Янчанка прывёз з Аўстрыі. Сумеснымі намаганнямі па начах мы выбіралі рэпертуар для камернага аркестра. Літаральна з першых выступленняў нашы канцэрты зрабіліся аншлагавымі, асабліва выклікалі цікавасць у моладзі. Запісы нашых выступленняў перадавалі з рук у рукі. Гралі мы і творы нашага кіраўніка Алега Янчанкі. На жаль, нядоўга працаваў з намі гэты цудоўны музыкант, таленавіты арганіст, кампазітар. Інтрыгі вымусілі яго пакінуць Мінск. Але ён не мог пакінуць сваё "дзіця" без кіраўніка, таму з'ездзіў у Ленінград, знайшоў таленавітага вучня Мсціслава Растраповіча, на той час віяланчэліста аркестра Яўгена Мравінскага, — Юрыя Цырука і сам запрасіў на сваё месца.

У музыкантаў Мінскага камернага пачаўся росквіт прафесіяналізму і час цікавых музычных праграм. Менавіта тады сфарміравалася Лючыя Ластаўка як салістка. За 30 гадоў працы яна перайграла лепшыя ўзоры камернай музыкі ў самых розных стылях — барока, класічная, сучасная еўрапейская музыка, творы беларускіх аўтараў.

Ёй вельмі блізкая класіка. Але цікавіць і ўсё новае, таленавітае. І, як лічыць мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага камернага аркестра Інга Эрнст Райль, Лючыя Ластаўка натхнёна, выразна перадае стыль кожнага твора.

Наогул жа, гэта ўнікальны выпадак: працаваць у тым самым аркестры трыццаць гадоў! Мо прычына пастаянства ў яе уменні знаходзіць падыход амаль да кожнага чалавека, у абаяльнай шчырасці, адкрытасці, зычлівасці, дабрыні. У свой час Лючыя Леанардаўна дапамагла маладому маэстра Райлю, паводле яго асабістага прызнання, знайсці агульную мову з калектывам. (У яго былі праблемы з-за розных стыляў працы на Беларусі і ў яго на радзіме, у Германіі. У нас на рэпетыцыі прынята доўга працаваць над кожным гукам, нюансіроўкай, а немцы прайграюць некалькі разоў увесь твор цалкам). А яшчэ дзякуючы ёй група альтоў у аркестры трымае высокі прафесійны ўзровень, раўняючыся на свайго канцэртмайстра Л. Ластаўку. Яна выконвае ў аркестры таксама абавязкі другога дырыжора. Гэта значыць, пры адсутнасці галоўнага рыхтуе з аркестрам праграму. Дырыжоры, якія выступаюць з гэтым калектывам, у першую чаргу кансультуюцца з ёю.

Як вядома, Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі шмат гастралюе. У Германіі, Англіі, Швецыі, Францыі — усюды поспех! Аж пяць разоў яны ездзілі летась у Францыю, мелі прэстыжны канцэрт у Парыжскім Палацы кангрэсаў, дзе было каля 4 тысяч слухачоў. Публіка літаральна ахрыпла ад воклічаў "біс!", "брава!"... Папулярныя выступленні нашага камернага і ў родным Мінску. Але, на жаль, "дома" праца музыкантаў сёння мала аплачваецца. Калі Лючыя Леанардаўна ў адказ на пытанне сваіх амерыканскіх сяброў, якія прывезлі ў Мінск гуманітарную дапамогу, паведаміла, што ў пераліку на амерыканскія грошы музыканты дзяржаўнага аркестра зарабляюць у месяц толькі 25 долараў, тыя толькі развялі рукамі: "У вас такі цудоўны аркестр!"



Грошы, безумоўна, маюць не апошняе значэнне ў нашым жыцці, але Лючыя Ластаўка, нягледзячы на ўсё, працуе ў аркестры не толькі дзеля заробку, а і таму, што не ўяўляе сваё жыццё без любімай прафесіі. Яе за гэта вельмі паважаюць у калектыве. А яшчэ — за вытрымку, вялікую сілу волі. Калі патрэбна, заўсёды можа сабрацца. Сябры ведаюць: працягвала працаваць, нават калі была ў дэкрэтным водпуску, ездзіла на гастролі, грала сола — за тры тыдні да нараджэння сына Віталя.

Дарэчы, пра сям'ю: больш як трыццаць гадоў яна замужам, муж па прафесіі інжынер-праекціроўшчык, вельмі паважае працу Лючыі, якая лічыць яго сваім самым лепшым крытыкам. Ходзіць на ўсе мінскія канцэрты камернага аркестра, бывае на іх і дзеці, якія атрымалі пачатковую музычную адукацыю. Дачка Алена — перакладчык-рэферэнт, сын — камп'ютэршчык. Сама гаспадыня ўмее смачна гатаваць і шчыра прымаць гасцей...

Адзінаццаць гадоў таму яна занялася педагогікай і цяпер — дацэнт Беларускай акадэміі музыкі, выкладае таксама ў каледжы пры БАМ.

**— Мне здаецца, — гаворыць Лючыя Леанардаўна, — што педагог вышэйшай навучальнай установы павінен зрабіць свайго вучня высокапрафесійным музыкантам, навучыць яго працаваць над сабой і выкладаць. Прыемна, што мае вучні працуюць у вядучых музычных калектывах Беларусі і што кожны з іх па-свойму цікавы стаўленнем да гуку, да творчых стыляў.**

Цяпер яе цяжка заспець дома. Пасля канцэртнай, рэпетыцыйнай, педагагічнай працы Лючыя Леанардаўна прыходзіць дадому позна.

І ўсё-ткі вельмі шчаслівая гэтая нястомная працавітая жанчына, бо мае справу, якую вельмі любіць.

**Вера КРОЗ**

ПОГЛЯД

# Куды ідзеш, беларускі балет?

***Наш балет, як вядома, — з'ява адметная. Найшырокая папулярнасць не толькі ў беларускага гледача, а і за мяжой. На кожным спектаклі — аншлаг. З'яўляюцца новыя пастаноўкі. Перад публікай не-не ды і паўстаюць маладыя здольныя артысты...***

***На першы погляд, усё гладка. Але ў кожнага, нават добра адладжанага калектыву ёсць свае праблемы.***

На працягу двух гадоў у тэатры назіраецца адчувальная бягучасць кадраў: змяняецца склад вядучых танцоўшчыц, салістаў кардэбалету, пакідаюць тэатр дасведчаныя ў рэпертуары артысты, спрактыкаваныя майстры сцэны. Большасць з іх накіроўваецца ў суседнюю Польшчу, а таксама ў Прыбалтыку ды азіяцкія краіны. Са спадзяваннем палепшыць сваё матэрыяльнае становішча.

Дык няўжо ў Нацыянальным акадэмічным тэатры балета Беларусі так кепска з фінансамі? Зусім не. Пастаянныя зборы са спектакляў забяспечваюць стабільныя выплаты зарплат, авансаў, прэмій. Замежныя гастролі нашай балетай трупы таксама ўносяць адчувальны ўклад у бюджэт кожнага, хто выязджае.

Але — усім вядома, што шмат грошай не бывае.

Патрэбы растуць, вось і зрываюцца беларускія артысты ў іншыя дзяржавы: хто па фінансы, хто па "рамансы". Што зробіш... У свеце бізнесу, эканамічнай нестабільнасці, што характарызуе канец XX стагоддзя, кожны чалавек мае права паспрабаваць сам вырашаць свае праблемы.

Пачуццё патрыятызму, калектывізму, гэтак жа як роўнасць і брацтва, адышлі ў мінулае, там жа засталося спадзяванне на дапамогу і спачуванне навакольных людзей. Не будзем крывіць душой: сёння кожны чалавек адказвае за сябе перад самім сабой. таму, відаць, і нельга абвінавачваць людзей, якія шукаюць у іншых краінах вырашэння сваіх праблем.

З фінансамі, здаецца, усё зразумела. Цяпер пра "рамансы", ці, іначай кажучы, пра творчасць.

Артысту балета трэба сапраўды ўяўляць сабой штосьці значнае, каб быць заўважаным і стаць "зоркай" у Еўропе. (У краінах Азіі іншая спецыфіка, распаўсюджаны ў асноўным балет-вар'етэ). Зразумела, "там" можна, як мінімум, пашырыць свой кругагляд, убачыўшы вядомых выканаўцаў, прагледзеўшы знакамітыя пастаноўкі. Аднак гэта толькі можна ўбачыць, бо каб выканаць самому адну з роляў у еўрапейскіх трупах — шанцаў зусім няшмат. А артыст жа на тое і артыст, каб тварыць, самому ўдзельнічаць у творчым працэсе!

Будзем разважаць далей. Калі параўнаць афішу Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі з балетнымі тэатрамі Польшчы, перавага, безумоўна, будзе на нашым баку. Рэпертуар беларускага балета можа задаволіць творчы інтарэс артыстаў розных амплуа і індывідуальнасцяў. На нашай сцэне ідуць амаль усе спектаклі сусветнай класікі. Гэта — масавыя балеты, з вялікай колькасцю персанажаў, з сольнымі нумарамі, якія даюць шырокія магчымасці для выканаўцаў. Тэматыка ж сучасных нашых пастановак надзвычай разнастайная, і, мне здаецца, далёка не кожны тэатр у свеце можа пасапернічаць альбо проста параўнацца з рэпертуарам беларускай балетнай трупы.

Яшчэ адзін довад не на карысць "эмігрантаў". У сваёй краіне мы — людзі "першага гатунку". У Польшчы пад нумарам "адзін" ідуць, натуральна, палякі, у краінах Балтыі — тамтэйшы карэнны люд. Да таго ж, агульнавядомыя праблемы з рускамоўнымі.

Прафесія артыста балета — даволі рэдкая, і атрымаць харэаграфічную адукацыю высокага ўзроўню можна толькі ў харэаграфічным каледжы. У нашай краіне такі ёсць, і тэатр балета Беларусі можа разлічваць, у асноўным, толькі на яго выпускнікоў. І як жа робіцца крыўдна, калі з такой цяжкасцю выгадаваны з "брыдкага качаняці" "лебедзь" адлятае ў "гарачыя" краіны, дзе цёпла і сытна! Атрымліваецца, што там яны на ўсім гатовенькім, што мы працуем на іншых? Але, на сённяшні дзень гэта сапраўды так. І ўведзенае сёлета размеркаванне выпускнікоў харэаграфічнага каледжа вырашае праблему толькі на два гады. А далей?

Куды ідзеш, беларускі балет?

І усё ж, і ўсё ж... Давайце глядзець са спадзевам. Каго адзначае глядач нашага Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета, наведаўшы спектакль?

Перш за ўсё — гэта прыма-балерына Кацярына Фадзеева. Эфектная артыстка, яна мае цудоўныя знешнія дадзеныя, тэхнічна стабільная, вельмі трывушчая. Кацця, якая лічылася нейкі час балерынай класічнага кшталту, узбагаціла свой рэпертуар, упісаўшыся ў сучасныя балеты В. Елізар'ева, дзе паказала не толькі вывучку, але і шчырасць, трапяткую душу. Вядома, што сёлета К. Фадзеева была ўзнагароджана фірмай "Філіп Морыс" — грашовым прызам за лепшую ролю года.

Яшчэ адна балерына — Тацццяна Беранава не дае задрамаць беларускаму балету і стварае здаровую канкурэнцыю сярод вядучых танцоўшчыц. Цікава назіраць за працай гэтай мэтанакіраванай артысткі, якая не прызнае цяжкасцяў і паражэнняў.

Вылучаецца моладзь. Лёгка, без напружання выконвае найскладаную партыю Машы ў "Шчаўкунчыку" І. Лаўронава. Яна ж — гуллівая, непасрэдная гераіня ў "Прывале кавалерыі". Расце творча А. Леванович. Яму асабліва ўдаюцца ролі ў сучасных пастаноўках: Сын у "Кругабегу", гладыятар у "Спартаку", Цібальд у "Рамэо і Джульеце". Талент І. Сядзько як гратэскавага акцёра раскрываецца ў "Чыпаліне", дзе "яго вялікасць" прынц Лімон дарэмна сіліцца кіраваць дзяржавай гародніны і садавіны. А нядаўні дэбют у ролі Гамаша ў "Дон Кіхоце" паказаў, што Ігар — вельмі выразны і ўдумлівы артыст: смех жа — справа сур'ёзная і па сіле толькі разумнаму акцёру. Упэўнены творчы рост паказваюць Т. Падабедава, А. Гайко, С. Пясецкая, якія паспяхова дэбютавалі ў сольных і вядучых партыях.

Вось такая сітуацыя.

Нягледзячы ні на што, аркестр іграе, балетмайстар ставіць, артысты выконваюць, гледачы запаўняюць залу. Беларускі балет жыве і жыць будзе ў родным доме!

**Дана БАКУНЧЫК**




*На здымку — сцэна са спектакля: "Раймонда"*

*Фота Віт. АМІНАВА*

# У Мікалаеўшчыне — пленэр

У Мікалаеўшчыне, што ў Стаўбцоўскім раёне, закончыўся пленэр скульптараў-рэзчыкаў па дрэве, арганізаваны Беларускім Саюзам майстроў народнай творчасці. У ім прынялі ўдзел рэзчыкі са Століншчыны і Смалявіцкага раёна, Маладзечна і Мінска. Дзесяць дзён працавалі майстры, ператвараючы магутныя дубовыя плахі ў скульптурныя кампазіцыі: "Русалку" і "Лесавіка", "Анёла-абаронцу". У завяршэнне пленэру ўстанавілі на высокім беразе над Нёманам шасціметровы крыж у памяць выдатнага рэзчыка Міхаіла Корабава, які нядаўна пайшоў з жыцця і чые скульптуры ўпрыгожваюць Коласаўскі літаратурны запаведнік.



Створаныя на пленэры скульптуры ўстаноўлены на тэрыторыі Дома-інтэрната для ветэранаў вайны і працы ў Мікалаеўшчыне.

*На здымку: удзельнікі пленэру рэзчыкі Вячаслаў Пятровіч, Анатоль Лавар, Генадзь Матусевіч.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

# Увайшоў у гісторыю Літвінам

НЯПРОСТЫ, пакручасты шлях вяртання нашчадкам многіх твораў, якія, дзякуючы свайму арыгінальнаму зместу, вартыя высокай ацэнкі і чарговымі пакаленнямі. І з гэткай жа цяжкасцю часам устанаўліваюцца сапраўдныя імёны тых, хто, робячы добрую справу сумленна і годна, не думаў аб будучай славе. Лёс Міхайлы Цішкевіча і яго адзінай кнігі "Аб норавах татар, літоўцаў і масквіцян" — найлепшае таму пацвярджэнне. А з "норавамі" многія чытачы змаглі упершыню пазнаёміцца ў 1615 годзе, калі ў горадзе Базелі (Швейцарыя) у друкарні добра вядомага на той час Кондрада Вальдкірха пабачыў свет зборнік, складзены і выдадзены не менш вядомым Іаганам Якабам Грасерам. Грасер змясціў пад адной вокладкай ужо згаданы твор "Аб норавах...", а таксама трактат Яна Ласіцкага "Пра багоў самагітаў, іншых сарматаў і несапраўдных хрысціян", "Аб рэлігіі армян", "Аб пачатку праўлення Сцяпана Батуры".

Калі гісторыка, бібліёграфа, пратэстанцкага рэлігійнага дзеяча Ласіцкага адукаваная публіка больш-менш ведала, дык прозвішча аўтара "нораваў" ёй мала што гаварыла. Ды яшчэ было яно нейкае дзіўнае — Літвін, Міхаіл Літвін.

Нічога пэўнага пра гэтага Літвіна не сказаў у прадмове і Грасер. Толькі паведаміў, што рукапіс твора быў прысланы ў Брусель з Польшчы на імя друкара Пятра Парне і па невядомых прычынах загубіўся сярод яго шматлікіх папер. Калі ж друкарня Парне спыніла работу, трактат Літвіна апынуўся нейкім чынам у знаёмага Грасера. Той, прачытаўшы рукапіс, зразумеў, што ён варты надрукавання.

На думку Грасера, свой трактат Літвін напісаў яшчэ ў 1550 годзе і прысвяціў яго каралю Жыгімонту Аўгусту. Было ў зборніку яшчэ адно прысвячэнне — самога выдаўца. Яно адрасавалася маладому магнату, князю Аляксандру-Актавіяну Аляксандравічу Пронскаму, партрэт якога Грасер змясціў у самым пачатку, на правым баку першага ліста кнігі.

У прадмове паведамлялася, што Пронскі некалькі гадоў да гэтага вучыўся ў Базельскім універсітэце, а затым, як і многія маладыя людзі, якія мелі немалы дастатак, падарожнічаў па Францыі, Італіі, пабываў на Балеарскіх астравах.

Пронскі быў добра знаёмы з Грасерам і шмат гутарыў з ім на рэлігійныя і гістарычныя тэмы. Гэтыя сустрэчы нярэдка перарасталі ў дыскусіі. Знаёмства з Пронскім, відаць,і падштурхнула Грасера знайсці ў ім мецэната будучага выдання. А Пронскі ж, канечне, быў зацікаўлены ў прыцягненні ўвагі да сваёй персоны.

У выніку і з'явілася такое прысвячэнне: "Але паколькі ты, свяцейшы князь, дагэтуль уважліва назіраў звычкі і норавы германцаў, галаў, італьянцаў і іспанцаў і пасля свайго вяртання ў Айчыну, якое цяпер плануецца, несумненна сустрэнешся са зброямі ў руках з татарамі і масквіцянамі, я і вырашыў пазначыць тваё імя і прысвяціць табе гэтую працу, у якой праўдзіва апісваецца жыццё непрыяцеля".

Сумнення няма: Пронскаму Грасер адрасаваў найперш трактат Літвіна. Дый зборнік ён складаў хутчэй з мэтай, каб будучыя чытачы маглі даведацца пра землі, якія дагэтуль ім заставаліся малавядомымі. А гэта і тычылася Вялікага княства Літоўскага, Масковіі, крымскіх татар. Цікавасць жа да жыцця, побыту, звычаяў насельніцтва гэтых зямель у Заходняй Еўропе ўсё больш узрастала.

Але і сам Літвін, і яго кніга "Аб норавах..." так і забыліся б, калі б пра іх не ўспомнілі праз дзвесце з гакам гадоў. Папершае, яна з цягам часу стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Па-другое, трактат напісаны на латыні. І зроблена гэта было Літвінам, відаць, свядома. Разумеючы, наколькі шырока лацінская мова распаўсюджана ў цывілізаванай Еўропе, ён хацеў, каб яго праца не засталася марнай.

Вяртанне трактата з небыцця адбылося ў 1854 годзе. Перад гэтым высветлілася, што адзін з экземпляраў зборніка, выдадзенага Грасерам, захоўваецца ў бібліятэцы Маскоўскага універсітэта, а трапіў ён у фонды яе хутчэй за ўсё дзякуючы рупнаму збіральніку славянскіх, у тым ліку і беларускіх, кніг і іншых духоўных каштоўнасцяў Ігнату Даніловічу.

Трактат на рускую мову пераклаў С. Шастакоў і прапанаваў Мікалаю Калачову, які выдаваў часопіс "Архив историко-юридических сведений, относящихся до Росии". У тым жа 1854 годзе "Норавы..." і былі змешчаны ў ім (кніга 2-я, палова 2-я). І не толькі ў перакладзе.

Як гаварылася ў разгорнутым каментарыі да публікацыі, напісаным М. Калачовым: "Пры выданні "ўрыўкаў Міхалона" мы палічылі абавязкам прапанаваць дакладны пераклад іх, а таксама ў сувязі з тым, што друкаваны экземпляр, якім мы карысталіся, рэдкі, перадрукаваць яго цалкам, прытрымліваючыся дакладна не толькі правапісу, а і знакаў прыпынку арыгінала".

Узнікае, праўда, заканамернае пытанне: чаму чарговы выдавец, разумеючы значнасць і каштоўнасць твора Літвіна, абмежаваўся толькі яго ўрыўкамі? А таму, што поўнага тэксту не надрукаваў і Грасер. І не мог гэтага зрабіць, бо, на жаль, з напісанага Літвінам бераглося далёка не ўсё. Захаваліся толькі вытрымкі з так званых "дзесяці кніг", на якія рукапіс, відаць, падзяліў сам аўтар.

Меркаваць так ёсць усе падставы, пра што, дарэчы, гаворыцца ў прадмове да рускамоўнага варыянта. Больш таго, яшчэ сёетое скараціў і Грасер. У прыватнасці, у першапачатковай публікацыі трэці ўрывак называецца так: "Скарачэнне ўрыўка кнігі трэцяй". Грасер жа, за выключэннем урыўкаў першага і дзевятага, тое, што друкаваў, называе не проста ўрыўкам другім, трэцім і г. д., а скарачэннем урыўкаў другога, трэцяга...

Ёсць і больш канкрэтнае сведчанне. На старонцы 14-ай базельскага выдання адразу за першым урыўкам, перад пачаткам другога, стаіць загаловак "Штосьці да чытача", а ў ім паведамлялася: "Наступныя за гэтым кнігі (тамы) Міхалон напоўніў толькі скаргамі на сапсаваныя норавы свайго народа, зазначаючы, што гэта (сапсаваныя норавы. — **А. М.**) самы згубны вораг, якога трэба перш за ўсё выгнаць, таму жадае, каб яны былі выпраўлены і называе каралю сродкі дзеля дасягнення падобнага... Але мы, апусціўшы гэтыя скаргі, пазнаёмімся толькі з тым, што належыць уласна гісторыі".

Відавочна, Грасер, уважліва падышоўшы да арыгінала, свядома апусціў усё другаснае, разумеючы, што трактат толькі выйграе, калі пазбавіцца ўсяго лішняга. Ды і сам Літвін, відаць, пераканаўся, што не трэба абцяжарваць увагу чытача непатрэбнымі падрабязнасцямі.

Заставалася яшчэ высветліць, хто ж такі Літвін. А для даследчыкаў, якія пазнаёміліся з рускамоўнай публікацыяй, сумненняў не выклікала, што дзіўнае прозвішча хутчэй за ўсё — псеўданім. Зрабіць гэта, аднак, аказалася не так і проста. Адразу не ўдалося, а пасля пра Літвіна забыліся, іншыя публікацыі трактата з'явіліся толькі ў канцы дваццатых гадоў нашага стагоддзя. Гэтую таямніцу прыадкрыў вядомы даследчык гісторыі Беларусі і Літвы Міхаіл Любаўскі. Ён у 1929 годзе выступіў з артыкулам у чацвёртым томе "Ученых записей Института истории" з артыкулам, які так і называўся — "Хто быў Міхайла Літвін, які напісаў у палове XVI ст. трактат "Аб норавах татараў, літоўцаў і масквіцян".

Любаўскі пагадзіўся з меркаваннем Грасера, што рукапіс трэба датаваць прыкладна 1550 годам. А базельскі выдавец гэты год назваў невыпадкова. Да гэтай высновы ён прыйшоў пасля ўважлівага прачытання трактата. Літвін, у прыватнасці, сваім сучаснікам называе Івана IV, згадвае шмат якія падзеі, што адбываліся ў час праўлення Жыгімонта Аўгуста. Але Жыгімонт пры гэтым упамінаецца як нябожчык. А вось крымскі хан Сахіп-Гірэй паўстае са старонак трактата жывым. Як вядома, Грозны памёр у 1548 годзе, а Сахіп-Гірэй быў забіты ў 1551-ым.

Значыць свой твор Літвін напісаў недзе ў прамежку паміж гэтымі гадамі — прыкладна ў 1550 годзе.

Каб высветліць паходжанне аўтара, Любаўскі звярнуўся да самага пачатку "Урыўка пятага", дзе Літвін сведчыў: "Руская мова чужая нам, літоўцам, якія паходзяць ад італьянскай крыві". На думку Любаўскага, Літвін "несумненна належаў да таго кола літоўскіх патрыётаў, якія раднілі літоўскі народ са старажытнымі рымлянамі (відаць, у піку палякам, лічылі літоўскіх паноў нашчадкамі "шляхты рымскай", а сваю вялікакняжацкую дынастыю ў радстве з домам Аўгуста-Кесара"). Падобнае меркаванне, даводзіў Любаўскі, асабліва было распаўсюджана сярод маладых людзей, якія змаглі вучыцца ў Еўропе і падарожнічаць па свеце.

Пакінем па-за ўвагай сведчанне Любаўскага наконт паходжання "літоўскага народа". Адно не выклікае сумнення, што пад літоўцам, а калі канкрэтней, літвінам, трэба бачыць, вядома ж, беларуса.

Ускосна пра гэта гаворыць і Любаўскі, прыгадваючы той эпізод з трактата, калі яго аўтар меў магчымасць размаўляць з літоўскім палонным, які даручыў яму перадаць сякія-такія звесткі вялікаму князю. У сувязі з гэтым Любаўскі ўдакладняе, што не выклікае сумнення прыналежнасць Літвіна да прадстаўніцтва літоўскага ўрада ў Крыме. Па сутнасці, ён з'яўляўся дыпламатычным агентам, які насіў імя Міхайла. Інакш кажучы, быў беларускім прадстаўніком ад ВКЛ.

Пошукі ўжо не проста Літвіна, а Міхайлы, які знаходзіўся на дыпламатычнай службе, у рэшце рэшт далі Любаўскаму жаданыя вынікі. Уважліва праглядаючы Літоўскую метрыку, ён старанна шукаў, які ж Міхайла мог накіроўвацца ў Крым. Як высветлілася, ім быў Міхайла Цішкевіч.

Далейшыя пошукі прынеслі Любаўскаму немала звестак пра гэтага Цішкевіча, які ўвайшоў у гісторыю Літвінам. Толькі не ўдалося ўстанавіць год і месца яго нараджэння, а таксама час смерці. Аднак Калачоў, уважліва пазнаёміўшыся з трактатам, выказаў меркаванне, што ёсць усе падставы гаварыць аб знаходжанні ўладанняў Літвіна на тэрыторыі Мазырскага павета.

У астатнім жа, згадваючы пра жыццёвы шлях Літвіна і яго дзейнасць, трэба давярацца Любаўскаму. Ён на падставе архіўных матэрыялаў сцвярджае, што продак аўтара трактата "Аб норавах..." Каленік Цішкевіч з'яўляўся кіеўскім баярынам, які знаходзіўся на службе ў Свідрыгайлы, за што атрымаў шэраг маёнткаў на Кіеўшчыне. Чатыры ўнукі гэтага Цішкевіча — Леў, Васіль, Гаўрыла і Міхайла сталі так званымі дзяржаўнымі дваранамі, яшчэ адзін — Барыс — заставаўся кіеўскім зямянінам.

Міхайла і ёсць той самы Літвін. Праўда, у адрозненне ад братоў, яму ў маладосці не ўдалося дасягнуць такога поспеху, як яны. Асабліва ўдача спрыяла Васілю, які ў 30—40-ыя гады XVI стагоддзя прызначаецца старастам у розныя гарады, а пазней і зусім пайшоў "угору": у 1558 годзе стаў ваяводам Падляшскім і быў ім да самай Люблінскай уніі. Супраць падпісання пагаднення паміж Літвой і Польшчай адкрыта не выступаў, але, паколькі карыстаўся вялікім аўтарытэтам, Жыгімонт Аўгуст усё ж вырашыў задобрыць яго, таму Васіль Цішкевіч атрымаў тытул графа. А вось Міхайла як пачаў службу ў 1533 годзе дзяржаўным дваранінам, так вышэй гэтага звання і не ўзняўся. Апошні ўпамінак аб дзяржаўным дваранінe Міхайлу Цішкевічу датаваны 1552 годам. Асноўнай затрымкай у службовым росце, відаць, стала яго маёмаснае становішча.

Спадчыну ад бацькі Міхайла атрымаў невялікую, таму вымушаны быў сам дбаць аб сваім далейшым лёсе. Выйсце бачыў у багатай жонцы. І пошукі далі жаданы плён: у 1533 годзе Цішкевіч "поняти кнегиню Михайловую Глинськую и с тым имении в повете Волковыйском, Тетеровскою и Красным, на чем муж её, князь Михайло Глиньский, зоставил". Нявеста аказалася не толькі ўдавой, а і значна старэйшай за жаніха. Ды пра такія дробязі разважаць не было часу. Галоўнае, адкрывалася хоць якая перспектыва заняцця належнага месца ў грамадстве.

Міхайла Цішкевіч, нарэшце, быў заўважаны. У 1537 годзе кароль падарыў яму палац (зразумела, з землямі) у Трокскім павеце. Гэта былі ўладанні нейкага дваранiна Міхайлы Пашыча, адабраныя ў яго. Ранейшы ўладальнік не захацеў змірыцца з такой несправядлівасцю і справа дайшла да суда. Але ў суд звяртаўся не Пашыч, які не сумняваўся, што яму наўрад ці ўдасца дамагчыся праўды, а сам Цішкевіч. Пашыч жа дзейнічаў куды больш рашуча. Ён падгаварыў двух парабкаў падпаліць свой колішні палац, які цяпер належаў Цішкевічу. Тыя брудную справу зрабілі, але былі схоплены на месцы злачынства і ва ўсім прызналіся. Цішкевіч і прасіў суд пакараць віноўнікаў.

А страты былі значныя: "дом один на Гридьни выгорел, и иньшие дей хоромы разметаны и попалены, а у в одной светлицы дей было на гвозде повешено осемнадцать панцырев: а два бехтерика, наручья четверы, а двои мисурских бприлбиц, и шоломцов всех было почетверта десят, а в коморе дей было осьм тегиляев полуотласовых, а пять камчатых, а к тому седлы и узды".

Гэты палац знаходзіўся на рацэ Берсецы пад Ейнішкамі і хутчэй за ўсё з'яўляўся галоўнай рэзідэнцыяй Цішкевіча.

Нават з таго, што згарэла ці было пашкоджана агнём часткова, добра відаць, наколькі Цішкевіч жыў не бязбедна. Але гэтае багацце нажыта ім самім. На той час ён займаўся вярбоўкай "службовых" жаўнераў. Прасцей кажучы, падбіраў ахвотнікаў абараняць ускраіны ВКЛ. Затым Цішкевіч камандаваў тымі жаўнерамі, якія былі дастаўлены на Украіну і выступалі супраць татар і туркаў, адбіваючы іх набегі на Княства.

Вядома, што ў 1552 годзе ён служыў там, дзе галоўным начальнікам — як тады казалі, дазорам — з'яўляўся яго брат Васіль, і выказваецца меркаванні, што ён ужо меў званне палкоўніка. Упаўне мог ім стаць, бо, як бачым, павінен быў усё жыццё даказваць, што і сам нечага варты, а тым самым кампенсуючы тое, чаго не дасягнуў у маладосці. А няўдачы на пачатку жыццёвага шляху ім не забываліся. Ускосна аб гэтым можна меркаваць па такім сцвярджэнні ў трактаце "Аб норавах...": "У Літве адзін чыноўнік займае дзесяць пасад, а іншыя аддалены ад урадавых спраў, не як у Маскве, дзе вытрымліваецца роўнасць паміж сваімі і не даюць аднаму іншых пасад. І нават кіраванне адной крэпасцю на год, многа на два даручаюць двум начальнікам разам і двум натарыям" (дзякам — **А. М.**).

Каб дасягнуць "роўнасці" з тымі, хто мае ўладу, Цішкевіч і шукаў любую магчымасць для заняцця пасады, якая б садзейнічала яго службоваму росту. Такая магчымасць з'явілася неўзабаве пасля яго ўдалай (са свядомым разлікам) жаніцьбы. Невядома як, але дамогся накіравання прадстаўніком ВКЛ да крымскага хана, і тым самым па сутнасці стаў адным з першых беларускіх паслоў.

Падзеі разгорталіся наступным чынам. У 1537 годзе Крымская арда, якая перад гэтым была падзелена паміж Сахіп-Гірэем і яго пляменнікам Асламам, зноў стала адной дзяржавай. Адбылося гэта пасля таго, як Аслам быў забіты адным з нагайскіх князёў. А паколькі ён знаходзіўся ў сяброўскіх адносінах з Сахіп-Гірэем, не выклікае сумнення, што забойства адбылося невыпадкова.

Урад ВКЛ і дагэтуль імкнуўся не абвастраць адносін з ханствам, арыентуючыся на Сахіп-Гірэя як на асноўную ўплывовую сілу. Былі дасягнуты папярэднія дамовы аб міры. Задобрыць хана меркавалася і "упамінкамі" — аплаціць перамір'е сукнамі. Таму, калі даведаліся, што Сахіп-Гірэй стаў адзіным правіцелем Арды, паспяшаліся паслаць туды "вялікага пасла", гонар стаць якім і выпаў Цішкевічу. Цішкевіч павінен быў пацвердзіць, што дамова, якая была дасягнута паміж ханам і ранейшым паслом Анікіем Гарнастаем, застаецца ў сіле.

Здавалася б, ніякіх складанасцяў пры гэтым не павінна ўзнікнуць. Ды інакш меркаваў Сахіп-Гірэй. Адчуваючы сваю сілу, разумеючы, што адносіны Княства з Масквой нацягнутыя, а да ўсяго туркі не "забываюць" пра Польшчу, ён вырашыў дыктаваць свае правы. У пасланні Жыгімонту Аўгусту нагадаў, што калі з'явілася першапачатковая дамова аб міры, становішча было іншае. Супраць яго, Сахіп-Гірэя, выступалі "братанічы". Цяпер жа ўся Арда ў яго руках.

Пакуль пасланне ішло ў Княства, Цішкевіч заставаўся пры ханскім двары. Тым самым груба парушаліся тагачасныя міжнародныя прававыя нормы, паводле якіх пасол, калі дамова на папярэдніх умовах адмаўляецца,

*(Працяг на стар. 14)*

## Рупіўся і дзеля Беларусі

**Спаўняецца 75 гадоў з дня нараджэння (памёр у 1978 годзе) украінскага паэта Рыгора Бойкі. Рыгор Піліпавіч нарадзіўся ў г.п. Яленаўка Валнавахскага раёна Данецкай вобласці (Украіна), быў удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны. Шмат зрабіў па прапагандзе беларускай літаратуры. Дзякуючы Р. Бойку ўкраінскі чытач змог пазнаёміцца з асобнымі творамі Максіма Танка, Эдзі Агняцвет, Антона Бялевіча. А пераклады вершаў Янкі Купалы, зробленыя Рыгорам Піліпавічам, увайшлі ў кнігу Я. Купалы "Выбраныя творы", выдадзеную ў Кіеве ў 1953 годзе. Р. Бойка пераклаў таксама зборнік Андрэя Александровіча "Наш дзень". На беларускую мову паэзію нашага ўкраінскага сябра перакладалі той жа А. Александровіч, М. Арочка, М. Аўрамчык, С. Грахоўскі, Х. Жычка, М. Танк, Р. Хацкевіч. У 1963 годзе ў Мінску пабачыла свет кніжка Р. Бойкі "Два Міколы".**

## Патрэбны ў вёсцы чалавек



**Да збору новага ўраджаю падаспелі кошыкі, зробленыя ўмелымі рукамі Канстанціна Аляксандравіча Тарэлка з вёскі Дамашыцы Пінскага раёна. Раней ён працаваў на будоўлі, а потым захварэў. Не сядзець жа інваліду склаўшы рукі — заняўся пляценнем кошыкаў з каранёў, жгута, іншага падручнага матэрыялу. Цяпер няма ніводнага дома ў вёсцы, дзе б не было яго вырабаў.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945—1965

КОНКУРС ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

**Архіў найноўшай гісторыі (пры Беларускім гуманітарным фондзе "Наша Ніва") пры ўдзеле Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны абвяшчае конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945—1965".**

**Мы хочам зацікавіць школьнікаў гісторыяй паўсядзённасці блізкага для нас часу — мінулым сваёй сям'і, атачэння, населенага пункта. Мы хочам заахвоціць да самастойнай даследчай працы, якая патрабуе выкарыстання метадаў дзейнасці гісторыкаў і прыёмаў журналістыкі.**

**У конкурсе могуць узяць удзел навучэнцы сярэдніх навучальных устаноў: школ (пачынаючы з сёмага класа), ліцэяў, гімназій, каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.**

**Форма конкурснай працы — адвольная. Гэта можа быць сачыненне, альбо эсэ, калаж з фотаздымкаў, ці нават фільм, інтэрв'ю і г.д. Галоўнае, праца павінна мець творчы характар. У выпадку нятэкставых форм да працы павінна быць далучана пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследавання і збору інфармацыі.**

**Конкурсная праца падаецца на беларускай мове. Тэксты крыніц могуць падавацца ў арыгінале.**

**Праца можа быць падрыхтавана як індывідуальна, так і групай, самастойна альбо з дапамогай настаўніка, бацькоў, бібліятэкара і г.д. Да працы павінна быць абавязкова далучана метрыка.**

**Працу трэба даслаць у адным асобніку да 15 лістапада (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: 220123, Мінск, а/с 71.**

**Вынікі конкурсу будуць абвешчаны 15 снежня 1998 года. Пераможцаў чакаюць прызы.**

**Усю патрэбную інфармацыі і парады можна атрымаць ад сакратара конкурсу Ірыны Коваль (тэл. (0172) 77-46-25 з 7-00 да 8-00 і з 22-00 да 23-00) па Мінску і Мінскай вобласці, а ў іншых рэгіёнах — ад рэгіянальнага каардынатара конкурсу ў вашай мясцовасці. Звесткі пра каардынатараў будуць надрукаваны ў мясцовай прэсе. Умовы конкурсу ўжо друкаваліся ў газеце "Наша Ніва" (N 10 за 1 чэрвеня 1998 г.).**

# Увайшоў у гісторыю Літвінам

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

адразу накіроўваўся назад. Цішкевічу працягвалі чыніць "лёгкасці", як тады казалі пра розныя перашкоды, што рабіліся свядома. І яго затрымкай хан хацеў узяць ад ВКЛ больш "упамінкаў".

А ў ВКЛ восенню 1538 года быў скліканы сойм, на якім абмяркоўвалася становішча, што склалася. Сойм, як вядома, праходзіў у Навагрудку, а кароль знаходзіўся ў Кракаве, таму да яго накіравалі пасланца Кулзымана, які і паведаміў аб усіх абставінах гаворкі.

Кулзыман атрымаў ад караля ліст, датаваны 1 лістапада 1538 года, які ён павінен быў уручыць крымскаму хану. У лісце чарговы раз напаміналася, што дагавор паміж ВКЛ і Ардой можа быць заключаны толькі на ранейшых умовах. Пацвярджалася гатоўнасць заплаціць "упамінкі", якія вёз хану Цішкевіч, але пакінуў у Кіеве. У той жа час заяўлялася, што калі хан развяжа вайну, то атрымае належны адпор.

Рашучасць і катэгарычнасць падзейнічалі на Сахіп-Гірэя і вясной наступнага, 1539 года ён прыслаў да Жыгімонта Аўгуста свайго ганца Шымка. Хан у рэшце рэшт згадзіўся заключыць дагавор, але пры ўмове, што "ўпамінкі", якія засталіся ў Кіеве, усё ж будуць дастаўлены ў Крым. За гэтым падарункам разам з Шымком адправіўся дваранін Война Араньскі, які меў пры сабе ліст, датаваны 2-м чэрвеня 1531 года.

Дагавор быў падпісаны, хан застаўся задаволены "ўпамінкамі". Пасля гэтага ён адпусціў Цішкевіча дамоў, паслаўшы з паведамленнем аб гэтым да Жыгімонта Аўгуста ганца Аракчэя. Адначасова гаварылася аб гатоўнасці Арды выставіць дапаможны атрад супраць Масквы. Пацвярджалася, што Аракчэй едзе "с листом докончальным и правдою".

10 студзеня 1540 года, пасля нанясення візіту каралю, Аракчэй быў адпушчаны ў Крым.

Міхайла Цішкевіч, як відаць, каля двух гадоў з'яўляўся пасланцом вялікага князя літоўскага і караля Польшчы. Гэтага часу было дастаткова, каб ён змог добра пазнаёміцца з жыццём ханскага двара, побытам мясцовага насельніцтва, яго звычаямі, а таксама прадстаўнікоў іншых народаў, якія з рознай нагоды прыязджалі ў Крым. Канечне, ён мог абмежавацца звычайнай справаздачай аб сваёй рабоце, але вырашыў напісаць цэлы трактат.

Любаўскі гэта тлумачыць тым, што Цішкевіч "кіраваўся не адным патрыятызмам, але і кар'ернымі меркаваннямі, жадаючы звярнуць на сябе ўвагу Караля". Магчыма, не абышлося і без апошняга. Тым больш, як адзначалася вышэй, яму трэба было пастаянна думаць аб кар'еры.

Але будзем шчырымі: "Цішкевіч з'яўляўся асобай неардынарнай і, калі б напачатку меў больш выгаднае маёмаснае становішча, відаць, дасягнуў бы куды большага. А што да патрыятызму, дык у гэтым яму на самай справе нельга адмовіць. "Норавы..." ён пісаў з думкай пра сваю дзяржаву, якую хацеў бачыць магутнай і непадзельнай, пра свой народ, які, па яго перакананні, меў права на лепшае жыццё. А да "нораваў" іншых народаў таму і звяртаўся, што такі прыём дазваляў яму параўнаць становішча ў сваёй краіне і ў іншых, убачыць у чужых дзяржавах лепшае, вартае пераймання і асудзіць сваё, калі яно не ідзе на росквіт Бацькаўшчыны.

На карысць патрыятызму Цішкевіча сведчыць і выбар ім псеўданіма. На гэты крок ён пайшоў усвядомлена і таксама з пэўным разлікам. Калі трактат прачытаюць, абавязкова запомняць не толькі прозвішча, а і прыгадаюць, што ёсць такая дзяржава — Вялікае княства Літоўскае, з якой нельга не лічыцца.

Сутнасць трактата і заключаецца ў тым, што ён не толькі аб дні сённяшнім, сучасным для яго аўтара, колькі скіраваны ў будучыню, калі ВКЛ стане яшчэ больш магутным, а народ яго зажыве больш заможна і шчасліва. Мае рацыю С. Падокшын: "Літвін у мэтах заахвочвання сваіх суайчыннікаў да сацыяльна-маральнай рэфарматарскай дзейнасці свядома ідэалізуе побыт, норавы, некаторыя грамадскія, дзяржаўныя і прававыя інстытуты суседніх народаў і, наадварот, згушчае фарбы, малюючы вобраз жыцця Вялікага княства Літоўскага". І ў падобным падыходзе Літвін не адзінокі: "Такі літаратурны прыём выкарыстаны рускім сацыяльна-палітычным мысліцелем XVI ст. Іванам Перасветавым (дарэчы, нашым земляком, — **А. М.**). Не выключана, што Літвін і Перасветаў былі знаёмы з "Германіяй" Тацыта, у якой апошні крытыкаваў рымскія норавы, супрацьпастаўляў ім простыя і суровыя звычаі германцаў".

Калі ж пагадзіцца з гэтым, дык відочна, што Цішкевіч быў чалавекам высокаадукаваным для свайго часу. Ён сам пісаў па-лацінску, а не прасіў, каб нехта пераклаў яго развагі на гэтую мову.

На першым плане для аўтара трактата — пытанні маральнай дасканаласці асобы, пэўных саслоўяў. Ні на хвіліну не пакідае яго і ідэал дзяржаўны. Цішкевіч неаднаразова прыгадвае "старыя добрыя часы", ён успамінае "залаты век" ВКЛ, шкадуючы, што яны адышлі. І гэта не звычайная настальгія па мінулым, якая нязменна бывае ў кожнага пакалення ды і ў асобнага чалавека, калі ён старэе.

На час напісання трактата Цішкевіч, канечне ж, меў гадоў пад сорак. І асабліва маркоціцца, што, маўляў, цяпер моладзь не тая, як раней,у яго не было асаблівых падстаў. Прысутнічала трывога іншага кшталту. І зусім іншы клопат у яго быў. Як тут не прыгадаць словы, якія, калі давяраць аўтару трактата, былі сказаныя яму татарскім палонным: "Вы павінны асцерагацца, каб не напаткала і вас такая ж доля... І гэтага трэба вельмі баяцца, калі вы толькі настойліва будзеце трымацца тых жа згубленых нораваў, якія вас вядуць прама да пагібелі".

Дарэчы, Цішкевіч выступаў супраць насілля, у якіх бы формах яно ні паўставала. Праўда, пры гэтым ён як бы апраўдваў і некаторыя мясцовыя звычаі. Прынамсі, ён дараваў татарам рабства, але зазначаў, што ў іх у палоне знаходзяцца тыя, хто быў захоплены ў час баёў. Ды і палонныя па законе не маглі ўтрымлівацца ў няволі больш за сем гадоў. А хіба ж можна прыгнятаць уласны народ?! На думку аўтара, падобнае назіралася ў Княстве: "...Мы ўтрымліваем у бесперапынным рабстве людзей сваіх, узятых не вайною і не купляю, а тых, хто належыць не чужому, а нашаму племю і веры, сірот, незаможных, якія трапілі ў сеткі праз жаніцьбу з рабынямі. Мы злоўжываем нашай уладай над імі, нявечачы іх, забіваючы без суда па самым дробязным падазрэнні".

Па перакананні Цішкевіча чалавек можа быць шчаслівым, калі пазбавіцца залішняй раскошы. Яго прываблівала, што "жыццё татар... перашабытнае, пастухоўскае, якое вялі святыя патрыярхі ў залатым веку, з якога выбіраліся правадыры, цары і прарокі". Яго радавала, што ў татар адсутнічалі прыватнаўласніцкія інтарэсы: "У іх няма ні двароў, ні дамоў, акрамя рухомых палатак з пруткоў і трыснягу", набываюць яны толькі самыя неабходныя рэчы. А гэта прыводзіць да таго, што "ўсе жывуць не ў багацці і не ў крайняй беднасці".

Цішкевіч пісаў: "...у варвараў гэтых ніхто, хто жыве ў дастатку, не абжыраецца, ні адзін бедны не памірае ад голаду ці холаду, ніхто ў іх не жабруе... Як рэдка ў іх сустрэнеш марнатраўцу, гэтаксама рэдка напаткаеш таго, хто памірае з голаду, жабрака, лгуна, хціўца, суцягу, несправядлівага суддзю, ілжывага сведку, клятвазлачынца, злодзея, разбойніка. Таму ў іх няма ніякай патрэбы пакутаваць неспакоем аб захаванні сваёй маёмасці".

У пэўнай ступені аўтар трактата выступаў за патрыярхальныя адносіны ў грамадстве. У нечым быў залішне катэгарычны, але ў адным нельга адмовіць яму — у шчырасці, сумленнасці. Цішкевіч сцвярджаў тое, у чым быў перакананы, ад чаго, на яго думку, грамадства толькі выйграе.

У творы ёсць і такое назіранне: "...масквіцяне, лівонцы і прусы беражліва носяць адно адзенне, тады як у нас шмат рознай і дарагой вопраткі". У княстве "харчуюцца дарагой, прывезенай ежай, п'юць розныя віны, таму і прыходзяць розныя хваробы". У татар жа нават "не толькі прасталюдзіны, але і вяльможы і вярхоўны правадыр іх... прыпраў не ўжываюць, а харчуюцца сціпла і танна".

Рашуча выступаў Цішкевіч супраць п'янства: "Таму, што масквіцяне ўстрымліваюцца ад п'янства, гарады іх багатыя стараннымі майстрамі". Звярнуў увагу і на тое, што Іван III "сталіцу сваю ўпрыгожыў каменнымі сценамі і палац свой каменны статуямі па ўзоры Фідзіевых".

Не ведаў, відаць, што многія майстры Масковіі былі перасяленцамі з Беларусі ці прымусова вывезенымі туды. Як і не мог ведаць, што і ў Маскве квітнела п'янства, найперш сярод вышэйшых саслоўяў. І тое, што ён пісаў пра непатрэбную раскошу ў роднай дзяржаве, з поўным на тое правам можна было аднесці і да Масковіі: "Ворагі нашы татары смяюцца з нашай бестурботнасці, нападаючы на нас, пагружаных пасля піроў у сон. "Іван! Ты спіш, — гавораць яны, — а я працую, звязваю цябе..." Смяюцца татары... з таго, як ганаровыя людзі мякка сядзяць у крэслах і спяць, калі праходзіць сумесная служба, а людзям бяднейшага саслоўя не дазваляюць садзіцца..."

І гэтым разам прыклад дабрачыннасці бачыў у іншых народаў: "...у татар нават сам хан не дазваляе быць пры сабе ў сінагозе ні аднаму спадарожніку ці слузе, не жадаючы выдзяляцца ў народзе, не бярэ сабе стул". Ці не таму "з прычыны нядбайнасці нашай аб справах боскіх, крыўд і несправядлівасцяў, якія робім адзін аднаму, яны (мусульмане. — **А. М.**) ганьбуюць (нас. — **А. М.**), асмейваюць, называючы варварамі, нявернымі, якія толькі носяць імя Хрыста, але не выконваюць яго законы".

Закранаючы пытанні рэлігіі, Цішкевіч быў перакананы, што вера чалавека павінна трымацца на вялікіх маральных прынцыпах. Ён выступаў супраць той часткі духавенства, якая паразітавала, нажывалася: "Як трутні ядуць мёд пчол, так яны з'ядаюць працу народа, балююць, апранаюцца раскошна, неабдумана шукаюць духоўных пасад многіх разам..."

Такіх святароў асуджаў незалежна ад таго, да якой канфесіі яны належалі, бо засвоіў ісціну (хацеў, каб гэта зразумелі і іншыя), што сапраўдная маральнасць зусім не ў прыхільнасці да хрысціянства, а ў шчырай веры. І ў гэтым сэнсе Цішкевіч блізкі да Скарыны.

Як засведчана ў трактаце, і каталіцкія святары "не задавальняюцца дзесяцінамі, прынашэннямі і іншымі даходамі, якія яны атрымліваюць ад багатых і бедных, з радзін са шлюбаў, з хворых, памерлых, акрамя багатых маёнткаў дамагаюцца яшчэ, на шкоду грамадскую, кіравання многімі цэрквамі адначасова, супраць права і наперакор сэнсу".

Па ўсім відаць, Цішкевіч быў перакананы, што толькі на гэтым свеце чалавек можа ўзяць тое, што дадзена яму Богам. Таму ён крытыкаваў мусульманскія ўяўленні аб замагільным жыцці, паводле якіх там можна атрымаць сапраўдную асалоду, калі ў паўсядзённасці жыць сумленна. Адначасова Цішкевіч не прымаў наконт гэтага і хрысціянскія догмы. Гаварыў, што мара аб чымсьці лепшым, чым на зямлі, наўрад ці здатна служыць прынцыпам дабрачыннасці.

Аспект пытанняў, закранутых у трактаце, шырокі. Прыхільнік сацыяльнай справядлівасці, Цішкевіч задумваўся над рэфармаваннем сістэмы падаткаабкладання, бо тая, што існавала ў ВКЛ, яго не задавальняла: "...на абарону дзяржавы бярэм мы падаткі з адных толькі падуладных нам бедных гараджан і з бяднейшых аратых, пакідаючы ў спакоі ўладальнікаў маёнткаў". А калі рабіць па справядлівасці, трэба было б падыходзіць дыферэнцыравана: "У каго больш зямлі і плаці ты больш".

Падказваў ён і захады, неабходныя для ўдасканалення судовай справы. Толькі суды, "вольныя ад усялякіх хітрасцей і кручкоў", могуць па-сапраўднаму стаяць на абароне інтарэсаў усіх грамадзян, незалежна ад іх сацыяльнага статусу і саслоўнай прыналежнасці. Ідэал Цішкевічу бачыўся наступны: судам "падпарадкоўваюцца нароўні з простымі людзьмі вяльможы і правадыры і... усе карыстаюцца аднолькавымі правамі". Гэтаксама, на думку Цішкевіча, аднолькава ўсіх павінен тычыцца і прынцып "кроў за кроў". А каб не атрымалася памылак пры разглядзе найбольш цяжкіх злачынстваў — вынясенне смяротнага прыгавору трэба дазволіць толькі вышэйшай судовай інстанцыі.

Урыўкі з трактата, якія дайшлі да нас, заканчваюцца наступнымі словамі: "...ужо закрануў я многіх людзей. Даволі і таго, на што я ўказаў, каб, выправіўшы гэта, жыць нам больш шчасліва, на славу Вашай Каралеўскай Вялікасці, але асабліва на славу Боскую".

Хіба застаецца дадаць — і ў імя Вялікага княства Літоўскага, у імя працвітання беларускай дзяржавы.

Такім і ўвайшоў Міхайла Цішкевіч у гісторыю - Літвінам, які дбаў аб росквіце роднай дзяржавы.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

ПЕРАКЛАДЫ

# З Беларуссю спалучаны...

Яны — гэта даволі значная кагорта польскіх паэтаў XX стагоддзя. Нечакана значная, бо звычайна XIX стагоддзе прымаецца як час самых блізкіх беларуска-польскіх стасункаў: Адам Міцкевіч, Людвік Сыракомля, Адам Плуг, Эліза Ажэшка. А ўсе беларуска-польскія пісьменнікі: Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Аляксандр Рыпінскі, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч! Польскамоўныя вершы і публіцыстыка былі ў Францішка Багушэвіча. Але што не менш прадстаўнічыя імёны ў гісторыю польска-беларускіх адносін упісаў XX век, — пра гэта мы не заўсёды ведаем або мала ці вельмі мала ведаем. Таму нечаканым адкрыццём прыходзіць веданне, бліжэйшае знаёмства з тым, што спалучана ў польскай паэзіі XX стагоддзя з Беларуссю — лёсам жыццёвым і творчым польскіх паэтаў, сюжэтамі, матывамі, вобразамі, зачэрпнутымі іміз беларускіх крыніц, літаральна месцам нараджэння і месцам смерці на зямлі беларускай і некаторых паэтаў, і некаторых паэтэс.

Не пра ўсіх адразу польскіх паэтаў, спалучаных з Беларуссю, сёння будзе ў нас мова, — толькі пра пецярых. Але ўжо ў гэтай першай пяцёрцы хопіць іменаў і гучных, і дасюль вядомых у нас і невядомых, ды сапраўды паяднаных з Беларуссю і вартых любові нашай, увагі і павагі.

Чэслаў Мілаш — (нарадзіўся ў 1911 годзе) першы з польскіх паэтаў лаўрэат Нобелеўскай прэміі. Вершам "Трывога-сон" са зборніка "Хроніка" (1988), які пачынаецца радком "Орша — кепская станцыя. У Воршы цягнік можа стаяць і суткі...", паэт адштурхоўваўся ад рэальнага шляху сваёй біяграфіі: праз Оршу ў дні першай імперыялістычнай вайны сям'я будучага паэта падавалася ў бежанства.

Леанард Падгорскі-Аколаў у 1924 годзе (нарадзіўся ў 1891 годзе, год смерці невядомы) апублікаваў зборнік "Беларусь". З нізкі "Беларусь" узяты для перакладу верш "О Беларусь, зялёная краіна...". Змест верша гаворыць сам пра сябе, але, думаю, зусім не лішне падкрэсліць, што з роду Падгорскіх-Аколавых і наша сучасніца Валянціна Аколава — паэтэса дару трымцлівага, шчымлівага ў сваёй кранальнасці, як бы спадчыннасцю родзіча-продка.

Казімеж Вяжынскі (1894—1969), які ў польскай паэзіі XX стагоддзя ідзе ўпоравень з Ярославам Івашкевічам, Юльянам Тувімам, Канстанты Індэфольсам Галчынскім, у нас зусім невядомы, бо як эмігрант у Савецкім Саюзе вядомасці мець не мог. Але гэта вельмі шырокага творчага дыяпазону паэт. З вершаў яго відаць, як ён любіў Міцкевічаўскую Літву, тыя блізкія і яму мясціны, што па-над Віленкай і Нёманам.

Але ў першай сваёй публікацыі вершаў польскіх паэтаў, над перакладамі якіх я зараз працую для "Анталогіі польскай паэзіі XX стагоддзя", я не магу не прапанаваць аўтараў, можа, самых незвычайных у XX стагоддзі сваім лёсам — Крыстыну Крагельскую і Тадэвуша Міціньскага.

Крыстына Крагельская (1914—1944) нарадзілася ў маёнтку Мазуркі Баранавіцкага павета. Вучылася ў Брэсце. З 1932 года — у Варшаве: штудзіравала этнаграфію ў Варшаўскім універсітэце. Можна перakанацца, што студэнтка-этнограф была незвычайнай прыгажосці, бо гэта якраз яна пазіравала Людвіцы Нітшавай, калі тая дайлідзіла Сірэнку — цяперашні вядомы сімвал польскай сталіцы з Набярэжнай Касцюшкі ў Варшаве.

Каменная Сірэнка ўвекавечыла Крыстыну Крагельскую, ды памятаюць яе равесніцы-варшавякі і пад псеўданімам Данугы — як адну з баявых удзельніц Варшаўскага паўстання 1944 года. У паўстанні Крыстына Крагельская загінула, магіла яе невядома.

І — наадварот — вядома магіла вялікага польскага паэта пачатку XX стагоддзя Тадэвуша Міціньскага (1873—1918): яна — у Беларусі, на Магілёўшчыне. Народжаны ў Лодзі, Тадэвуш Міціньскі быў чалавекам вялікіх дарог — ад Мадрыда да Масквы. У Іспаніі ён ажаніўся з памешчыцай-паляшучкай. Першая сусветная вайна яго застала на Палессі. У 1915—1917 гадах паэт у Маскве. Актыўны літаратар, ён неўзабаве стаў і афіцэрам корпуса Доўбар-Мусніцкага. Але быў расстраляны як прыватная асоба, вяртаючыся з пахавання родзічкі, з Палесся ў Маскву. Магіла яго знаходзіцца ў Малых Матынічах пад Чачэрскам. Пра Палессе Тадэвуш Міціньскі напісаць не паспеў. Але ў польскай паэзіі пачатку XX стагоддзя ён быў папераддзе "Маладой Польшчы", ён быў прадвесцем таго, што ў польскай паэзіі сцвердзяць "Авангарда", "Скамандры", "Квадрыга", "Жагары", — на ўсе гэтыя паэтычныя школы польскай паэзіі першай паловы XX стагоддзя Тадэвуш Міціньскі аказаў несумненны ўплыў.

**Алег ЛОЙКА**

Чэслаў МІЛАШ

## Трывога-сон

*Орша — кепская станцыя. У Воршы*
*цягнік можа стаяць і суткі.*
*Дык, можа, гэта і ў Воршы*
*згубіўся я, шасцігадовы,*
*А цягнік бежанцаў рушыў,*
*пакідаючы мяне*

*Назаўжды. Я ж як бы зразумеў,*
*што буду кім іншым,*
*Паэтам іншай мовы, з іншым лёсам.*
*Як быццам бы я прадугадваў*
*сваё кананне ля берагоў Калымы,*
*Там, дзе дно мора збялела*
*людскімі чарапамі,*
*І вялікая трывога мяне тады агарнула,*
*Тая, што зрабілася мацерай*
*усіх маіх трывог.*

*Трепет малого перед большим.*
*Перад імперыяй.*
*Якая ідзе і ідзе на захад,*
*узброеная лукамі, арканамі, пэпэша,*
*Пад'язджаючы на тачанцы,*
*грукочучы кучару ў плечы,*
*Альбо джыпам, у папахах,*
*з картатэкай заваяваных краін.*
*А я — нічога, толькі ўцякаю,*
*сто гадоў таму назад, трыста*
*Па лёдзе і на сажонкі, удзень, ноччу,*
*каб, чым далей,*
*Пакідаючы над радзіннай ракой дзіравы*
*шчыт і куфар з прывілеямі караля —*
*За Дняпро, пасля за Нёман,*
*за Буг, за Віслу.*

*Аж прыбываю ў горад высокіх дамоў;*
*доўгіх вуліц,*
*І трывога мяне мучыць,*
*бо дзе мне, вяскоўцу, да іх,*
*Бо прыкідваюся толькі, што разумею,*
*аб чым так хутка трактуюць,*
*І намагаюся схаваць перад імі*
*свой сорам, мой пройгрыш.*
*Хто мяне тут накорміць,*
*калі іду хмарным світанкам*
*З дробнай манетай у кішэні,*
*на адну каўку, не болей?*
*Уцякач з дзяржаў прымройных,*
*каму тут буду патрэбны?*
*Сцены каменныя, сцены абыякавыя,*
*сцены жахлівыя.*
*Парадак не майго, а іх розуму,*
*Цяпер ужо згадзіся, не ёрзай.*
*Не ўцячэш далей.*

Леанард ПАДГОРСКІ-АКОЛАЎ

## З нізкі "Беларусь"

*О, Беларусь, зялёная краіна,*
*Далёкі мой і незабыўны краю,*
*Дзе і цяпер, ласкаючы раўніны,*
*Вясновы вецер сонна уздыхае.*

*Там над разлітых рэк*
*блакітнай тонню*
*Ў задуме залатой чароты дрэмлюць.*
*Жаўрук дрыготкі ціш дрыгоціць звонню*
*І шпак ляціць на сплужаныя землі.*

*Сапфірныя шумяць шырока сосны,*
*Сад мякка хвейнасць яблынек калыша,*
*Гне голаў елка ветру ў такт выносна*
*І золатам гарыць падхмарных шышак.*

*І дом цішэе аднапавярховы*
*З шкляной верандай і драўляным ганкам,*
*Прыадчыніўшы дзверы напалову,*
*Дзе мухі папрывыклі грэцца ўранку.*

*А па-над домам смех блакіту,*
*ззянне*
*Таполі поруць нема і заўзята,*
*А шчэ вышэй — буслова клекатанне,*
*Маланак пабліск... ды —*
*мяне няма там.*

*Палёў пустэча, бор бясконцы,*
*Вецер, бы вытрас моху мех,*
*Позірк прыземленых аконцаў*
*З-пад шапак саламяных стрэх.*

*Сык конікаў на сенакосах,*
*Лапцей халаднаватых ход,*
*Дым над бядой светлавалосых,*
*Задумных пастухоў чарод.*

*І ворывы твае ўсе, жнівы,*
*Евангелле тваё ўсё, роль,*
*Далонню, дый нелітасціва*
*Нібы на раны, сыпле соль;*

*Кранае сонца ўжо аблокі,*
*Вядзе з санлівай ноччу бой...*
*Над сэрцам кружыць край далёкі,*
*Як жаль: далёкі, блізкі, мой.*

Казімеж ВЯЖЫНСКІ

## У нас, на Літве

*Калісь у нас, на Літве,*
*на лугах на вясновых*
*Жабак лавіў я, малых і зялёных, лоўка,*
*Гнёзды зязюляў шукаў*
*у гадзінніках сонных,*
*А мышэй шкадаваў, што траплялія*
*ў мышалоўкі,*
*І засынаў я соладка там пад казкі,*
*Як незразумелая поўня праз імглу фіранкі*
*На сцяне абояў развінала*
*фантастычныя паскі*
*І са срэбнай лямпай*
*на зашклёным спынялася ганку.*

*І пеўня свойскага меў тады я, вёрткі,*
*І са стала верабейчыкам крошкі*
*згортваў ручкай,*
*А дзядуля наведваў, стаяў я каля форткі,*
*Дзед мне й сёстрам*
*па пяць рублёў уручваў.*

*А бусел гняздом нам здобіў дах стадолы,*
*Сад памятаю, клумбы, альтанкі холад,*
*Потым мы ездзілі ў Вільню ўжо, у школу,*
*Літва канчалася, а пачынаўся горад,*

*І ўсё канчалася, наймілейшае ў лёсе,*
*Адзіная радасць, шчасце адно,*
*што ратуе, —*
*Стаяў пры акне я тады, і горкія слёзы*
*Ліліся, ліліся... там і цяпер стаю я.*

Крыстына КРАГЕЛЬСКАЯ

## Гэй, хлопцы, штыкі прымкні!..

ПЕСНЯ

*Гэй,хлопцы, штыкі прымкні!*
*Шлях далёкі, шлях доўгі прад намі,*
*Сэрцы моцныя карабін вабіць,*
*Граната ў далані, штык — на рулі.*

*Свет дасвецца з'яснее,*
*ветрык вочы абвее,*
*На грудзях палягчэ, кроў зарою ўзгарыць,*
*І вясёлкаю песня па-над намі ўваскрэсне*
*Ў мерным рытме марша: раз, два, тры...*

*Гэй, хлопцы, штыкі прымкні!*
*Шлях далёкі, доўгі прад намі,*
*стома, спёка, сувой,*
*Па перамогу мы, маладыя, ідзём у бой...*
*Граната ў далані, штык — на рулі.*

*Ночка нам небасхілы роем зор заіскрыла,*
*Пыл шляхоў стужкі беліць ад зары да зары,*
*З новай Польшчай, што ў сэрцы,*
*з перамогай, што крыліць,*
*Марш у маршы мерным: раз, два, тры...*

*Гэй, хлопцы, штыкі прымкні!*
*Бо хто знае, дзе дзень той, дзе тая зара,*
*Дзе загад той, што ўжо,*
*што ўжо крочыць пара —*
*Граната ў далані, штык — на рулі.*

Тадэвуш МІЦІНЬСКІ

## Вампір

*Моляцца духі цёмных запруд,*
*моліцца сэрца крывавае.*
*У чэравах трумаў плача люд,*
*плача і сэрца крывавае.*
*Даль ад гарматных здуднела грымот,*
*і сэрца дуднее крывавае,*
*Штыкі папаўзлі п'яных рот,*
*і сэрца паўзе крывавае.*
*Пагромы, разня трасуць брук і двор,*
*і сэрца трасецца крывавае.*
*Гасяць вампіры вечнасць зор*
*і сэрца гасяць крывавае.*
*Згвалчаны целы — пусташ траў —*
*згвалчана цела крывавае.*
*Певень трыумфальна запяяў —*
*змоўкла сэрца крывавае.*

ФРАГМЕНТЫ

# Рэлігіі пустынь і лясоў

***Хіросі МАТАЯМА (нар. у 1925 г.) — сусветна вядомы парапсіхолаг і вучоны. Яго выхаванне пачалося з пяці гадоў; дзякуючы духоўным практыкам і аскетызму к 20-ці ён дасягнуў такой ступені дасканалення, што мог бачыць мінулае таго ці іншага рода, чалавека, мясцовасці, а пры неабходнасці — і будучае. Ад філасофіі доктар Матаяма перайшоў да вывучэння псіхафізіялогіі і медыцыны, у 1960 г. заснаваў у Токіо Інстытут рэлігійнай псіхалогіі. Выдаў каля 50-ці кніг, займаецца "духоўнымі кансультацыямі" і лячэбнай практыкай.***

***Прапануем вашай увазе ўрыўкі з кнігі Хіросі Матаямы "Карма и реинкарнация" (Минск — Москва, Вида-Н-Либрис, 1997).***

"Рэлігійныя гісторыкі часта абмяркоўваюць адрозненні паміж рэлігіямі пустыні, г. зн. Захаду, і рэлігіямі лесу, г. зн. Усходу. Ёсць у гэтых дыскусіях моманты, якія супадаюць з маім пунктам гледжання адносна таго, што ніводная з існуючых рэлігій не можа па сутнасці ператварыцца ва універсальную. (...)

Пустынныя рэгіёны бедныя на ваду. Пошук і здабыванне вады былі жыццёва важнай задачай старажытных плямёнаў пустыні. Іх стыль жыцця і ідэалогія засноўваліся менавіта на гэтым пошуку. (...)

У асяроддзі, дзе не можа быць альтэрнатыўных меркаванняў, натуральным чынам развіваецца раздзяленне паміж адзінкавым і агульным, розумам і аб'ектам, чалавекам і Богам. Гэта можа быць сфармулявана, як лагічнае дапушчэнне, што А гэта толькі А і ніяк не Б. Дзве асноўныя рысы рэлігій, што зарадзіліся ў пустыні — як, напрыклад, іудаізм, хрысціянства, іслам — выяўляюцца ў выразным раздзяленні чалавека і Бога і ў тым, што чалавек ніколі не можа стаць Богам.

У супрацьлегласць гэтаму рэлігіі, што ўзніклі ў багатых вадою землях Паўднёвай Азіі, да прыкладу — буддызм, прапаведуюць, што чалавек можа стаць Буддай. У індуізме, даасізме і сінтаізме нацыянальныя героі і продкі ўшаноўваліся, як багі. Чалавек здольны стаць Богам. (...) Суб'ект і аб'ект не падлягаюць раздзяленню. (...)

Рэлігіі пустынь і лясоў абазначаюць Абсалют у тэрмінах, уласцівых іх ідэалогіі. Рэлігіі пустынь ствараюць уяўленне пра ўсемагутнага Бога, які валодае чалавечымі якасцямі і які з'яўляецца Тварцом Сусвету. Многія іуда-хрысціянскія ідэі закранаюць тэму прымірэння і суіснавання такіх чалавечых рысаў і ўсемагутнасці.

Жыццё ў такім суровым асяроддзі, якім з'яўляецца пустыня, спалучана з вялікімі цяжкасцямі, і людзі там натуральна аб'ядноўваліся ў племянныя супольнасці. Каб такая супольнасць належным чынам функцыянавала, неабходна было прыняць нейкія правілы, з якіх найбольш фундаментальнымі зрабіліся дзесяць запаведзяў. Парушальнікі гэтых правілаў жорстка караліся патрыярхальнымі ўладамі. (...)

...Рэлігіі, якія ўзніклі ў пустыні, маюць на ўвазе, што чалавечае жыццё здараецца толькі аднойчы — яны адмаўляюць метампсіхоз (перасяленне душ). Рэлігіі, якія развіліся ў лясах, лічаць, што чалавек і ўсё жывое ў сусвеце рэінкарнуюцца зноў і зноў і што жыццё ёсць вечны працэс.

Адрозненні ў сітуацыях і паводзінах людзей таксама назіраюцца ў гэтых двух тыпах ідэалогій. У сапраўднасці паняцце пра зло і няроўнасць аказалася досыць праблематычным для рэлігій пустыні. (...)

Тут узнікае мноства пытанняў. Якая ж зыходная прычына самавольных дзеянняў? Калі мы ўсе створаны па вобразе бога, як мы растлумачым няроўнасць у магчымасцях, асяроддзі, фізічных якасцях, здароўі, сацыяльным становішчы? І перш за ўсё — як людзі, створаныя богам, валодаючыя дасканалай дабрадзейнасцю, здольныя рабіць зло?

У рэлігіях лесу, як мы бачым з гэтай кнігі, ёсць адказы на гэтыя пытанні ў выглядзе тэорыі аб карме і рэінкарнацыях — функцыях, што кіруюцца Абсалютам. Чалавек адказны за свае ўчынкі, і плады гэтых учынкаў вызначаюць абставіны яго сённяшняга і будучага. Тое, што мы называем злом, ёсць усялякае дзеянне на дабро свайго эга за кошт іншых людзей. Добрыя ўчынкі вядуць да гармоніі з Абсалютам, кепскія — да адлучэння ад яго. Кармічная тэорыя дазваляе растлумачыць адрозненні і няроўнасць паміж людзьмі. (...)

Я лічу, што эвалюцыя цэласна зарыентаванай рэлігійна-філасофскай сістэмы будзе засноўвацца на навуковым пошуку і на вышэйшых духоўных прынцыпах."

ЗГАДКІ

# Неацэнны падарунак

ЗДАРЫЛАСЯ гэта ў лістападзе 1943-га года.

Варонежскі фронт. Пасля чарговай баявой калатнечы пярэдні край на няпэўны час ахінула зацішша. Байцы — кожны па-свойму — вызваляліся ад нервовай напружанасці, імкнуліся хоць на колькі імгненняў у думках-мроях трапіць у былое, спаткацца з дарагімі роднымі, блізкімі, знаёмымі...

Мінамётчыкі разліку, якім я камандаваў, сышліся ў купку каля баявой пазіцыі і, пакурваючы, гаманілі і гаманілі. Зноў і зноў чуліся бадзёрыя выгукі, залівісты смех.

Я сядзеў на камандна-назіральным пункце, крышку воддаль ад гэтай ажыўленай купкі, і міжволіназіраў за ёю. Цешыла жыццярадаснасць маіх хлопцаў — насоў не вешалі і ў самыя суровыя франтавыя будні.

Праз нейкі час заўважыў — да мінамётнага разліку прастуе ротны паштавік. На фронце гэта быў невыказна дарагі чалавек. Пры яго з'яўленні думалася кожнаму: а можа, гэтым разам і мне падасць пісямко?..

Наблізіўшыся да хлопцаў, паштавік адкрыў сумку, дастаў адтуль штосьці большае за пісьмо і паказаў наводчыку Сінёву. Той зіркнуў і тут жа выгукнуў:

— Таварыш старшы сяржант, вам бандэроль!

Я ўскочыў і пашыбаваў да паштавіка. Ухапіўшы бандэроль, прачытаў на ёй: з горада Уральска, ад Ілы Элькінда...

У памяці імгненна мільганула: Ільюк, аднакурснік-студэнт нашага БДУ, з якім разлучыла нас вайна. Лёс закінуў мяне ў Мардовію, пад Саранск. Там, пасля некалькіх месяцаў настаўнічання ў школе, быў мабілізаваны ў армію і 5-га мая 1942-га зведаў першы бой. А дзе дзеўся Ілья — не ведаў. І вось — вестка ад яго. Ды не проста вестка — бандэроль...

Дрыготкімі рукамі раскрыў пасылачку. У ёй была невялікая кніжачка: "Памяці Янкі Купалы". На цёмна-шэрай вокладцы — партрэт народнага паэта, даты яго жыццёвага шляху — "1882—1942". На тытульным лісце — аўтограф: "Лепшаму сябру майму ў дні Айчыннай вайны ад шчырага сэрца Ілья Элькінд. Хай гэта маленькая кніжка будзе табе вечным успамінам аб нашай вялікай радзіме Беларусі. Ілья Эд. 1/10 1943 г. г. Уральск".

У бандэролі быў і вялікі ліст ад сябра. Высветліў ягоны шлях-пуцявіну ў грымотны ваенны час: выбраўшыся з ахопленага агнём Мінска, ён апынуўся ў горадзе Уральску. Непрыдатны па стане здароўя да мабілізацыі ў армію, настаўнічае ў адной з уральскіх школ. Наладзіўшы сувязі з сябрамі-філфакаўцамі па БДУ, які пачаў працаваць пад Масквой, дазнаўся пра мой франтавы адрас. І вось падаў весточку. І даслаў неацэнны скарб — кнігу "Памяці Янкі Купалы"...

Пра смерць Янкі Купалы крыху больш за год назад я ўведаў з тагачасных газет, што даходзілі да нас, франтавікоў. Там былі толькі кароткія афіцыйныя паведамленні. А цяпер трымаў у руках кніжку пра тую жалобную падзею.

У суровы, бязлітасны час вайны ў Маскве знайшліся патрыёты, якія адгукнуліся на невымоўную бяду беларускага (і не толькі беларускага) народа — смерць яго песняра Янкі Купалы. Паспрыяўшы эвакуіраванаму з Мінска выдавецтву ЦК КП/б/Б "Савецкая Беларусь", маскоўская друкарня "Красный пролетарий" 26/VI. 1943 г. падпісала да друку кнігу "Памяці Янкі Купалы". Тыраж — 5000 экземпляраў. Рэдактар — П. Глебка, карэктар — А. Броўка. У кніжцы — 71 старонка.

Пачынаецца кніга паведамленнем Савета Народных Камісараў БССР, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Цэнтральнага Камітэта КП/б/ Беларусі "аб смерці народнага паэта Беларусі, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР, выдатнага дзеяча, акадэміка Янкі Купалы (Івана Дамінікавіча Луцэвіча)". Другое жалобнае паведамленне — "Ад Праўлення Саюза Савецкіх пісьменнікаў СССР і Праўлення Саюза Савецкіх пісьменнікаў БССР".

Некралог "Памяці Янкі Купалы" падпісалі: "П. Панамарэнка, І. Былінскі, Н. Наталевіч, П. Калінін, В. Малін, Л. Цанава, А. Матвееў, І. Крупеня, Т. Гарбуноў, Н. Аўхімовіч, Г. Эйдзінаў, І. Рыжыкаў, М. Зімянін, К. Кісялёў, А. Талстой, Якуб Колас, А. Фадзееў, Новікаў-Прыбой, В. Катаеў, Ілья Эрэнбург, Анна Караваева, В. Стаўскі, Л. Сейфуліна, Лебедзеў-Кумач, В. Бахмецьеў, К. Трэнёў, А. Суркоў, А. Карнейчук, Ванда Васілеўская, М. Рыльскі, П. Тычына, П. Цвірка, П. Маркіш, М. Святлоў, А. Твардоўскі, М. Ісакоўскі, П. Скосараў, Л. Ляонаў, Ф. Гладкоў, М. Ціханаў, А. Пракоф'еў, С. Гарадзецкі, Л. Александроўская, М. Лынькоў, К. Крапіва, К. Чорны, А. Кучар, П. Глебка, П. Броўка, М. Танк, М. Машара, А. Астрэйка, І. Гурскі, П. Панчанка.

Грунтоўны разгляд творчай спадчыны народнага паэта Беларусі, яго ўклад у культуру роднага краю і сусветную культуру зроблены ў публікацыі "Янка Купала. Кароткі біяграфічна-крытычны нарыс" (16 старонак). Яе аўтар — Кузьма Чорны.

Глыбока кранальнае, сардэчна ўзрушанае пахавальнае слова "Над магілаю друга" прысвяціў Купалу Якуб Колас, у тым ліку і вершаванае:

*Падбіўся ў дарозе ты,*
*дружа,*
*І вочы пагаслі твае.*
*У шуме жыццёвае сцюжы*
*Байца-песняра не стае.*

*Спі спакойна,*
*спачывай —*
*Не забудзе цябе край.*

*Не суджана, знаць,*
*табе, браце,*
*На родныя гоні зірнуць*
*І ў нашай разбуранай хаце*
*Народ да работы гукнуць.*

*Спі, мой дружа,*
*спачывай —*
*Не забудзе цябе край...*

Далей у кнізе змешчана інфармацыя пра купалаўскую пахавальную працэсію, названы прадстаўнікі партыйных, грамадскіх, творчых арганізацый, што з'явіліся на паніхіду з усяго Савецкага Саюза і з-за мяжы. Развітальныя прамовы некаторых з іх надрукаваны: сакратара ЦК КП/б/Беларусі У. Гарбунова, Кандрата Крапівы, Л. Александроўскай, украінца Пятра Панча, літоўца Пятраса Цвіркі, югаслаўскага паэта Радуле Стыйенскага, рускага драматурга Канстанціна Трэнёва, яўрэйскага паэта Пераца Маркіша, татарскага паэта А. Ерыкеева, намесніка Старшыні Саўнаркома БССР І. Крупені.

Жалобныя тэлеграмы на імя ўрадавай камісіі па арганізацыі пахавання Купалы, на імя сям'і нябожчыка, на імя Саюза Савецкіх пісьменнікаў Беларусі называюцца ў артыкуле "Глыбокі жаль".

Апублікаваны дзве ўрадавыя пастановы:

1. Савета Народных Камісараў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Бюро ЦК КП/б/Беларусі ад 2 ліпеня 1942 г. — "Аб літаратурнай спадчыне народнага паэта БССР Янкі Купалы": "Усе літаратурныя працы: кнігі, рукапісы, выданыя і нявыданыя, пісьмы, перапіску народнага паэта з грамадскімі дзеячамі, фатаграфіі і іншыя матэрыялы, якія адносяцца да жыцця і дзейнасці паэта, лічыць дзяржаўнай уласнасцю Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі".

2. Савета Народных Камісараў Саюза ССР: "Устанавіць сям'і нябожчыка персанальную прэмію пажыццёва: маці паэта Янкі Купалы — Луцэвіч 500 рублёў у месяц, жонцы паэта — Луцэвіч В. Ф. 500 рублёў у месяц".

Кніга "Памяці Янкі Купалы" даволі багата ілюстравана.

Адкрываецца яна шырокавядомым партрэтам Песняра. На 17-й змешчаны здымкі Янкі Купалы 1922 і 1939 гадоў, пакоя ў Пячышчах, дзе жыў у апошні час Янка Купала, здымкі збролeныя ля труны Янкі Купалы ў часе грамадзянскай паніхіды.

Такі вось неацэнны падарунак прыслаў мне восенню 1943-га на Варонежскі фронт сябра. Для мяне, нядаўняга студэнта-філфакаўца, Янка Купала быў кумірам. Яшчэ са школьных гадоў. Сталася ж так, што на другім годзе вучобы мне пашчасціла й пабачыць Янку Купалу, паслухаць яго...

Гэта было ў 1940 годзе. Беларусь адзначала 35-годдзе творчай дзейнасці народнага паэта. У тэатры оперы і балета адбываўся ўрачысты вечар, прысвечаны гэтай знамянальнай даце. На яго з'ехаліся слынныя дзеячы культуры з усёй Савецкай краіны. Нейкім чынам удалося трапіць на той вечар і мне. Я не адрываў позірку ад сцэны. З дрыготкім захапленнем слухаў выступленні тых, чые кнігі вывучаў і ў школе, і ва універсітэце.

Запомнілася, вядома ж, натхнёная, узрушаная прамова юбіляра, які сардэчна дзякаваў усім выступоўцам за шчырыя віншаванні і пажаданні ў свой адрас, выказаў некалькі думак-меркаванняў пра тагачасныя справы ў беларускай літаратуры...

Вось чаму кніга "Памяці Янкі Купалы" была для мяне вельмі дарагой — як жывая згадка-ўспамін пра родную Бацькаўшчыну, пра любых сэрцу людзей.

**Іван КУДРАЎЦАЎ**

ВЕРНІСАЖ



Малюнкі Алега КАРПОВІЧА


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі** — 2848-461
**намеснікі галоўнага рэдактара** — 2848-525, 2847-985

**АДДЗЕЛЫ:**

**публіцыстыкі** — 2848-204
**пісьмаў і грамадскай думкі** — 2847-985
**літаратурнага жыцця** — 2848-462
**крытыкі і бібліяграфіі** — 2847-985
**паэзіі і прозы** — 2848-204
**музыкі** — 2848-153
**тэатра, кіно і тэлебачання** — 2848-153
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў** — 2848-462
**навін** — 2848-462
**мастацкага афармлення** — 2848-204
**фота-карэспандэнт** — 2848-462
**бухгалтэрыя** — 2366-071





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3560
Нумар падпісаны ў друк 10.9.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 5403/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12